БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРЫ
ДЗЯРЖАЎНАЯ ІНСПЕКЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АХОВЕ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ
КАМІТЭТ ПА АРХІВАХ І СПРАВАВОДСТВУ
НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСІ
НАЦЫЯНАЛЬНЫ НАВУКОВА-АСВЕТНЫ ЦЭНТР ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ ПРЫ МІНІСТЭРСТВЕ АДУКАЦЫІ І НАВУКІ РБ

# ВЯРТАННЕ-3

## ЗБОРНІК АРТЫКУЛАЎ І ДАКУМЕНТАЎ

Выдадзены коштам
Эксперыментальнага
комплекснага прадпрыемства
**"Светоч"**

Мінск 1996

ББК Ч 774
В-99

Складальнікі:
Аркадзь Тоўсцік
Мая Яніцкая
Рэдакцыйная калегія:
Надзея Высоцкая
Адам Мальдзіс (гал. рэд.)
Аляксандр Міхальчанка
Таццяна Рошчына
Аркадзь Тоўсцік
Мая Яніцкая
Адказная за выпуск:
Таццяна Рошчына

В-99 **Вяртанне–3:** Зборнік артыкулаў і дакументаў / Беларус. фонд культуры. — Мн., 1996. — 256 с.

Матэрыялы зборніка прысвечаны праблемам вяртання нацыянальных культурных каштоўнасцей у кантэкст культуры Беларусі, а ў выпадках наяўнасці юрыдычных падстаў (згодна з міжнародным правам) — фізічнага вяртання ў Беларусь каштоўнасцей, якія ў розныя часы былі вывезены за яе межы.

У зборніку прадстаўлены матэрыялы Міжнароднага "круглага стала", прысвечанага стратам Беларусі ў час Другой сусветнай вайны, звесткі пра беларускія экспанаты і архіўныя матэрыялы ў сховішчах Масквы, Санкт-Пецярбурга і інш. Большасць дакументаў друкуецца ўпершыню.

В $\frac{4400000000-008}{\text{М } 332-96}$ без аб'яўл. ББК Ч 774

## *Шаноўны чытач!*

Ты адкрываеш першую старонку трэцяга выпуску зборніка дакументаў і архіўных матэрыялаў па праблемах пошуку і вяртання нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь. Адно толькі тое, што гэта ўжо трэці выпуск, сведчыць аб вялікай працы, праробленай камісіяй "Вяртанне" Беларускага фонду культуры, Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф.Скарыны, усімі, хто дапамагаў нам у гэтай высакароднай патрыятычнай справе.

"Вяртанне", як можна бачыць ад выпуску да выпуску, становіцца працай не проста пошуку скарбаў і рарытэтаў. Яно становіцца працай адраджэння і ўзвышэння нацыянальнай самасвядомасці аднаго са старажытных народаў Еўропы, адметнага сваёю мовай і культурай, якія, як гэта і належыць, з'яўляюцца вышэйшай меркай дзяржаўнасці.

Нас, беларусаў, мала, а заўтра, улічваючы наступствы Чарнобыльскай катастрофы, можа стаць яшчэ менш. Нас ратуе і павінна выратаваць наша выключнасць — выключнасць культурная, моўная, геапалітычная. Гэтая выключнасць якраз і закладзена ў гістарычнай спадчыне, той, якой мы валодаем, і той, якую ад нас забралі войны, рабаўнікі (чужынцы і свае), палітыкі (чужыя і свае). Таму сёння асноўнай задачай сваёй Беларускі фонд культуры, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны лічаць выяўленне месцазнаходжання, утрымальнікаў духоўных каштоўнасцей беларускага народа з тым, каб з дапамогай афіцыйных структур прад'явіць патрабаванні дзеля законнага вяртання іх на Радзіму.

Але гэта толькі пачатак вялікай працы, да якой мы імкнемся далучыць як мага больш інтэлігенцыі, грамадскія арганізацыі краязнаўцаў, аховы помнікаў, творчыя саюзы, установы культуры. Толькі разам, толькі агульнымі намаганнямі мы зможам зрушыць з месца гэтую справу.

Сапраўды, гэта толькі пачатак! Таму што, калі мы хочам падняць на новы, больш высокі ўзровень патрыятычнае выхаванне ў нашай краіне, нам давядзецца ўсвядоміць такія паняцці, як вяртанне на радзіму імёнаў вялікіх людзей, што сталі вядомымі ў свеце і, на жаль, мала вядомыя на сваёй

радзіме: Сапега, Радзівіл, Міцкевіч, Манюшка, Шагал, Гашкевіч, Зан. Дамейка, Глінка, Маневіч — колькі іменаў тых, хто патрабуе вяртання ў хрэстаматыю нашай спадчыны! Ад таго, як хутка гэта адбудзецца, залежаць і наш уваход у цывілізаваны свет, павага да нас з боку цывілізаванага свету, прызнанне нашай дзяржаўнасці.

Вяртанне гістарычных назваў мястэчак, вёсак, вуліц — яшчэ адзін аспект будучай дзейнасці як Фонда культуры, так і яго Камісіі.

І няхай не будзе стомы кожнаму, хто прыгарнуўся душой да вялікага патрыятычнага дзеяння — пошуку і вяртання беларускіх нацыянальных каштоўнасцей на родную зямлю!

Шаноўны чытач! Ты прачытаеш апошнюю старонку гэтай незвычайнай кніжкі. Спадзяемся, што яна не пакіне цябе абыякавым да лёсу нашай спадчыны. І мы запрашаем цябе ўнесці свой пасільны ўклад у гістарычную справу духоўнага адраджэння Бацькаўшчыны.

***Уладзімір Гілеп***
*Старшыня праўлення Беларускага фонду культуры*

# МАТЭРЫЯЛЫ
# МІЖНАРОДНАГА
# "КРУГЛАГА СТАЛА"
# "ЛЁСЫ БЕЛАРУСКІХ
# МАТЭРЫЯЛЬНЫХ
# І ДУХОЎНЫХ
# КАШТОЎНАСЦЕЙ
# У ЧАС
# ДРУГОЙ
# СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ
# І ПАСЛЯ ЯЕ
# (ПЕРАМЯШЧЭННЕ,
# ВЫЯЎЛЕННЕ,
# ВЯРТАННЕ)"

18 мая 1995 г., у межах II Міжнароднага кангрэса беларусістаў у Мінску адбылося пасяджэнне Міжнароднага круглага стала, прысвечанага беларускім музейным, бібліятэчным і архіўным зборам, якія загінулі ў час Другой сусветнай вайны або яшчэ не адшуканы. Акрамя беларускіх вучоных і спецыялістаў у пасяджэнні прынялі ўдзел іх калегі з Германіі, Расіі і Украіны. Старшынствавалі прафесар Адам Мальдзіс (Беларусь), прафесар Віктар Акуленка (Украіна).

Далей змяшчаюцца тэксты трох дакладаў, зробленых у час Круглага стала, а таксама скарочаны запіс выступленняў у дыскусіі, зроблены кандыдатам мастацтвазнаўства Маяй Яніцкай, і прынятае падсумаванне.

*Адам Мальдзіс*
*прафесар, старшыня грамадскай камісіі "Вяртанне" Беларускага фонду культуры.*

## Трагічныя лёсы беларускіх музейных, бібліятэчных і архіўных збораў у час Другой сусветнай вайны

Як вядома, у час Другой сусветнай вайны ў Беларусі загінуў кожны чацвёрты яе жыхар. Апошнім часам даследчыкі павялічваюць гэтую лічбу: кожны трэці! Былі разбураны многія беларускія гарады, спалены вёскі, знішчаны помнікі архітэктуры. Зразумела, не пашкадавала вайна і музеі, бібліятэкі, архівы. Па маіх звестках, больш-менш захаваліся толькі калекцыі Гродзенскага і Слонімскага гістарычных музеяў. У сувязі з гэтым ніяк немагчыма згадзіцца з высновамі Рабочай групы па лёсах твораў мастацтва, якія былі вывезены з СССР у час Другой сусветнай вайны, пры Брэменскім універсітэце, быццам бы Беларусь страціла ў час вайны толькі тры працэнты сваіх збораў (Украіна — 60, Расія — 35, а Беларусь — толькі тры працэнты).

Хутчэй за ўсё, было наадварот: засталося ўсяго тры працэнты. Іншая справа, што нашыя страты мала вядомы Еўропе і свету, ды і ў нас саміх яны даследаваны на тыя ж тры-пяць працэнтаў.

Для беларускага народа асабліва балючыя страты, панесеныя ў першыя месяцы савецка-нямецкай вайны Магілёўскім абласным гістарычным музеем. З яго знік славуты крыж Ефрасінні Полацкай, створаны ў 1161 г. полацкім ювелірам Лазарам Богшам. Крыж вядомы не столькі сваімі залатымі і сярэбранымі пласцінамі з эмалевымі выявамі святых і арнаментам, не столькі каштоўнымі камянямі і жэмчугам, колькі ўманціраванымі мошчамі святых і надпісамі. У чэрвені 1941 г. ён бясследна знік.

Шэдэўр Лазара Богшы не быў адзінай выключнай каштоўнасцю, якая захоўвалася ў Магілёўскім музеі. Як сведчаць архіўныя дакументы 1945–1946 гг., да вайны там знаходзіліся залаты і сярэбраны ключы Магілёва, дзве сярэбраныя пячаткі горада, залатыя ўпрыгожанні і пліткі з выявамі, якія былі знойдзены пры раскопках Пампеі, сярэбраная булава караля Сігізмунда III, кубкі з выявамі Пятра I , Аляксея Міхайлавіча, залатыя і сярэбраныя крыжы, дараносіцы, кадзільніцы. У актах называюцца іконы Бялыніцкай (XV ст.), Спаскай (1670 г.), Казанскай, Іверскай Божай Маці. святых Мікалая, Пятра і Паўла, аздобленыя каштоўнымі камянямі, карціны І.Айвазоўскага, В.Баравікоўскага, А.Вато, І.Рэпіна і іншых мастакоў. Асобна адзначаюцца такія рарытэты, як пісталет з залатой арабскай чаканкай, прастольнае крэсла, зробленае ў 1780 г. да прыезду ў Магілёў Кацярыны II, сані Напалеона I, залатыя і сярэбраныя табакеркі, фарфоравыя статуэткі, мастацкія тканіны. У апісаннях магілёўскіх збораў захаваліся сляды цэлых калекцый: “манеты... X–XIX стст. да 6 кг вагой”, “прадметы з раскопак курганоў”, “этнаграфічная калекцыя беларускага адзення XVII–XIX стст.”, “халодная і агнястрэльная зброя X–XIV стст.” (280 адзінак захавання), “узоры мастацкай разьбы па дрэве беларускіх майстроў XIV–XVIII стст.” (170 адзінак), “вялікая палеанталагічная калекцыя”, “энтамалагічная і мінералагічная калекцыі” і шмат іншага. Нарэшце, у Магілёве знаходзілася вялікая колькасць унікальных і рэдкіх кніг, рукапісаў: каля 20 Евангелляў “у апраўах работы беларускіх майстроў XVI–XVIII стст.”, 175 “беларускіх рукапісных кніг і старадрукаў”, 28 каралеўскіх і царскіх грамат, дараваных Магілёву.

Сярод усіх гэтых скарбаў указаны і крыж Ефрасінні Полацкай, які ў 1944 г. быў ацэнены ў 6 млн. рублёў. Але ж для беларускага народа ён бясцэнны. Гэта нацыянальная рэліквія № 1, якую ніяк не замяніць “Крыж на падабенства крыжа Ефрасінні Полацкай”, што ствараецца цяпер у Брэсце.

І гэта ўсё знікла з Магілёва летам 1941 г. Куды? Некаторыя меркаванні будуць выказаны ў другой частцы даклада.

Велізарныя страты панеслі мінскія музеі, асабліва Карцінная галерэя БССР і Гістарычны музей БССР. Па знойдзеных у архівах пасляваенных сведчаннях загадчыка ўпраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР пісьменніка П.Пестрака і дырэктара Карціннай галерэі А.Аладавай, з Мінска ў Прусію было вывезена каля 170 каштоўных твораў жывапісу (сярод іх — палотны І.Айвазоўскага, К.Брулова, В.Бялыніцкага-Бірулі, М.Урубеля, Ф.Гарэцкага, С.Заранкі, А.Куінджы, І.Левітана, К.Макоўскага, В.Паленава, І.Рэпіна, Ф.Рушчыца, В.Сярова, І.Шышкіна, М.Ярашэнкі і інш.). 30 абразоў XVI–XVII стст., пісаных беларускімі майстрамі, каля 50 скульптурных работ М.Антакольскага, П.Клодта, М.Казлоўскага, С.Канёнкава, Ф.Талстога і іншых майстроў. У Карціннай галерэі знаходзіліся таксама найбагацейшыя скарбы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Цытую А.Аладаву: "Калекцыя слуцкіх паясоў у колькасці 48 штук", "вялізная калекцыя мастацкага фарфору рускіх, кітайскіх і заходнееўрапейскіх заводаў", "мастацкія вырабы і посуд з урэцкага (Урэчча — мястэчка ў Беларусі. — А.М.) шкла", "вялікая калекцыя бронзавых і фарфоравых гадзіннікаў розных эпох", "калекцыя мастацкіх твораў разьбы па косці, выкананых рускімі і замежнымі майстрамі", "мэблевыя гарнітуры, шафы данцыгскай работы", сакрэтнікі з "каштоўных парод дрэва", "каля ста ўсялякіх дываноў і габеленаў" і да т.п., і да т.п.

У першыя дні вайны скарбы былі запакаваны ў скрыні з надпісамі "Кёнігсберг". У Беларусь яны болей не вярнуліся. І толькі нязначная частка збораў Карціннай галерэі была перададзена Мінскаму гістарычнаму музею, які працаваў у час акупацыі. Пасля вайны вывезенае з галерэі ацанілі ў 12 мільёнаў залатых рублёў.

Не менш драматычнымі былі ваенныя лёсы Мінскага гістарычнага музея (у часы вайны яго дырэктарам быў Антон Шукелайць, які цяпер жыве ў Нью-Йорку). Частка з яго набыткаў была разрабавана ўжо ў самым пачатку акупацыі. Затым вывезлі ў Германію 19 старажытных гармат (з іх 16 — з нясвіжскага збору Радзівілаў, перавезенага ў 1940 г. у Мінск). Потым акупанты загадалі вывезці ў Аўстрыю, у Венскі інстытут гебраістыкі карціны, кнігі, рукапісы, прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, рэлігійнага культу, звязаныя з яўрэйскай культурай у Беларусі. А.Шукелайць захаваў падрабязнае апісанне гэтай часткі збору. У ім лічыцца каля 20 карцін, а сярод іх "Гадзіннікавы майстар" Ю.Пэна, партрэт Ф.Скарыны работы Я.Кругера і інш. Нарэшце, у чэрвені 1944 г. з ведамства Розэнберга наступіў загад цалкам эвакуіраваць зборы Мінскага музея спачатку ў Інстэнбург (Прусія), а затым у Хёхштэдт каля Ульма (Баварыя). Вываз ажыццяўляўся пад наглядам немкі Эмы Гаўпт. У 1945 г., пасля вызвалення Хёхштэдта амерыканцамі, туды прыбыла спецыяльная савецкая місія. Аднак спецыялістаў у ёй не было. Таму адгружалася ўсё без разбору, беларускія экспа-

наты блыталіся з украінскімі і рускімі. Тады ж, па словах А.Шукелайця, і знікла каштоўная карціна з Мінскага гістарычнага музея — "Страшны суд" ("Апошні суд", Магілёўская школа жывапісу).

Трэба таксама асобна вылучыць страты Баранавіцкага абласнога мастацкага музея, куды ў 1940 г. былі звезены каштоўнасці з навакольных палацаў і маёнткаў. Як гаворыцца ў акце ад 19 верасня 1944 г., акупантамі адсюль былі выкрадзены: "Партрэт старога" работы Рэмбрандта, работы Матэйкі, каля шасцідзесяці мініяцюр, створаных заходнееўрапейскімі майстрамі, абразы пісьма беларускіх мастакоў, культавая скульптура XVII–XVIII стст. майстроў з Беларусі, каля двухсот карцін савецкіх мастакоў, вялікі французскі габелен часоў Людовіка XIV , чатыры японскія вазы, каля 160 статуэтак заводаў Заходняй Еўропы, бібліятэка па мастацтву на шасці мовах". Далейшы лёс унікальных баранавіцкіх збораў невядомы.

Як бачна з матэрыялаў Беларускай рэспубліканскай камісіі садзейнічання рабоце Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі, якая выяўляла памеры страт былога СССР у час Другой сусветнай вайны, з 1941 да 1944 г. у Беларусі было знішчана 10 музеяў. Шкода, панесеная ад страты твораў мастацтва (11641 музейны экспанат), была вызначана ў 163,4 млн. рублёў. Аднак гэтыя лічбы далёка няпоўныя. Супрацоўніца Нацыянальнага цэнтра імя Ф.Скарыны М.Яніцкая выявіла, што названай камісіяй не ўлічана шкода, нанесеная яшчэ васьмі музеям, у тым ліку Бабруйскаму, Віцебскаму, Полацкаму і, што надзвычай важна і дзіўна, Магілёўскаму, які па афіцыйнай версіі, што распаўсюджвалася многія гады, быў разрабаваны фашыстамі[1].

Непапраўная шкода ў час акупацыі была нанесена больш як двумстам бібліятэкам Беларусі, асабліва Дзяржаўнай (цяпер Нацыянальнай) бібліятэцы. Па падліках яе супрацоўніцы Т.Рошчынай, 83 працэнты яе збораў былі разрабаваны і знішчаны. Пасля вайны на тэрыторыі Германіі, Польшчы і Чэхаславакіі былі знойдзены і вернуты каля 600 тысяч тамоў гэтай бібліятэкі. Аднак на сёння каля аднаго мільёна, сярод якіх рэдкія выданні і старадрукі, рукапісы, застаюцца не знойдзенымі[2].

У час Другой сусветнай вайны беларускія зборы вывозіліся не толькі ў заходнім, але і ва ўсходнім накірунку. У 1939–1940 гг. у Заходняй Беларусі, з'яднанай з ўсходняй, пабывалі маскоўскія экспедыцыі, якімі з палацаў і маёнткаў, пакінутых гаспадарамі, а таксама з навучальных устаноў былі вывезены значныя каштоўнасці. Так, у Цэнтральны антырэлігійны музей (Масква) трапіла каля 30 тысяч (два вагоны) рэдкіх кніг і рукапісаў з Пінскай каталіцкай семінарыі[3]. Далейшы іх лёс невядомы. З Нясвіжскага

---

[1] Голас Радзімы. 1981. 14 мая.

[2] Культура: інф.-аналіт. бюл. Агенцтва РІД. 1995. № 1. С. 5.

[3] Известия. 1940. 7 сент.

палаца тады было вывезена крэсла з аленевых рагоў, з епіскапскага палаца ў Пінску — два крэслы мастацкай работы[4]. Экспедыцыя Дзяржаўнага гістарычнага музея СССР узяла з сабой некалькі карцін і абразоў са збораў Магілёўскага і Мінскага музеяў.

У чэрвені-ліпені 1941 г. у Расію былі эвакуіраваны, натуральна часова, экспанаты Віцебскага і Гомельскага абласных музеяў. Першыя трапілі ў Саратаў, другія — ва Урупінск, а затым у Сталінград (цяпер Валгаград). Захаваўся спіс каштоўнасцей Гомельскага музея, датаваны маем 1946 г. У ім значацца палотны Леанарда да Вінчы, тры чыгунныя і пяць бронзавых гармат, сярэбраныя падсвечнікі і шкатулкі, крыжы і ордэны. Пасляваенныя намаганні вярнуць іх поспеху не мелі.

Вываз каштоўнасцей працягваўся і ў першыя пасляваенныя гады, асабліва ў сувязі з рэпатрыяцыяй з Беларусі польскага насельніцтва. Так, навагрудскі святар Аляксандр Зянкевіч узяў з сабой рукапісную кнігу, дзе быў зроблены метрычны запіс пра нараджэнне Адама Міцкевіча (цяпер яна знаходзіцца ў Чанстахове)[5]. Знікла жывапісная спадчына таленавітага мастака Льва Дабжынскага, які жыў у Лошы (цяпер Гродзенская вобласць). Нарэшце, найвялікшай стратай з'явілася рэпрэсіўнае расфармаванне Віленскага беларускага музея, які амаль без шкоды перанёс акупацыю, але не ўстаяў перад сталінскім таталітарызмам ў першы паслеваенны год.

Неабходна таксама ўлічыць, што частка беларускіх каштоўнасцей пасля заканчэння вайны была вернута з Германіі не ў Беларусь, а ў Расію — у Маскву, Ноўгарад, Ленінград і іншыя гарады. Сярод іх — два язычніцкія каменныя ідалы (бабы), якія нейкі час упрыгожвалі адзін з паркаў Берліна. З так званага "Трафейнага фонду" толькі некаторыя творы былі потым вернуты ў Мінск. І адна з прычын — закрыццё доступу да архіва "Трафейнага фонду".

Здавалася б, пры такіх велізарных стратах нашых нацыянальных каштоўнасцей на іх выяўленне павінны былі б кінуць значныя навукова-пошукавыя сілы, дзяржаўныя сродкі. Але гэтага не адбылося. У 1945–1946 гг., калі працавала Надзвычайная камісія, былі праведзены толькі прыблізныя, у адных выпадках завышаныя, у другіх — заніжаныя падлікі. Пытанне аб рэстытуцыі ні тады, ні пазней, у час "халоднай вайны", па сутнасці, не ставілася, а фактычная, навуковая база для яе не рыхтавалася.

Сёння неабходна шчыра і самакрытычна прызнаць, што ў часы таталітарызму мы саромеліся і нават баяліся гаварыць пра свае правы на тыя беларускія каштоўнасці, якія ў выніку ваенных дзеянняў апынуліся ў ін-

---

[4] Літаратура і мастацтва. 1993. 26 сак.

[5] Gazeta Wyborcza. 1992. 24–27 grud.

шых краінах (асабліва ў Расіі і на Украіне). Патрыятычныя памкненні нярэдка характарызаваліся як праяўленне нацыяналізму, як неразуменне таго, што ўсё, што знаходзіцца ў СССР, у тым ліку і музейныя скарбы, павінна быць агульным, а па сутнасці — нічыйным.

У выніку, па падліках супрацоўніцы Цэнтра імя Ф.Скарыны М.Яніцкай, страты вядучых беларускіх музеяў у гады вайны вывучаны толькі на шэсць працэнтаў. З больш за 11 тысяч экспанатаў, пра якія паведамлялася ў дакументах Надзвычайнай камісіі, мы сёння маем канкрэтныя звесткі толькі пра 992 экспанаты. Астатнія характарызуюцца сумарна.

Доўгі час у Беларусі не было дзяржаўнага ці хаця б грамадскага органа, які займаўся б пытаннямі рэстытуцыі. І толькі ў 1989 г. пры Беларускім фондзе культуры ўзнікла грамадская камісія "Вяртанне", якую ўзначальвае ваш пакорны слуга. Падкрэсліваю: гэта грамадская, а не дзяржаўная камісія. І працуе яна на грамадскіх пачатках. Тым не менш, за шэсць год працы намі быў сабраны значны фактычны матэрыял, падрыхтаваны і выдадзены два аднайменныя зборнікі дакументаў і матэрыялаў, прапанаваны шэраг ініцыятыў. У адпаведнасці з імі ў 1992 г. была створана Дзяржаўная камісія па рэстытуцыі пры Міністэрстве культуры, але зноў-такі працуючая на грамадскіх пачатках і таму недастаткова дзейная. Пры Цэнтры імя Ф.Скарыны была створана адпаведная даследчыцкая група, якую фінансавала Міністэрства культуры. Але вось ужо больш года, як Дзяржаўная камісія спыніла (ці, дакладней, прыпыніла) сваю дзейнасць, а даследчыцкая група перастала фінансавацца. Праўду кажучы, адзінкавыя даследаванні аплачваюцца Міністэрствам культуры праз Дзяржаўную камісію па ахове гісторыка-культурнай спадчыны (ДзІНАС). У сучасных умовах крызісу яна займаецца ў нас пытаннямі рэстытуцыі (у прыватнасці, даволі паспяхова працуе адпаведная беларуска-польская камісія). Аднак сродкі Міністэрства культуры вельмі абмежаваныя. Таму я з пачуццём зайздрасці і нават нацыянальнай непаўнацэннасці гляджу на маіх расійскіх і ўкраінскіх калег, якія прысутнічаюць на гэтым "круглым стале": яны могуць прадстаўляць і прадстаўляюць высокія дзяржаўныя структуры, а я толькі грамадскую. І, галоўнае, працаваць ім значна лягчэй.

Што ж належыць зрабіць, каб у галіне рэстытуцыі Беларусь не выглядала белай воранай? Перш за ўсё, на маю думку, трэба стварыць аўтарытэтны дзяржаўны орган, а ў яго падпарадкаванні мець даследчыцкую групу. Галоўнае для гэтай групы – выяўленне архіўных дакументаў, даваенных музейных вопісаў і каталогаў, якія далі б права хадайнічаць аб вяртанні згубленых каштоўнасцей. Многія з такіх вопісаў, па нашых звестках, захоўваюцца ў Маскве, аднак доступ туды для беларускіх даследчыкаў практычна закрыты. Няма магчымасцей папрацаваць і ў цікавым для нас фондзе Ро-

зэнберга, што знаходзіцца ў Федэральным архіве Германіі (Кобленц). Аднак мы не губляем надзеі на гэта.

Грунтуючыся на выяўленых вопісах, мы маем магчымасць, няхай і са спазненнем, стварыць Беларускі Банк інфармацыі, які будзе цесна звязаны з аналагічнымі банкамі ў іншых краінах. Першыя крокі ў гэтым накірунку ўжо зроблены: дзякуючы намаганням мастацтвазнаўцы Н.Высоцкай было складзена частковае апісанне ваенных страт Карціннай галерэі (цяпер – Мастацкі музей).

Сабраная інфармацыя рыхтуецца да апрацоўкі ў камп'ютэрным рэжыме (тут мы спадзяемся на супрацоўніцтва з прыватнымі фірмамі і фондамі). Зразумела, для ўсяго гэтага патрэбны кадры, у тым ліку і тыя, якія прайшлі стажыроўку за мяжой.

Мы спадзяемся, што ў выніку далейшых пошукаў будзе, нарэшце, вызначаны лёс скарбаў, якія зніклі з Магілёва, у тым ліку і крыжа Ефрасінні Полацкай. Нейкі час у нас лічылася, што ён знаходзіцца ў ЗША, у калекцыі Морганаў. Але ў 1990 г. на афіцыйнае запытанне мы атрымалі адказ, што ў Фундацыі Пірпонта Моргана крыжа няма. Тады ж у беларускім друку з'явіліся публікацыі, якія сведчылі, што, па ўспамінах, магілёўскія скарбы былі ў 1941 г. эвакуіраваны ў Маскву, у адзін з банкаў, дзе іх са здзіўленнем разглядваў сам Берыя[6]. Аднак "маскоўскі след" не выключае "амерыканскага": крыж і іншыя каштоўнасці маглі тайна скарыстаць для аплаты за мяжу, прыватным шляхам. Канчатковую яснасць тут можа ўнесці доступ да адпаведных фондаў маскоўскіх архіваў.

Ёсць яшчэ адна істотная акалічнасць. Вяртанне каштоўнасцей можа адбывацца ў розных формах. Гэта і апісанне, і капіраванне, і публікацыя, абменныя выстаўкі. Бясспрэчна, мае перавагі вяртанне ў прамым, фізічным сэнсе. Але для яго не заўсёды ёсць юрыдычныя падставы ды і добрая воля. Дарэчы, на гэтую добрую волю мы і разлічваем, калі спадзяемся на вяртанне бібліятэкі Храптовіча, вывезенай на часовы дэпазіт у Кіеў, а таксама экземпляраў выданняў Ф.Скарыны, якія адсутнічаюць у Беларусі і якія ў вялікай колькасці апынуліся ў Маскве, нясвіжскіх партрэтаў Радзівілаў, бяспраўна перададзеных беларускімі ўладамі Б.Беруту ў 1950 г., і, нарэшце на адраджэнне Віленскага беларускага музея ў Літве. У сваю чаргу, добрую волю павінны праяўляць і беларусы. Рэстытуцыя – не гульня ў футбол у адны вароты. Таму мы прадэманстравалі добрую волю, напрыклад, вярнуўшы Украіне частку бібліятэкі Пятлюры, перадаўшы Расіі галандскі трафейны збор кніг, які потым быў вернуты ў Нідэрланды.

Нядаўна, у час прыезду ў Беларусь расійскага віцэ-прэм'ера сп.Бальшакова, наш урад перадаў яму 15 каштоўных абразоў, і мы,

---

[6] Советская Белоруссия. 1990. 28 сент.; Вестник Могилёва. 1991. № 39.

зразумела, цяпер спадзяемся на такі ж жэст — што ў старажытны Полацк, на радзіму Ф.Скарыны, будуць вернуты выданні першадрукара.

Не раскрываючы ўсе карты, зазначу, што і нам ёсць што абмяняць з Расіяй, Францыяй, іншымі краінамі, але для гэтага трэба, каб былі заключаны двухбаковыя і шматбаковыя пагадненні, каб пытанні рэстытуцыі ўлічваліся пры падпісанні міждзяржаўных дагавораў і, нарэшце, каб было падпісана адпаведнае пагадненне паміж краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў, паміж усімі еўрапейскімі краінамі. Не ўдаючыся ў падрабязнасці, скажу, што Беларусь нямала зрабіла для распрацоўкі такога пагаднення.

Верыцца, што вяртанне нацыянальных каштоўнасцей, якое раней было справай некалькіх энтузіястаў, ва ўмовах суверэннай Беларусі стане справай дзяржаўнай, часткай дзяржаўнай палітыкі, будзе служыць нашаму нацыянальнаму адраджэнню.

*Габрыэле Фрайтаг*
*супрацоўніца Даследчыцкага цэнтра "Усходняя Еўропа" Брэменскага універсітэта, Германія*

## *Ахова помнікаў мастацтва ў амерыканскай зоне і палітыка рэстытуцыі*

Мой даклад павінен даць навукоўцам былога Савецкага Саюза агляд рэстытуцыі захопленай нацыянальна-сацыялістычнай маёмасці — той маёмасці, якая не засталася ў нямецкіх раёнах, занятых Савецкай Арміяй, а была вывезена на тэрыторыю пазнейшай ФРГ і захоўвалася пасля вайны пераважна ў амерыканскай акупацыйнай зоне. Такім чынам, амерыканская палітыка рэстытуцыі з'яўляецца цэнтральным момантам гэтага даследу.

Спачатку я хацела б закрануць лёс савецкай культурнай маёмасці ў перыяд нацысцкай акупацыі. Разбурэнне і занядбанне культурных каштоўнасцей заўсёды спадарожнічала вайне. Іх незлічоныя страты ў час Другой сусветнай вайны маюць вялікае значэнне для дзяржаў, якія ваявалі. Асабліва гэта датычыцца краін Савецкага Саюза. Рэжым тэрору, устаноўлены нацыстамі на занятых землях, пераўзыходзіў па жорсткасці акупацыйную палітыку ў Заходняй Еўропе.

У сувязі з гэтым вываз культурных каштоўнасцей праводзіўся тут асабліва бесцырымонна. Адразу ж пасля таго, як вермахт уступіў на савецкую тэрыторыю, розныя нямецкія ўстановы пачалі імкнуцца, каб атрымаць до-

ступ да культурных каштоўнасцей. З-за розных інтарэсаў некаторыя ўстанові арганізоўвалі тут сапраўдныя спаборніцтвы.

Такую сітуацыю можна яскрава прасачыць на прыкладзе Мінска. Пасля захопу летам 1941 г. горад быў моцна разбураны. Ленінская бібліятэка панесла вялікія страты з-за марадзёрства нямецкіх салдат. Ужо пры захопе горада канкурыравалі паміж сабой аддзелы Міністэрства замежных спраў і вермахта, каб атрымаць найдзеныя ў Мінску палітычныя акты і матэрыялы. Наступнымі акцёрамі на сцэне былі эсэсаўскія атрады, якія ў першыя тыдні вывезлі з горада каштоўныя карціны і іншыя аб'екты. На гэта наскардзіўся генеральны камісар Вільгельм Кубэ, які імкнуўся захаваць беларускія культурныя каштоўнасці ў сваёй уладзе.

Галоўную адказнасць за зборы культурных ўстаноў на акупаваных тэрыторыях нёс Einsatzstab Reichsleiter Rosenberg (ERR). У адпаведнасці з нацысцкімі ўяўленнямі пра тысячагадовае ўладарства на Усходзе "гэты штаб бачыў сваё заданне ў стварэнні новага культурнага парадку на месцы". Толькі летам 1943 г. пачалася падрыхтоўка да масавага вывазу культурных каштоўнасцей у Германію. Гэты вываз праводзіўся этапамі, адначасова з адступленнямі нямецкіх войск з Усходу. Два самыя важныя транзітныя склады культурных каштоўнасцей Усходу знаходзіліся ў гарадах Верхняй Сілезіі Рацібор і Тропау (Raciborz і Opawa). Гэтыя гарады выкарыстоўваліся галоўным чынам як часовыя сховішчы для маёмасці з бібліятэк і архіваў Беларусі і Украіны. Іншыя часовыя склады знаходзіліся ў Кракаве, Вільнюсе, Рызе і Кёнігсбергу (цяпер Калінінград). З набліжэннем фронту нямецкае камандаванне здало, у рэшце рэшт, і гэтыя сховішчы. Большая частка вывезеных сюды матэрыялаў засталася на месцы. Пра яе лёс пасля таго, як Савецкая Армія захапіла дадзеныя рэгіёны, нам вядома вельмі мала, хаця далейшы шлях гэтых збораў у некаторых выпадках можна рэканструяваць.

Лёс вывезеных культурных каштоўнасцей у іншых выпадках можна прасачыць больш дакладна. У студзені 1944 г. Einsatzstab Rosenberg адправіў нацыянальна-сацыялістычнаму Інстытуту па даследаванню яўрэйскага пытання ў Франкфурце-на-Майне фонды мінскай юдаікі і гебраікі — усяго дваццаць тысяч тамоў. У красавіку і маі 1944 г., непасрэдна перад адступленнем нямецкіх войск з горада, адбыўся вываз экспанатаў Гістарычнага музея праз Інстэнбург (цяпер Чарняхоўск) у баварскі гарадок Хёхштэдт (Hochstadt). 30 чэрвеня 1944 г. апошнія супрацоўнікі штаба Розэнберга пакінулі Мінск.

У цэлым паэтапнае транспартаванне культурных каштоўнасцей ад месца адпраўлення і да нямецкай тэрыторыі вяло да вялікіх страт і пашкоджанняў з-за неарганізаванасці, дрэннага захавання на часовых складах і марадзёрства, а таксама з-за бамбардзіроўкі гружаных цягнікоў.

Разбурэнне і занядбанне помнікаў культуры на захопленых землях сталі прычынай занепакоенасці не толькі ў Еўропе, але і ў Злучаных Штатах Амерыкі. 20 жніўня 1943 г. прэзідэнт Рузвельт стварыў па ініцыятыве вядомых амерыканскіх гісторыкаў мастацтва і археолагаў Амерыканскую камісію па ахове і выратаванню мастацкіх і гістарычных помнікаў у зоне ваенных дзеянняў, якая ўваходзіла ў ваеннае падраздзяленне па ахове помнікаў — Monuments, Fine Arts and Archives (MFAAA). Гэтае падраздзяленне па ахове помнікаў узяло на сябе пазней адказнасць за лёс нацысцкіх складаў культурнай маёмасці.

Адпаведныя меры, якія маглі б быць прыняты саюзнікамі, абмяркоўваліся скліканай у студзені 1944 г. European Advisory Commission у Лондане. Паралельна з гэтым Саветам саюзнікаў — ЗША, Вялікабрытаніі і Савецкага Саюза — у Лондане з красавіка 1944 г. дзейнічала камісія, якая ў першую чаргу прадстаўляла інтарэсы невялікіх еўрапейскіх дзяржаў.

Асаблівыя спрэчкі выклікала перш за ўсё патрабаванне некаторых еўрапейскіх дзяржаў, у тым ліку і Францыі, правесці "replacement in Kind". Пад гэтым тэрмінам хавалася дамаганне на замену помнікаў мастацтва, разбураных ці вывезеных немцамі, адэкватнымі нямецкімі помнікамі. Пра такую кампенсацыю магла ісці размова, паводле меркавання амерыканскага, брытанскага і савецкага бакоў, толькі ў выключных выпадках, у дачыненні да асабліва каштоўных твораў мастацтва. Перагаворы не прывялі да згоды, таму што ні амерыканскі, ні савецкі бакі не былі гатовы прыняць канкрэтныя палітычныя рашэнні да заканчэння вайны.

І толькі ў студзені 1946 г. саюзнікі акрэслілі ў Кантрольным савеце паняцце "рэстытуцыя". Яна павінна была распаўсюджвацца на аб'екты, якія ў час акупацыі знаходзіліся на адпаведных тэрыторыях і былі вывезены з краіны гвалтоўным чынам. Гэтае паняцце не раскрывала дакладна, што разумець пад гвалтам, і не рабіла розніцы паміж крадзяжамі, канфіскацыяй або вымушаным продажам твораў.

Такім чынам, гэта было пагадненне, дзе не разглядаліся канкрэтныя выпадкі.

Незалежна ад указанага рашэння амерыканскае ваеннае камандаванне пачало рэстытуцыю нацысцкіх трафеяў. Пры ўваходжанні амерыканскіх войск на тэрыторыю паўднёвай Германіі былі выяўлены нямецкія трафеі. Гэта стала важнейшай задачай афіцэраў аховы помнікаў — MFAAA. Іх часта суправаджалі, адпаведна з дамоўленасцю, калегі — сувязныя афіцэры з іншых саюзных краін. Такім чынам і савецкія спецыялісты атрымалі доступ да нацысцкіх сховішчаў. Культурныя каштоўнасці, вывезеныя з Савецкага Саюза, былі размешчаны ў кляштары Буксхайм, паблізу Мемінгена, і ў замках каля Кольмберга, Банца і Хёхштэдта на Дунаі. Буксхайм

служыў для EER з 1943 г. сховішчам твораў мастацтва з Заходняй і Усходняй Еўропы.

Сярод этналагічных аб'ектаў у Буксхайме знаходзіліся таксама савецкія карціны і кнігі. У замку Кольмберг размяшчаўся вялікі збор рускіх абразоў і карцін, а таксама скульптуры, фарфор і мэбля. Яны былі вывезены з Ноўгарада, Пскова, царскіх палацаў пад Ленінградам і трапілі сюды праз Рыгу.

Кляштар Банц служыў у першую чаргу як сховішча для нямецкіх твораў мастацтва. Ён служыў таксама як "дэпо" для збору каштоўных кніг, рукапісаў і фільмаў з Еўропы, у тым ліку і з СССР. Важнейшым сховішчам культурных каштоўнасцей з Украіны і Беларусі быў замак Хёхштэдт на Дунаі. З лютага 1944 г. у ім знаходзіліся археалагічныя матэрыялы дагістарычнага часу з Украіны і Беларусі, а таксама карціны, абразы, вялікі збор твораў украінскага народнага мастацтва. Тут апынуліся вывезеныя з Мінска вясной 1944 г. экспанаты Мінскага гістарычнага музея.

У падраздзяленнях MFAAA хутка зразумелі, што неабходна перамяшчэнне асобных збораў у трывалыя, бяспечныя ад дажджоў, пажараў і рабункаў памяшканні. Маёр Л.Бансел ла Фарж, кіраўнік еўрапейскага аддзела MFAAA, загадаў стварыць цэнтралізаваныя зборныя пункты — Central Collecting Points (CCP). Два важнейшыя зборныя пункты размяшчаліся ў Мюнхене і Вісбадэне. У Вісбадэне знаходзіліся галоўным чынам экспанаты, эвакуіраваныя з нямецкіх музеяў. У Мюнхенскім "дэпазіце" захоўваліся таксама іншыя шматлікія нацысцкія трафеі, якія падлягалі рэстытуцыі замежным дзяржавам. У маі 1946 г. было падрыхтавана да работы "дэпазіта" ў Офенбаху паблізу Франкфурта — Offenbach Archival Depot (OAD). Сюды паступалі перш за ўсё культурныя каштоўнасці яўрэйскага паходжання — кнігі, архіўныя дакументы.

У Collecting Points помнікі былі сфатаграфаваны і зарэгістраваны ў картатэцы так званых property cards art (PCA). Уражвае дакладнасць апісанняў на рэгістрацыйных картах. Прадметы былі зарэгістраваны ў "рангавым" парадку — ад археалагічных знаходак і прадметаў народнай творчасці да архіўных матэрыялаў, кніг, абразоў, карцін і скульптур.

Папярэдняй умовай для рэстытуцыі аб'ектаў з Collecting Points было пісьмовае патрабаванне зацікаўленага боку. Гэтыя так званыя claims параўноўваліся з інвентарнымі спіскамі ў Collecting Points. Калі была адпаведнасць, то твор падлягаў рэстытуцыі.

Аб'екты, якія не мелі claim, але належнасць якіх не выклікала сумнення, вельмі часта таксама вярталіся.

Пад кантролем амерыканскага ваеннага камандавання з верасня 1945 г. па снежань 1948 г. адбыліся 14 рэстытуцый Савецкаму Саюзу. Тры з гэ-

тых так званых shipments былі зроблены непасрэдна з нацысцкага "дэпазіта", — абмінаючы Collecting Points, пяць shipments прыбылі з Мюнхена. з Collecting Points, чатыры — з Офенбаха і два — з Вісбадэна.

Экспанаты з Мінска, якія захоўваліся ў Мюнхене, былі перададзены 15 красавіка 1946 г. Савецкаму Саюзу. Паводле амерыканскіх звестак, гаворка ішла выключна пра экспанаты з Гістарычнага музея. Большая частка перададзенага складалася з ранніх і дагістарычных знаходак. Апрача гэтага, амерыканскае ваеннае камандаванне вярнула Савецкаму Саюзу прыблізна 360 абразоў і карцін, намаляваных алеем і акварэллю, 110 гравюр, 90 скульптур, прадметаў прыкладнога мастацтва, мэблю, фотакарткі і дакументы з Мінскага музея. У інвентарных спісах часта сустракаюцца некалькі экспанатаў пад адным нумарам. Значыць, не заўсёды магчыма вызначыць дакладную лічбу аб'ектаў. У некаторых выпадках былі пазначаны пытальнікам месцы паходжання. Апрача Мінска (Гістарычны музей) назвы іншых беларускіх гарадоў ў спісах Collecting Points Мюнхена і Вісбадэна не сустракаюцца.

Недакладныя і звесткі аб перадачы з архіўнага "дэпо" ў Офенбаху. Адпаведна з падлікам, праведзеным у 1946 г., там захоўваліся пісьмовыя дакументы з 170 беларускіх устаноў — пераважна з Мінска, Віцебска і Магілёва. Вопіс прадметаў у shimpent-lists абмяжоўваецца назвамі зборнымі: "кнігі", "архіўныя дакументы" , "часопісы", "брашуры". Як правіла, указанні на месца паходжання адсутнічаюць. Таму немагчыма ўстанавіць дакладныя звесткі пра перадачу беларускіх бібліятэк і архіваў.

Нягледзячы на ўказаную рэпатрыяцыю, рэстытуцыя савецкіх культурных каштоўнасцей праходзіла не заўсёды гладка. Спрэчкі ўзнікалі пры запытах на каштоўнасці з занятых савецкімі войскамі тэрыторый, пры вяртанні яўрэйскай маёмасці і пры запытах рускіх эміграцкіх груп.

У 1945 г. амерыканскае ваеннае камандаванне небюракратычным шляхам перадало савецкай ваеннай адміністрацыі знойдзеныя ў амерыканскай зоне архіўныя матэрыялы з Прыбалтыкі, Чэхаславакіі. У сувязі з гэтым секцыя аховы помнікаў Баварскай ваеннай адміністрацыі ў жніўні 1946 г. абнародавала мемарандум. Адпаведна з ім было загадана вылучыць у асобнае захоўванне культурныя скарбы з Прыбалтыкі і Польшчы, на якія прад'яўляў прэтэнзіі савецкі бок. Лёс гэтых матэрыялаў павінен быў абмяркоўвацца асобна. У такіх выпадках патрабаванні савецкага боку аб рэстытуцыі не задавальняліся.

У дакументах з Балтыкі гаворка пераважна ішла пра яўрэйскую маёмасць. Гэта дадаткова ўскладняла сітуацыю. Рэстытуцыя такой маёмасці была асабліва складанай для амерыканскай адміністрацыі. Знішчэнне нацыстамі яўрэяў дасягнула ва Усходняй Еўропе вельмі вялікіх памераў.

Амаль усе яўрэйскія абшчыны (рэлігійныя, культурныя, навуковыя) спынілі там сваё існаванне. Таму прадстаўнікі яўрэйскіх інтарэсаў рашуча выступалі супраць вяртання такой уласнасці, вывезенай з Усходняй Еўропы. Амерыканскі бок пайшоў насустрач гэтаму патрабаванню і перадаў большую частку падобных матэрыялаў (часткова нават неапазнаных) яўрэйскім арганізацыям у Ізраілі і ЗША.

Канфлікт у савецка-амерыканскіх адносінах узнік таксама з-за лёсу каштоўнасцей, якія належалі эмігрантам. Так, амерыканская ваенная адміністрацыя перадала ў 1948 г. музейныя экспанаты, якія належалі кубанскім казакам-эмігрантам, іх старшыні ў амерыканскай зоне.

Ва ўсіх указаных вышэй выпадках амерыканскі бок парушаў генеральнае пагадненне аб рэстытуцыі дзяржавы дзяржаве. Важную ролю пры гэтым адыгрываў рост уплыву этнічных груп у ЗША, а таксама ўскладненне адносін між Усходам і Захадам ва ўмовах халоднай вайны.

Пасля вываду амерыканскага ваеннага камандавання ў 1952 — 1953 гг. адбыліся яшчэ дзве рэстытуцыі з амерыканскага боку, а ў 1962 г. — перадача Савецкаму Саюзу з боку Федэрацыйнай рэспублікі Германіі. Гэтым была завершана рэстытуцыя савецкіх культурных каштоўнасцей з амерыканскіх сховішчаў.

Адкрытым застаецца сёння пытанне пра колькасныя суадносіны культурных каштоўнасцей, вывезеных нямецкімі войскамі з СССР, і тых, якія былі вернуты на радзіму. Дакладныя звесткі атрымаць цяжка па розных прычынах. Нягледзячы на месцамі дакладную дакументацыю, інфармацыя аб вывазе з СССР застаецца фрагментарнай. Нявыяўленымі, нават пры няўнасці дакументаў, застаюцца памеры страт на шляху ў Германію. Дакладныя лічбавыя дадзеныя прыводзяць толькі інвентарныя спісы амерыканскіх Collecting Points. Да сённяшняга дня застаецца невядомым, колькі нацысцкіх сховішчаў было выяўлена савецкімі войскамі пры іх наступленні на Захад і як паступіла ваенная адміністрацыя ў савецкай акупацыйнай зоне са знойдзенымі трафеямі. Яшчэ складаней высветліць пытанне пра суадносіны расійскіх, украінскіх і беларускіх страт. У нямецкіх і амерыканскіх дакументах яны, як правіла, значацца як "савецкія" або "рускія".

*Пераклала з рускай мовы* ***Улляна Шаставец***

*Ирина Матвеева*
*научный сотрудник НМО "Российская национальная библиотека", г.Санкт-Петербург, Россия*

## Проблемы возвращения книжных фондов

Рассматривая проблему реституции книжных фондов не как политическую, а как историческую, как часть истории библиотек, необходимо, с моей точки зрения, обсудить следующие вопросы: физическая гибель книжных фондов; книги, вывезенные за пределы Советского Союза; возврат книжных фондов, проходивший, за некоторыми исключениями, в 1945–1953 гг. Невозможно говорить об истинных потерях книжных фондов наших библиотек без сличения (хотя бы в количественном смысле) вывезенных и возвращенных фондов.

Названную проблему пытались решить с теоретической точки зрения сотрудники группы "История библиотек" при Институте теории и истории педагогики Академии образования при Академии педагогических наук РСФСР. Эта группа существовала в 45–65-е годы. Предметом изучения была как история дореволюционных и послереволюционных библиотек, так и проблемы перемещения фондов во время и после Второй мировой войны.

Книжные фонды библиотек бывшего Советского Союза возвращались несколькими путями и в различные учреждения.

В своём докладе я хотела бы остановиться на истории Центрального хранилища музейных фондов Ленинградских пригородных дворцов (далее ЦХмф). Оно было организовано при эвакуации культурных ценностей пригородных дворцов-музеев в Новосибирск. Директором его был назначен А.М.Кучумов. В 1943 г. был организован отдел музеев и парков при комитете Управления по делам искусств Ленгорисполкома, задача которого заключалась в спасении и централизованном хранении культурных ценностей. Указанными учреждениями были организованы хранилища (в Исаакиевском соборе, на улице Красной). В 1945 г., после реэвакуации Новосибирского фонда, ЦХмф находилось в г.Пушкине, а затем переместилось в г.Павловск. Там оно существовало до 1956 г. Затем оставшийся фонд был законсервирован и передан в ведение Павловского дворца-музея.

Архив ЦХмф в настоящее время разделен на две части. В данном докладе остановимся на деятельности этого учреждения на основе основного архива (без его законсервированной части).

Фонд ЦХмф теперь состоит из 30 папок с актами поступлений, выдачи, перемещения и т.д. Среди них — Нарвский фонд (60 л.), Академический фонд (230 л.), Рижский (58 л., фонд станции Тайга (5 л.), Берлинский фонд (230 л.).

Несмотря на то, что ЦХмф было создано для хранения культурных ценностей пригородных дворцов-музеев Ленинграда, туда поступали музейные фонды из разных музеев Советского Союза, затем они рассылались по различным музеям и другим организациям. К сожалению — далеко не всегда по месту их нахождения до 1941 г.

Представим сюжеты деятельности научных сотрудников ЦХмф в 1945–1956 гг.

1946 г. Научные сотрудники выезжали в командировки в Харьков, Выру, Таллин, Тарту, Кёнигсберг и доставили в хранилище 29 предметов мебели. Для книг оборудовали хранилище в бывшей церкви Знамения. В декабре было разгружено пять вагонов с музейным грузом из Государственного книжного фонда (Москва) — по акту № 665 от 16 декабря 1946 г. В 587 ящиках находилось 85 тысяч книг музейного значения. Из них 240 ящиков принадлежали дворцам-музеям (приблизительно 33.600 книг).

Следует подчеркнуть, что в августе из Берлина (из г.Оффенбах — американская зона) в Москву прибыло восемь вагонов (около 1.055 ящиков). Известно, что это в основном были книги из научных организаций Украины и Белоруссии (приблизительно 115–116 тысяч томов) — итог работы библиотечной группы Комитета культуры при особом Комитете Совета Министров СССР по Германии за 1945 – август 1946 гг.

1947 г. Во второй половине года научные сотрудники ЦХмф занимались разборкой полученных книг по объектам. К концу года книги были отправлены в Воронеж, Смоленск, Ригу, Новгород, Киев.

1948 г. Из отдела реституции Управления репарации и поставок СВАГ в апреле месяце поступило восемь вагонов книг (приблизительно 130 тысяч томов). По данным приемки, в июне были получены 254 ящика книг, два пакета и 2.575 книг россыпью (примерно 40.000 томов). Таким образом, за 1946–1948 гг. получено Цхмф не менее 255 тысяч томов, а Московскими организациями — не менее 372 тысяч томов книг из числа вывезенных во время войны за пределы СССР.

По данным директора ЦХмф, среди культурных ценностей, возвращенных в 1948 г. из Германии, имелись экспонаты, принадлежавшие Украинской Академии наук — восемь ящиков негативов и книг, киевским музеям — 250 картин. В адрес Белорусского комитета по делам культурно-просветительных учреждений были отправлены 60 ящиков, Ростовскому краеведческому музею — 40 картин, Новгородскому музею краеведения — 314 предметов, Псковскому музею — 384 картины и книги, музеям Крыма — 15 ящиков книг, Белорусскому Государственному музею — 30 картин, Карагандинской научной станции — два ящика, Пушкинскому дому пионеров — 18 предметов, Киевскому историческому музею — 270 предметов

Все музейные ценности были переданы по месту их первоначального хранения по акту № 692 от 9 декабря 1949 г.

1949 г. Проводилось вскрытие ящиков с книгами, подбор карточек и сличение фондов с инвентарными книгами 1938 г. В августе 1949 г. из музеехранилища перенаправлено 11 посылок с предметами, направленными в Государственный Фонд по акту № 40/1809 от 7 сентября 1949 г., 9 декабря 1949 г. по акту № 692 переданы предметы музейного значения (в том числе и книги). Киевскому, Керченскому, Ростовскому, Феодосийскому, Новгородскому, Псковскому, Смоленскому краеведческим музеям и Белорусскому историческому музею. Сектором учета ЦХмф было взято на учёт 38.730 книг.

1950 г. По запросу Комитета по делам искусств при Совете Министров СССР предоставлены списки художественных произведений, возвращенных из Германии и других мест в 1945–1949 гг. в ЦХмф из числа похищенных фашистами в период Отечественной войны из музеев Советского Союза. Автору не удалось познакомиться с данным списком. Надо заметить, что сам факт собирания подобных сведений по различным музеям СССР был своеобразным подведением итогов возвращения культурных ценностей (в том числе и книг). Однако возвращение их эпизодически происходило и позже.

1951 г. По акту от 10 ноября библиотечный фонд дворцов-музеев состоял из 29522 томов книг.

1953 г. В справке от 1 сентября о ходе инвентаризации музейных ценностей в ЦХмф указано, что инвентаризация культурных ценностей по описям 1938 г. закончена. Инвентаризация книжных фондов проходила следующим образом: разбирались ящики с книгами, сверялись с описями 1938 г. и напротив записи о книге ставился один из трех штампов: "возвращено из эвакуации", "возвращено из страны", "сохранено в Лениграде" с указанием числа, месяца и года. Таким образом, поиски 64 книг инвентарных описей библиотек дворцов-музеев становятся для нас необходимой задачей. Из 180.228 музейных предметов было сохранено, эвакуировано и возвращено 63.882 предмета, а 116.346 предметов утрачено.

1954 г. По акту передачи дел числились 64 инвентарные книги 1938 г. и новые инвентарные книги дворцовых библиотек. Книги находились в различных фондах: Нарвском, Академическом, Рижском, станции Тайга, Берлинском. 20 ноября многие рукописные материалы и книги были переданы из ЦХмф в Павловский музей.

1955 г. Было принято решение о списании предметов, не имеющих значения. Среди них по Павловскому дворцу списано 76 архивных материалов по акту от 26 ноября 1954 г. (приложение "Отборочный список" отсутствует).

1956 г. В этом году фонд был законсервирован и передан в ведение архива Павловского дворца-музея. В 1956–1957 гг., по заключению сотрудника иностранного отдела Центральной городской библиотеки И.Пушкиной, фонд ЦХмф состоял из 3,5 тысяч иностранных книг XVIII – первой половины XIX в. Дальнейшее передвижение фонда неизвестно, однако сегодня несколько сот книг из дворцов-музеев находятся в Центральной городской библиотеке им. В.Маяковского.

Таким образом, в период с 1945 по 1948 г. было получено не менее двух тысяч ящиков, в каждом из которых находилось приблизительно по 120–130 книг, что вместе составляло не менее 250–300 тысяч книг. Безусловно, эти данные заставляют нас более внимательно отнестись к проблеме возвращения книжных фондов из Германии и других стран после 1945 г. Причем, по нашим данным, последние партии книг были получены смоленскими библиотеками в 1967 г. из Австрии (г. Зальцбург).

К сожалению, до настоящего времени мы не имеем целостной картины, отражающей систему вывоза советских библиотек на территорию Германии и их дальнейшую судьбу. В 1945–1946 гг. данные об ущербе, нанесенном библиотекам России, были собраны и обобщены Чрезвычайной Государственной Комиссией по установлению и расследованию злодеяний немецко-фашистских захватчиков. Однако существенным недостатком документов ЧГК является определение ущерба единым термином "вывезено и уничтожено". Кроме того, одновременно с вывозом наиболее ценных изданий, изымались и библиотечные каталоги. Для предъявления претензий по потерям библиотек в период Второй мировой войны необходимо составление списков по утраченным книжным богатствам.

В заключительной части доклада приведу некоторые сведения об уничтожении и вывозе книг из российских библиотек в период оккупации из областей России, граничащих с Белоруссией.

**Брянская область.** Здесь уничтожено 137 библиотек, 370 изб-читален с общим фондом в один миллион 160 тысяч томов. Полностью разрушена областная библиотека, уничтожены 30 тысяч томов.

Вывезено 10 тысяч томов из библиотеки г. Стародуба, остальные 470 тысяч томов уничтожены. Сожжена библиотека г. Унечи (35 тысяч томов).

**Псковская область.** Из Псковского Кремля вывезены 1026 церковных книг, среди которых — рукописные книги XVI–XVII вв. и печатные книги XVII в. Из библиотеки Педагогического института вывезены 35 тысяч томов, среди них 5 тысяч томов — книги русских ученых. Было вывезено шесть экземпляров Библии Ф.Скорины 1517–1519 гг.

**Смоленская область.** Уничтожены книги библиотеки Педагогического (525 тысяч томов) и Медицинского институтов, Института иностранных

языков. Разграблено и уничтожено 646 тысяч томов книг Областной библиотеки, пострадали библиотеки им. М.Горького, Детская библиотека. Вывезены книги Театральной библиотеки, ценнейшие коллекции художественного, исторического, этнографического музеев и музея природы. Из библиотек Смоленска вывезены автографы и рукописные книги, в том числе автографы Петра I, Анны Иоанновны, Петра II, Екатерины II, Николая I и другие. Среди рукописных книг — Брюсов календарь XVIII в., недельное Евангелие XV в., Молитвослов XVI в. и др. Вывезены шесть рукописных Евангелий. Были взорваны центральные библиотеки г.Вязьмы, Гжатска. Сычевки.

*Приложение*

## Терминология проблем реституции

Термином “культурные ценности” обозначаются имущественные ценности религиозного или светского характера, имеющие большое значение для культуры данного народа — такие, как произведения искусства, рукописи, книги, другие предметы художественного, исторического, естественно-научного или археологического значения, а также научные коллекции книг, старинные рукописи и инкунабулы, архивные материалы, художественные и документальные репродукции.

Термин “перемещенные культурные ценности” означает культурные ценности, перемещенные в СССР из Германии, Австрии и союзных с Германией государств в результате Второй мировой войны и находящиеся на территории России.

Термины “репарация” и “реституция” означают виды материальной ответственности государства, виновного в совершении международной агрессии. Ответственность в виде репарации заключается в возмещении виновным государством в денежной или натуральной (поставки оборудования или других материальных ценностей) форме ущерба, который оно причинило другому государству в результате своих противоправных действий. Ответственность в виде реституции заключается в устранении или уменьшении виновным государством причиненного им другому государству ущерба путем восстановления прежнего состояния, в частности в форме возврата имущества, награбленного им с оккупированной его войсками территории другого государства.

## *Выступленні ў дыскусіі*

### *Аляксандр Міхальчанка*
*старшыня Камітэта па архівах і справаводству пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь*

Былы саюзны архіўны фонд, які ўтрымлівае інфармацыю аб вернутых і перамешчаных у час вайны з Германіі ў СССР каштоўнасцях, на жаль, сёння закрыты ўрадам Расійскай Федэрацыі для даследчыкаў з былых саюзных рэспублік. Мы не маем магчымасці атрымаць адтуль патрэбную нам інфармацыю пра страчаныя Беларуссю каштоўнасці, якія былі вернуты ў СССР.

Усе беларускія архівы былі перамешчаны ў час вайны. Сярод іх — дакументы па дваранскіх родах. Вельмі мала дакументаў захавалася аб падзеях з часоў акупацыі Беларусі. З Германіяй у нас склалася добрае супрацоўніцтва. Замінае тут толькі недастатковае фінансаванне.

У бліжэйшы час мы праводзім міжнародную канферэнцыю "Зарубежная Беларусіка". Прымаюцца намаганні, каб вярнуць дакументы Беларускай Народнай Рэспублікі. Мы ведаем, што частка з іх захоўваецца ў былым Цэнтральным архіве СССР, частка — у Германіі, а частка ў Францыі (там жыве жонка былога прэзідэнта БНР). Пакуль вынікі пошукаў вельмі малыя.

### *Габрыэле Фрайтаг*
*супрацоўніца Даследчага цэнтра "Усходняя Еўропа" Брэменскага універсітэта, Германія*

Прапаную стварыць сумесныя Банкі інфармацыі пра вывезеныя ў час Другой сусветнай вайны з СССР каштоўнасці і вернутыя пасля вайны. Перадаю Скарынаўскаму цэнтру спіс перамешчаных рухомых аб'ектаў, якія амерыканцы перадалі СССР у 1946 г. Сярод іх былі і каштоўнасці, вывезеныя немцамі з беларускіх музеяў.

### *Надзея Высоцкая*
*загадчыца аддзела старажытнага мастацтва Нацыянальнага Мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, доктар мастацтвазнаўства*

У свой час Паўлаўскі музей перадаў Беларусі толькі частку нашых музейных экспанатаў, якія трапілі туды ў выніку рэстытуцыі. Ноўгарадскі музей, праўда, аддаў усе беларускія экспанаты.

У ДММ РБ ёсць невялікая частка твораў з нямецкімі этыкеткамі і нумарамі. Каб іх вярнуць у Германію, патрэбны інвентарны вопіс канкрэтнага музея.

Увогуле ж ДММ страціў у час апошняй вайны 99 працэнтаў свайго фонду. Пасля вайны, калі экспанаты вярталіся ў СССР бессістэмна — на Украіну, у Расію, у розныя гарады той жа Беларусі, напрыклад, у Гродна, беларускія творы выпадкова аказаліся не толькі ў РСФСР, але і на Украіне. Так, беларускія абразы з нашымі інвентарнымі нумарамі аказаліся ў львоўскіх музеях. Мы просім перадаць іх Беларусі. Адначасова мы просім украінскі бок прывезці ў Беларусь сваю выставу беларускіх каштоўнасцей, а мы маглі б прывезці на Украіну выставу ўкраінскіх абразоў. Гэта было б сімвалічным вяртаннем страчаных каштоўнасцей хаця б у кантэкст нашых культур. З Польшчай у такім плане мы ўжо супрацоўнічаем: робім абменныя выставы ў Радоме і Мінску.

### *Валянціна Врублеўская*

*намеснік старшыні Камітэта па вяртанню культурных каштоўнасцей пры СМ Украіны*

Галоўную праблему перад спецыялістамі Украіны бачу ў распрацоўцы шляхоў вяртання страчаных каштоўнасцей. Наш Камітэт каардынуе намаганні ўсіх міністэрстваў, ведамстваў, якія займаюцца гэтай справай. Іх дзейнасць актыўна падтрымлівае наш Прэзідэнт, які нават звярнуўся да ўкраінскай дыяспары з заклікам аб вяртанні на Радзіму вывезеных і створаных імі на чужыне каштоўнасцей.

Камітэт заняўся стварэннем адпаведных спісаў, дзе каштоўнасці падзелены на некалькі груп: каштоўнасці, страчаныя да 1917 г.; страчаныя ў 20-30 гады; страчаныя ў Другую сусветную вайну; створаныя суайчыннікамі, якія выехалі за межы Украіны; выкрадзеныя і затрыманыя мытнямі. Трафейныя каштоўнасці, якія трапілі на Украіну пасля вайны, пакуль нікім не ўлічваюцца. У культурны кантэкст яны не ўключаны. Цяпер Камітэт ставіць перад сабой мэту: стварыць банк страчаных каштоўнасцей і банк наяўных каштоўнасцей.

Мы ўжо правялі серыю рэгіянальных музейных канферэнцый. Мэта іх — падключыць да выканання праграмы супрацоўнікаў рэгіянальных музеяў. Камітэт мяркуе стварыць асобныя камісіі па розных відах каштоўнасцей. Нашы супрацоўнікі рыхтуюць Дзяржаўную праграму дадзеных на камп'ютэрнай аснове. Яны ўжо маюць агульныя звесткі пра 51 млн. архіўных дакументаў і 50 млн. кніг, але зусім не маюць лічбаў па музейных каштоўнасцях.

Камітэт стварыў пошукавыя групы, якія працуюць над той часткай архіва Розэнберга, якая знаходзіцца ў Кіеве. Але трэба яшчэ вывучаць тыя часткі архіва Розенберга, якія знаходзяцца у Кобленцы і ў Расіі. На жаль, да расійскай часткі архіва Розэнберга няма доступу.

Камітэт выдаў пяць выпускаў матэрыялаў па дакументацыі. Цяпер ён распрацоўвае прававы Статут па пытаннях рэстытуцыі.

Савет Міністраў Украіны падтрымлівае нашу Праграму "Вернутыя імёны". Падпісаны двухбаковыя пагадненні аб супрацоўніцтве па праблемах рэстытуцыі з Венгрыяй і Брэменскім рабочым цэнтрам "Усходняя Еўропа". Дзейнічае Украінска-нямецкая камісія "Культура і вайна". Мы правялі ўжо круглы стол з немцамі. Украіна ў дні культуры Баварыі вярнула Германіі выданні Гётэ, атрымала з Германіі 700 вельмі каштоўных кніг, вывезеных у час Другой сусветнай вайны з Херсанескага музея.

Для далейшай сумеснай работы прапаную:

— стварыць Міжнародную бібліятэчную камісію ў складзе Расіі, Беларусі, Украіны, Германіі;

— распрацаваць міжнародныя юрыдычныя аспекты (прававы статус) па праблеме рэстытуцыі каштоўнасцей.

Дзеля другой прапановы Камітэт збіраецца правесці ў 1996 г. у Харкаве Міжнародны "круглы стол", на які мяркуем запрасіць і правазнаўцаў з Акадэміі навук Беларусі.

Вельмі цяжка ідуць перамовы па праблемах рэстытуцыі з Расіяй, якая нават не падпісала Мінскае пагадненне 1992 г. паміж краінамі СНД па вяртанню перамешчаных каштоўнасцей. А ў 1993 г. Расія не прыняла ўдзелу ў рабоце нарады прадстаўнікоў СНД па гэтай праблеме. Менавіта Беларусь была ініцыятарам указаных пагаднення і сустрэчы. Цяпер настаў час паўторна і настойліва звярнуцца да Расіі, каб яна падтрымала агульныя намаганні краін СНД па вяртанню перамешчаных каштоўнасцей.

*Таццяна Рошчына*
*загадчыца аддзела рэдкіх выданняў*
*Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі*

На жаль, у Беларусі няма канцэпцыі дзяржаўнай палітыкі адносна страчаных каштоўнасцей, таму не распрацавана і Дзяржаўная праграма па вяртанню.

У 1941 г. Нацыянальная бібліятэка мела два млн. кніг, а пасля вайны — толькі 300 тыс. Цалкам зніклі кнігі з яўрэйскага і беларускага аддзелаў. У выніку вялікіх намаганняў і пошукаў мы вярнулі частку фондаў. Але самыя каштоўныя нашы кнігі і рукапісы не вернуты па сённяшні дзень.

Інвентары кніжныя вывезены, каталогі бібліятэчныя рассыпаны, і мы дагэтуль не можам скласці поўныя спісы страчанага. Увогуле ж нам не вярнулі 1 млн. самых каштоўных кніг.

Мы таксама сутыкнуліся з праблемай трафейных кніг. Нам вядома, што многія беларускія выданні трапілі ў Маскву, Санкт-Пецярбург і іншыя гарады Расіі менавіта праз трафейны фонд.

Пакуль Расіяй не падпісана агульнае для краін СНД пагадненне па рэстытуцыі, прапаную весці двухбаковы абмен выданнямі.

*Дорыс Лемермаер*
*кіраўнік Брэменскага Праекта, Германія*

Праз 50 год пасля завяршэння Другой сусветнай вайны пара нарэшце сур'ёзна, на еўрапейскім узроўні, заняцца праблемамі рэстытуцыі каштоўнасцей. Пакуль жа мы не маем кантактаў з даследчыцкімі цэнтрамі многіх краін, якія страцілі свае каштоўнасці ў час вайны. Так, калі ў Брэмене была міжнародная канферэнцыя па гэтай праблеме, дык Беларусь на яе нават не запрасілі. Мы не ведалі, з кім у вашай краіне трэба звязвацца. Усе краіны СНД павінны даць інфармацыю аб сваіх стратах.

Неабходна абменьвацца архіўнымі матэрыяламі па нашай праблеме (хаця б на ўзроўні ксеракопій), інфармацыяй з "чорнага" і "шэрага" рынкаў, дзе часта прадаюцца перамешчаныя ў час вайны каштоўнасці; каардынаваць дзейнасць нашых экспертаў па гэтай праблеме.

Прапаную праводзіць пасяджэнні Міжнароднага круглага стала па вяртанню каштоўнасцей кожны год, устанавіць пастаянныя кантакты праз бюлетэнь, які пачынае выдавацца ў Брэмене на англійскай мове, між экспертамі ўсіх зацікаўленых краін. Запрашаю ўсіх вас удзельнічаць у падрыхтоўцы інфармацыі для гэтага бюлетэня, першы нумар якога выйдзе ў наступным месяцы.

**У дыскусіі прынялі таксама ўдзел:**

*Дзмітрый Бубноўскі*, начальнік Дзяржінспекцыі па ахове помнікаў гісторыі і культуры РБ,

*Ала Ванькові*ч, вучоны сакратар Дзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны РБ,

*Мая Яніцкая*, кандыдат мастацтвазнаўства, сябра камісіі "Вяртанне" Беларускага фонда культуры.

## Рэкамендацыі

Удзельнікі Міжнароднага "круглага стала" "Лёсы беларускіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей у час Другой сусветнай вайны і пасля яе (перамяшчэнне, выяўленне і вяртанне)" з Беларусі, Германіі, Польшчы, Расіі і Украіны пасля абмеркавання праблемы прыйшлі да вываду аб неабходнасці наступных рэкамендацый:

1. Камісіі "Вяртанне", іншым грамадскім арганізацыям яшчэ раз звярнуцца ва ўрад РБ з прапановай стварыць дзяржаўную і навуковую структуры па выяўленню і вяртанню матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей беларускага народа і іншых народаў Беларусі.

2. Звярнуцца ў ЮНЕСКО з просьбай правесці міжнародны сімпозіум па распрацоўцы прынцыпаў рэстытуцыі.

3. Стварыць у межах СНД і, шырэй, краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы структуры, якія каардынавалі б дзейнасць банкаў інфармацыі па каштоўнасцях, якія знаходзяцца на тэрыторыі іншых краін, абмен гэтай інфармацыяй і вопытам.

4. Зрабіць такія пасяджэнні традыцыйнымі; шырэй абапірацца ў вырашэнні праблем рэстытуцыі на народную дыпламатыю, праявы добрай волі.

*Матэрыялы Міжнароднага "круглага стала" падрыхтавала*
***Мая Яніцкая***

ЮРЫ ПІСКУН
МАЯ ЯНІЦКАЯ

# ЛЁСЫ БЕЛАРУСКІХ КАШТОЎНАСЦЕЙ У МАСКВЕ

Папярэднія кароткія звесткі
пра паступленні беларускіх
каштоўнасцей у музеі,
бібліятэкі, архівы і
культавыя ўстановы
Масквы.

Заснаванне і фармаванне буйнейшых маскоўскіх музеяў (Дзяржаўнага гістарычнага музея, далей ДГМ, у 1872 г. і Расійскага Дзяржаўнага музея выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна, далей РДМВМ, 1912 г.), а таксама Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі, далей РДБ, заснаванай у складзе Маскоўскага публічнага Румянцаўскага музея ў 1862 г., адбыліся ў значнай ступені за кошт каштоўнасцей, што паступілі галоўным чынам з Гомельскай палацавай калекцыі графа М.П.Румянцава, сабранай ім у Беларусі да 1825 г., і Віленскага музея старажытнасцей, заснаванага ў 1855 г. графам Тышкевічам на базе калекцыі Лагойскага музея (сабрана братамі К. і Я. Тышкевічамі да 1842 г.) і ўласных здабыткаў, атрыманых ад мясцовых дзеячаў літаратуры, мастацтва і навукі — У. Сыракомлі, А. Кіркора. І. Кулакоўскага, Т. Нарбута, Ф. Багушэвіча, М. Бялінскага, К. Буйніцкага і інш.

Беларускія каштоўнасці траплялі ў Маскву ў выніку самых розных абставін. Сярод іх можна выдзеліць наступныя шляхі:

1. Стварэнне Румянцаўскага музея і бібліятэкі — спачатку ў Санкт-Пецярбургу на базе прыватных калекцый графа М.П. Румянцава, сабраных ім у Гомельскім палацы, перавод музея і бібліятэкі з С.-Пецярбурга ў Маскву (1826–1861).

2. Перадача рэчаў з Віленскага музея старажытнасцей у Румянцаўскі музей Масквы пасля падаўлення паўстання 1863 г.

3. Паступленні ў Румянцаўскі музей Масквы беларускіх рэчаў з Сінадальнага архіва, прыватных збораў і іншых крыніц (канец XIX – пач. XX ст.).

4. Расфармаванне ў 30-я гады нашага стагоддзя Румянцаўскага музея і бібліятэкі, папаўненне яго экспанатамі гістарычнага музея (Масква) і ўтварэнне з яго дапамогай Дзяржаўнага гістарычнага музея СССР і Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя Леніна; перадача часткі фондаў Дзяржаўнаму музею выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна, Дзяржаўнаму атэістычнаму музею, Дзяржаўнаму аукцыённаму фонду і іншым установам Масквы (30-я гады нашага стагоддзя).

5. Экспедыцыі Дзяржаўнага гістарычнага музея СССР па Беларусі для збору каштоўнасцей і перадачы ў яго фонды беларускіх экспанатаў з Беларускага дзяржаўнага музея ў Мінску, Магілёўскага музея, збораў у Пінску і іншых гарадах Заходняй Беларусі ў 1939–1940 гг.

6. Перадача ў Дзяржаўны гістарычны музей СССР рэчаў з трафейнага фонда СССР (1950-я гады).

Выяўленыя ў архіўных сховішчах Масквы матэрыялы дазволілі больш канкрэтна ахарактарызаваць экспанаты, кнігі і рукапісы, якія маюць значэнне для даследавання. Сярод такіх рукапісных крыніц у першую чаргу трэба назваць наступныя:

1. У архіве РДМВМ (ф. 2, воп. 1, адз. зах. 3) захоўваюцца справаздачы Румянцаўскага музея за 1860–1890 гг. З іх вынікае, што Румянцаўскі музей быў прыняты ў казённае ведамства ў 1828 г. — пад начала Міністэрства народнай асветы. Музей першапачаткова знаходзіўся ў Санкт-Пецярбургу, а дырэктарам яго быў прызначаны барон М.А. Корф. У 1861 г. музей быў пераведзены ў Маскву, у набыты спецыяльна для яго дом Пашкова (цяпер будынак Дзяржаўнай бібліятэкі Расіі).

2. Там жа (ф. 2, воп. 1, адз. зах. 19) выяўлены арыгіналы вопісаў канфіскаваных і перададзеных у Румянцаўскі музей рэчаў Віленскага музея старажытнасцей (1865–1868 гг.). Вопіс мае загаловак: "Польское собрание. 1 июля 1868 г. Дополнительный перечень польских портретов, картин, гравюр, карикатур и разного рода других литографий". Графічныя матэрыялы, названыя ў вопісе паступленняў у Румянцаўскі музей, цяпер захоўваюцца ў аддзеле гравюры Дзяржаўнага музея выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна ў Маскве. Вялікая колькасць (больш тысячы) гравюр і літаграфій утварае фонд, які мае назву "Польская школа".

Вялікі па аб'ёму матэрыялаў фонд "Польская школа" РДМВМ складаецца пераважна з тыражных літаграфій другой чвэрці – сярэдзіны XIX ст. (больш раннія творы трапляюцца значна радзей). Шмат якія гравюры маюць дублетныя экзэмпляры. Для культуры Беларусі яны маюць значную каштоўнасць, як іканаграфічныя матэрыялы, звязаныя з нацыянальнай гісторыяй.

З падобных меркаванняў прадстаўнікі літоўскага Міністэрства культуры дамагліся таго, што частка фонда "Польская школа" была перададзена з музея на сталае захоўванне ў Вільнюс (па акту ад 21.4.1966 г.). На перадачу матэрыялаў з фонду "Польская школа" РДМВМ Беларусь можа таксама прэтэндаваць на той падставе, што большасць матэрыялаў гэтага фонду мае непасрэднае дачыненне па сваёй тэматыцы да Беларусі. Як бачна з супастаўленняў "Вопісу перададзеных у Румянцаўскі музей — польскіх графічных адлюстраванняў з Віленскага музея" і зместу калекцыі "Польская

школа" РДМВМ, матэрыялы гэтых абодвух збораў у значнай частцы супадаюць. Тое, што аснову калекцыі "Польская школа" складае графічная калекцыя, канфіскаваная па загаду Мураўёва ў Віленскім музеі пасля 1864 г., пацвярджаюць і паметкі на асобных творах ("дозволено цензурою исключительно для музея Вильно"), і гісторыя фармавання калекцыі "Польская школа" РДМВМ на базе калекцыі Румянцаўскага музея, які атрымаў усе "изъятые" з Віленскага музея экспанаты. У сваю чаргу вядома, што аснову збору Віленскага музея да яго расфармавання ў 1864 г. складала прыватная калекцыя братоў Тышкевічаў, сабраная імі ў Беларусі. Гэтая калекцыя захоўвалася пераважна ў Лагойску. Імкнучыся стварыць агульнадаступны музей у Паўночна-заходнім краі, Тышкевічы лічылі, што такім чынам яны пакінуць пасля сябе спадчыну сваёй радзіме.

Падобным чынам у 1980-я гады ў Вільнюс на часовае захоўванне былі перададзены з маскоўскага ДГМ партрэты Янішэўскіх — узоры познесармацкага беларускага партрэтнага жывапісу, якія трапілі ў 60-я гады XIX ст. у Віленскі музей з лагойскага збору Тышкевічаў, а потым былі перададзены ў Румянцаўскі музей. На жаль, не ўдалося прасачыць лёс іншых рэчаў, вывезеных у Румянцаўскі музей з Віленскага (Тышкевічаўскага) музея. Таму варта прыкласці намаганні, каб матэрыялы фонду "Польская школа", якія маюць у большасці сваёй беларускае паходжанне, сталі хаця б вядомымі ў Беларусі.

Менавіта ў Маскоўскі публічны і Румянцаўскі музей паступіла значная колькасць абразоў "западно-русского письма" з Сінадальнага архіва, куды з "Паўночна-заходняга краю" пасля падаўлення паўстання 1863–1864 гг. і ў выніку далейшай палітыкі ліквідацыі ў беларускай царкве слядоў уніяцтва часта адсылаліся старыя дакументы, абразы і культавыя рэчы ўніяцкага паходжання.

Вядома, што з пачаткам Першай сусветнай вайны, у 1915 г., у Маскву былі эвакуіраваны: з Гродна — цудатворны абраз Божай Маці Каложскай, з Вільні — Віленская Адзігітрыя, з Супрасля — цудатворны абраз Божай Маці. Вызначыць месца знаходжання гэтых абразоў пакуль не ўдалося.

Пошукі мастацкіх каштоўнасцей, вывезеных з Беларусі ў Маскву да рэвалюцыі, ускладняюцца з-за недахопу дакументаў і з-за таго, што дарэвалюцыйныя маскоўскія музейныя фондасховішчы ў 30-я гады XX ст. істотна ператасоўваліся без афармлення належным чынам музейнай дакументацыі.

Пасля 1917 г. маскоўскімі музеямі і асобнымі даследчыкамі ажыццяўляліся экспедыцыі ў Беларусь. Так, вядомы даследчык А. Някрасаў перадаў у фотатэку Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі вялікую колькасць арыгінальных фотаздымкаў беларускай культавай архітэктуры, інтэр'ераў

цэркваў, фатаграфій іканастасаў, асобных абразоў, сфатаграфаваных ім у час экспедыцый у Полацк, Віцебск і іншыя гарады Беларусі ў 30-я – 40-я гады. Значная колькасць гэтых фотаздымкаў захоўваецца цяпер у фотатэцы Музея архітэктуры імя Шчусева ў Маскве.

У 30-я гады была праведзена экспедыцыя Маскоўскага Музея народнага мастацтва (раней саматужніцкі музей) па Беларусі для збору ўзораў беларускай народнай вышыўкі і ткацтва[1].

Дзяржаўны гістарычны музей СССР арганізаваў экспедыцыі ў Беларусь у 1939, 1940, 1950 гадах. Мяркуючы па дакументах аддзела ўліку ДГМ у час экспедыцый 1939 і 1940 гг. фактычна адбывалася не збіранне музейных экспанатаў, а іх “изымание” з музеяў Мінска, Магілёва, а таксама з маёнткаў, царксўных і касцельных установ далучанай да БССР Заходняй Беларусі.

Так, у калекцыйны вопіс 80400 ДГМ былі ўключаны 27 прадметаў па “Акту от 23 сентября 1939 г. о передаче из Минского исторического музея 27 предметов живописи, графики и др.”. Там сказана: “з дзяржаўнага гістарычнага музея [паступілі] рама з разьбой ... века, царскія вароты, а таксама партрэты і інш. творы жывапісу і гравюры”. Сярод твораў, якія трапілі ў 1939 г. у Маскоўскі ДГМ, аказалася:

1. “Дабравешчанне з Параскевай” — $\frac{80400}{\text{И VIII 4069}}$, каля 1744 г., латыгаўскі майстар. Да 1939 г. захоўвалася спачатку ў Віцебскім царкоўна-археалагічным музеі, а потым — у Віцебскім аддзяленні Белдзяржмузея (інв. № 510). экспанавалася на 1-ай Усебеларускай выстаўцы 1925 г. у Мінску. Апісана М. Шчакаціхіным у зб. “Віцебшчына” (с. 62) і “Каталогу аддзелу старажытнага мастацтва” (Мн., 1926. С. 18, № 23). Пасля 1925 г. была ў царкоўна-гістарычным аддзеле Мінскага аблмузея. У сувязі з закрыццём гэтага аддзела напачатку 30-х гадоў[2] — апынулася ў фондах Белдзяржмузея. Лічылася, што гэты абраз, як і астатнія абразы, што паходзілі з царквы вёскі Латыгава, былі вывезены ў час Вялікай айчыннай вайны ў Германію, а ў Маскву трапілі з трафейнымі фондамі, але дакументы ДГМ сведчаць, што гэта не так: абраз знаходзіўся там з 1939 г. на часовым захоўванні, як указана ў акце паступлення. З 1986 г. абраз на часовым захоўванні ў Музеі старажытнабеларускай культуры (МСБК) ІМЭФ АНБ (Вх–8).

2. “Нараджэнне Хрыстова”, $\frac{80400}{\text{И VIII 3356}}$, слуцкая школа, XVII ст., з Целядаўскай царквы. 138х97х8 (2,5) — тыповая беларуская іканаграфія. У картках уліку ДГМ фігуруе як часовае паступленне з Мінска ў 1939 г. Да таго

---

[1] Изобразительные мотивы в русской народной вышивке: Музей народного искусства. М., 1990. С. 186.

[2] “Навука” на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі. Мн., 1931. Т. 1. Ч. 1.

захоўвалася ў Белдзяржмузеі. Пасля Вялікай айчыннай вайны абраз быў змешчаны ў сталую экспазіцыю ДГМ, цяпер у яго фондах. Рэпрадукцыя змешчана М.С.Кацарам у "Истории искусств народов СССР" (т.2). Ёсць падставы, каб вярнуць гэты выдатны твор Беларусі.

3. "Вогненнае ўзыходжанне Іллі", $\frac{80400}{\text{И VIII 4999}}$, 1744 г., латыгаўскі майстар. Гісторыя абраза такая ж, як і "Дабравешчання з Параскевай" (№ 1 — у нашым пераліку). Інв. № Віцебскага аддзялення Белдзяржмузея — 502[3]. Інв. № часовага захоўвання ў МСБК ІМЭФ АНБ (Вх–6).

4. "Нараджэнне Хрыстова", $\frac{80400}{\text{И VIII 5223}}$, пач. XVIII ст., Магілёўская школа (?), з Баркулабаўскага манастыра. Паступіла на выстаўкі 1918 г. у Мінску і Вільні. Да 1939 г. — у Белдзяржмузеі ў Мінску. Старыя нумары — 3–645 (5622), на адвароце этыкетка выстаўкі 1918 г. На часовым захоўванні ў МСБК ІМЭФ АНБ (Вх–7).

5. "Божая Маці Балыкінская", $\frac{80400}{\text{И VIII 4535}}$. XIX ст. Цяпер на часовым захоўванні ў МСБК.

Акрамя таго ў калекцыйны вопіс 80400 (аб перадачы з Белдзяржмузея ў ДГМ на часовае захаванне) уключаны наступныя абразы:

6. "Тройца старазапаветная", $\frac{80400}{\text{И VIII 5223}}$. XVIII ст.

7. "Вадохрышча", XVIII ст. (?), 57x41,5x6, $\frac{80400}{\text{И VIII 4070}}$ (у крузе).

8. "Яўленне Хрыста Невядомаму святому воіну", $\frac{80400}{\text{И VIII 4082}}$. XVIII ст.(?), 62,6x44,77x9,8.

9. "Хрыстос у аблоках", $\frac{80400}{\text{И VIII 4085}}$, (металічная бляха, алей)

10 " Спас нерукатворны", $\frac{80400}{\text{И VIII 5445}}$ (у крузе, арнаментаванай раме).

Тры з апошніх пяці абразоў ужо вернуты ў Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі ў 1989 г. па дамоўленасці з ДГМ. Адначасова туды ж перададзены і іншыя творы, пазначаныя ў акце перадачы 1939 г.

Варта звярнуць увагу на тое, што вопіс 1939 г. вельмі недакладны, бо ў акце прыёму ўказваецца, што паступілі тады 27 адзінак захавання, з іх 5 абразоў. Па нашых жа падліках абразоў у гэтым паступленні было не менш дзесяці. Акрамя таго, па нумарах відаць, што прадметаў, зафіксаваных у вопісе 80400, павінна быць значна больш.

Дакладна вядома, што царская брама № 60715, ДГМ, узор беларускай пазалочанай карунковай рэзі, не была перададзена ў Мінск назад у ліку тых рэчаў, што атрымаў Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.

Аналагічны характар мела экспедыцыя ДГМ у Беларусь 1940 г. Мяркуючы па вопісу паступленняў ("коллекционная опись ГИМа 80753"), яе ўд-

[3] Шчакаціхін М. Матэрыялы да гісторыі беларускага малярства XVII сталецця // Віцебшчына. Віцебск, 1925. С. 29.

зельнікі забралі экспанаты з Магілёўскага музея. Прывядзем фрагменты гэтага вопісу (падаецца на мове арыгінала): "Белорусская экспедиция 1940 г.".

№ 2. Потир медный посеребреный небольшого размера. На ножке несложный орнамент и надпись. XVIII в. Из Могилёвского музея.

№ 3. Кусок крашанины синей с рисунком в виде больших и малых квадратиков А–36420 (из Могилёвского музея).

№5. Набожник С — 344.

№ 6. Набожник С — 345.

№ 7. Антиминс холщёвый с отпечатками гравюры Василия Вощанки. XVII в. Р — 4003, из Могилёвского музея.

№ 13. Полотенце польской работы, С — 946.

№ 37. Рисунок карандашом (три), дар худ. Врублевского, г. Несвиж.

Па ўскосных звестках, паступленні ў ДГМ з Беларусі ў 1939–1940 гг. былі значна большымі. Так, газета "Известия" 2 лістапада 1940 г. паведаміла, што маскоўскі ДГМ у час экспедыцыі ў заходнія вобласці Беларусі вывез мэблю з маёнтка Завіша (каля Пінска), два крэслы з епіскапскага палаца ў Пінску.

Магчыма, яшчэ існуюць іншыя дакументы пра паступленні ў маскоўскі ДГМ з Беларусі ў 1939–1940 гг., якіх мы не бачылі. Варта было б адшукаць у мінскіх архівах акты выдачы з беларускіх музеяў і сховішчаў у 1939–1940 гг. рэчаў у Маскву. Верагодна, што такія дакументы існуюць.

Беларускія матэрыялы ў 1940 г. атрымаў не толькі ДГМ. Газета "Известия" 7 верасня 1940 г. пісала, што Цэнтральны антырэлігійны музей (ЦАМ, Масква) атрымаў 30 тыс. старадрукаў і рукапісаў з Пінска, з Бібліятэкі Пінскай каталіцкай семінарыі. Верагодна, што шмат якія рэчы затым былі перададзены з Цэнтральнага антырэлігійнага музея ў той жа ДГМ. Пра тое сведчыць паступленне туды наступных музейных рэчаў:

1. "Багамаці Смаленская" ў уліковых картках ДГМ фігуруе як "Богоматерь Ченстоховская", нумар И VIII 5005. На адвароце захаваўся інвентарны № ЦАМ (КИ 22710). Цяпер гэты абраз на часовым захаванні ў МСБК ІМЭФ АНБ.

2. "Вялікапакутніца Варвара", (?), XVIII ст., беларуская школа. № И VIII 5006. Блізкія нумары абодвух твораў сведчаць, што яны, відаць, паступілі з аднаго месца.

Варты ўвагі таксама калекцыйны вопіс ДГМ "57128 — акт 20 от 15.11.1933 г. (2–8 сентября 1925 г.) — на поступление из Государственного музейного фонда коллекции — часть костюмов мужских и женских, кушаков слуцких, лоскутов ткани — всего 63 №№". Паметка на палях: "57128 ткани — 49 экземпл. (22 не хватает)".

Пасля Вялікай айчыннай вайны вялікая колькасць беларускіх музейных каштоўнасцей апынулася ў Маскве — часткова яны былі эвакуіраваны пры наступленні немцаў, часткова, магчыма, паступілі пасля Перамогі ў выніку ўтварэння так званага "Трафейнага фонду". Матэрыялы гэтага фонду і дакументацыя лічыліся сакрэтнымі, пазнаёміцца з імі не было магчымасці. Музейныя рэчы з Беларусі ці то па некампетэнтнасці работнікаў Трафейнага фонду, ці то наўмысна, перадаваліся не ў беларускія музеі, а растасоўваліся па музеях Расіі. Так, пэўную колькасць даваеннага збору абразоў з Белдзяржмузея атрымалі Наўгародскі музей-запаведнік і Паўлаўскі музей (каля Ленінграда), толькі ў 60-я гады частка гэтых абразоў была перададзена ў Дзяржаўны мастацкі музей БССР, дзякуючы нястомным намаганням яго дырэктара А. В. Аладавай.

Нягледзячы на засакрэчанасць інфармацыі, удалося высветліць, што рэчы з Трафейнага фонду паступілі і ў ДГМ СССР. Гэта, напрыклад, абраз, занатаваны ва ўліковых картках ДГМ (запіс падаецца цалкам на мове арыгінала: "Богоматерь Минская — $\frac{85961}{\text{И VIII 3759}}$ — из Трофейного фонда через ЦГАДА 6 августа 1955 г.". Цяпер гэты абраз знаходзіцца на часовым захаванні ў МСБК ІМЭФ АНБ.

Пры адкрыцці доступу да дакументаў Трафейнага фонду можа быць выяўлена вялікая колькасць цікавых для беларускай музейнай справы матэрыялаў.

Ніжэй падаецца інфармацыя пра беларускія каштоўнасці, якія захоўваліся ці захоўваюцца ў канкрэтных установах Масквы.

### *Маскоўскі публічны Румянцаўскі музей (далей МПРМ)*
### *(шляхі паступлення каштоўнасцей з беларускіх прыватных і музейных збораў у час яго фармавання)*

Экспанаты беларускага паходжання, якія паступілі ў МПРМ на працягу 1861–1868 гг. з С.-Пецярбургскага музея Румянцава

| № п/п | Назва экспанатаў | Калі і адкуль паступілі | Крыніцы інфармацыі |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| 1. | Збор рукапісаў — 710. | Паступілі з | "Архив библиотеки. |
| 2. | Збор бібліятэчны:<br>рускіх кніг — 1143 назвы;<br>рускіх старадрукаў — 208;<br>іншаземных кніг — 13 306; | Пецярбургскага<br>Румянцаўскага<br>музея ў Маскоўскі<br>Румянцаўскі музей і | Опись 1, д. В. – 11.<br>ЛЛ. 122–126";<br>знаходзіцца ў<br>сучаснай Расійскай |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
| --- | --- | --- | --- |
| | часопісаў і газет — 25;<br>карт і планаў — 500;<br>гравюр і эстампаў — 4 572. | Маскоўскую публічную бібліятэку (так тады называлі адзіную ўстанову). Пералічаныя тут творы Румянцаў набыў для Гомельскага палаца. З 1828 да 1861 г. яны знаходзіліся ў Румянцаўскім музеі С.Пецярбурга. З 1861 г. Румянцаўскі музей, бібліятэку і архіў перавезлі ў Маскву (Дом Пашкова, дзе цяпер размешчана Расійская дзяржаўная бібліятэка). У якім музеі цяпер знаходзяцца гэтыя творы, пакуль невядома. | дзяржаўнай бібліятэцы; Архіў ДМВМ, ф. 11, воп. 1. адз. зах. 3; Ксеракопіі са справаздач Румянцаўскага музея ў Маскве за 1860–1890 гг.; История государственной ордена В.И.Ленина библиотеки СССР им. В.И.Ленина. М.. 1953. Т. 1; История библиотеки Московского публичного Румянцевского музея. 1862–1917; М.М.Клевенский. С. 43. |
| 3. | Збор мінералаў — 13 700 адз. | | |
| 4. | Збор этнаграфічных і археалагічных рэчаў — 163 адз. | | |
| 5. | Партрэты, карціны, статуі — 10 адз. | | |
| 6. | Гербарый — 28 пап. | | |
| 7. | Збор манет — 1728. | | |
| 8. | Скульптура:<br>— статуя "Сусвет", скульптар Канова. Мармур;<br>— статуя ў рост Румянцава-Задунайскага. Мармур;<br>— бюст канцлера М.П.Румянцава. Мармур;<br>— бюст Крузенштэрна. Бронза;<br>— бюст Ліснянскага. Бронза;<br>— "Актэон". Бронзавая копія скульптара Мартоса. | | |
| 9. | Жывапіс:<br>— партрэт М.П.Румянцава (у рост), мастак Доў;<br>— партрэт члена сям'і графа М.П.Румянцава;<br>— партрэт члена сям'і графа М.П.Румянцава;<br>— партрэт члена сям'і графа М.П.Румянцава;<br>— карціна "Урачыстае шэсце Кацярыны II у Крым". 1773 г. Мастак Тарычэлі. | | |
| 10. | "Несколько десятков икон, крестов и др. реликвий этого рода". | | История государственной ордена Ленина... С. 43. |

У МПРМ перадалі экспанаты Віленскага музея старажытнасцей пасля яго закрыцця ў 1865 годзе. Вядома, што пераважная іх большасць паходзіла з уласных музейных калекцый уладальнікаў Лагойска Тышкевічаў, сабраных на тэрыторыі Беларусі, яны датычацца яе гісторыі.

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | 3 818 экз. археалагічных помнікаў. | Паступіла па загаду камісіі, створанай Мураўёвым. Частку калекцыі перадалі Аружэйнай палаце; у ёй — скульптурная кампазіцыя Сасноўскага з выявай Ядвігі і Ягайлы. | Иконников В.С. О польском отделении вещей, памятников и портретов, перевезённых в Румянцевский музей в 39 тюках и опись их // Вестник Зап. России. 1868. № 2; Kurjer Litewski. 1909. № 14. |
| 2. | 8 110 экз. нумізматычных помнікаў. | | |
| 3. | 3948 экз. партрэтаў, гравюр, бюстаў. | | |
| 4. | 487 экз. пячатак. | | |
| 5. | 2097 экз. прывілеяў і аўтографаў. | | |
| 6. | 19 700 тамоў кніг. | Пазней з Масквы вярнулі ў Вільню толькі 206 адзінак захавання. | |
| 7. | 541 экз. рукапісаў. | | |
| 8. | 11014 экспанатаў чучалаў птушак з арніталагічнага аддзела музея. | | Каханоўскі Г.А., Каханоўскі А.Г. Руплівец нашай старасветчыны. Мн.,1992. С. 9. |
| 9. | 605 відаў раслін. | | |
| 10. | 408 энтамалагічных помнікаў. | | |
| 11. | Матэрыялы з археалагічных раскопак у Беларусі Я. і К.Тышкевічаў, А.Кіркора і інш. | | |

Ніжэй дадзены пералік экспанатаў Віленскага музея старажытнасцей, якія паступілі ў Румянцаўскі музей Масквы па акту ад 1 ліпеня 1868 г. пад назвай “Польское собрание” (лічбы пасля назвы — парадкавы нумар у гэтым вопісе).

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| I | **Графічныя партрэты:** | | |
| 1. | Жывапісца Арлоўскага, № 1. | У якім музеі яны захоўваюцца цяпер, пакуль невядома, таму што экспанаты МПРМ былі падзелены пасля яго ліквідацыі ў 1923 г. паміж ДГМ і ДМВМ, часткова перадалі іх у іншыя музеі РСФСР. | Архіў ДМВМ, ф. II. воп. I, спр.19. Склаў вопіс перададзеных у Маскву рэчаў Фр.Ахрамовіч. |
| 2. | Дзеячаў Польшчы і ВКЛ, № 4. | | |
| 3. | —//—, № 5. | | |
| 4. | Дзеячаў Польшчы і ВКЛ, № 6. | | |
| 5. | Дзеячаў Польшчы і ВКЛ, № 7. | | |
| 6. | Каралевы Боны, № 10. | | |
| 7. | Ляневеля, № 21. | | |
| 8. | Іпація Пацея (выразаны з кнігі XVIII ст.), № 22. | | |
| II | **Графічныя выявы з карцін:** | | |
| 1. | "Смерць Барбары Радзівіл", № 12. | | |
| 2. | "Ян Замойскі бярэ ў палон эрцгерцага Максіміліяна", № 3. | | |
| 3. | "Маскоўскія военачальнікі, якія штурмам бралі Смаленск, б'юць чалом перад Уладзіславам", № 18. | | |
| 4. | "Радавод Радзівілаў", № 20. | | |
| 5. | Від Вільні, № 19. | | |
| 6. | Від Вільні, № 20. | | |
| 7. | Від Вільні, № 21. | | |
| 8. | Від Вільні, № 22. | | |
| 9. | Від Вільні з Бакшты, № 37. | | |
| 10. | Помнік Жалкоўскаму па дарозе з Магілёва. | | |
| 11. | Касцёл дамініканцаў у Мінску, № 70. | | |
| 12. | Харугва князя Кароля Радзівіла (Пане Коханку), № 75. | | |
| 13. | Помнік у навагрудскай фары воінам, забітым пад Хоцімам, № 76. | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 14. | Помнік Вандзе Тышкевіч у Чырвонадворскім касцёле (паблізу г. Коўна), № 78. | | |
| 15. | Помнік Віленскага епіскапа Тышкевіча, № 79. | | |
| 16. | Унутраны выгляд фары ў Навагрудку, № 100. | | |
| 17. | Сцяг, захоплены Стэфанам Чарнецкім у шведаў, захоўваўся ў Лагойску, № 28. | | |
| **III** | **Малюнкі гербаў, пячатак, помнікаў, віньетак** | | |
| **IV** | **Выявы святых з так званага “Польскага аддзела”** | | |
| 1. | Выява абраза “Маці Божая Вострабрамская”, № 1. | | |
| 2. | Выява абраза “Маці Божая Жыровіцкая”, № 5. | | |
| 3. | Выява абраза “Спас” з касцёла трынітарыяў у Вільні, № 6. | | |
| 4. | Выява абраза “Яўленне анёла Пясту”, № 7. | | |
| 5. | Выява абраза “Святы Казімір”, № 9. | | |
| **V** | **Партрэты, карціны, гравюры і літаграфіі (пераважна тыражыраваныя)** | | |
| 1. | Партрэт Юрыя Радзівіла, епіскапа Віленскага, № 68; літаграфія. | | |
| 2. | Партрэт Тадэвуша Касцюшкі, №78. | | |
| 3. | Партрэт Хрыстафора Радзівіла, № 79. | | |
| 4. | Партрэт Іераніма-Фларыяна Радзівіла, № 145. | | |
| **Папка VI** | | | |
| **IV** | **Гравюры з абразоў і іншых рэлігійных выяў** | | |
| 1. | Аблога Чанстаховы і з’яўленне Божай Маці, № 1. | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 2. | Уваскрашэнне дзіцяці пры гробе св.Казіміра, № 3. | | |
| 3. | Абраз Багародзіцы з касцёла бернардзінцаў у Вільні, № 8. | | |
| 4. | Абраз Божай Маці, № 15. | | |
| 5. | Манстранцыя, ахвяраваная віленскім бернардзінцам, № 18. | | |
| 6. | Залаты крыж з мошчамі, ахвяраваны епіскапам Георгіем Тышкевічам, № 19. | | |
| 7. | Абраз св.Казіміра, № 23. | | |
| 8. | Багародзіца ў касцёле баніфратраў, № 24. | | |
| 9. | Цудатворны абраз "Спаса" у касцёле Чумніцкім у Беларусі, № 31. | | |
| 10. | Абраз "Божай Маці Мінскай", № 54. | | |
| 11. | Абраз "Божай Маці Барунскай", № 69. | | |
| 12. | Абраз "Божай Маці Трокскай", № 71. | | |
| **V** | **Здымкі медалёў, пячатак і гербаў шляхты** | | |
| **VI** | **Надмагільныя помнікі** | | |
| 1. | Аляксандра Сапегі, № 1. | | |
| 2. | Яна Танчынскага, № 3. | | |
| 3. | Станіслава Радзівіла, № 4. | | |
| 4. | Самуіла Паца, № 5. | | |
| 5. | Іосіфа Тышкевіча, № 8. | | |
| 6. | Караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста ў касцёле дамініканцаў у Гродне, № 9. | | |
| 7. | Маршалка Малахоўскага, № 12. | | |
| **VII** | **Графічныя выявы з карцін, пераплеценыя ў вялікім сшытку** | | |
| 1. | Св. Казімір, № 1. | | |
| 2. | Анёлы, № 2. | | |
| 3. | Маці Божая, № 3. | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 4. | Усёбачнае вока, № 4. | | |
| 5. | Евангелісты, № 5. | | |
| 6. | Божая Маці ў Віленскім касцёле баніфратраў, № 6. | | |
| 7. | Укрыжаванне, № 7. | | |
| 8. | Сон дзяўчыны, лёс, № 8. | | |
| 9. | Эмблемы навук пры Яне III Сабескім, № 11. | | |
| 10. | Святыя Цацылія, Іосіф і Пётр; Тэрэза і інш., № 15. | | |
| 11. | Розныя механічныя прылады, № 16. | | |

Папаўненне МПРМ экспанатамі беларускага паходжання працягвалася да канца XIX стагоддзя не толькі за кошт Віленскага музея старажытнасцей.

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Барэльеф св. Казіміра. | Невядома, адкуль паступілі ў 1861 г. | Дакладная запіска Н.Ісакава па Румянцаўскаму музею за 1866 г. // Отчёт Румянцевского и Московского публичного музеев за 1866 г. М., 1898. |
| 2. | Скульптура "Іасафат Кунцэвіч з сякерай у галаве". | Невядома, у якім музеі яны цяпер захоўваюцца. | |
| 3. | Карціна мастака Зімлера "Смерць Іасафата Кунцэвіча". | Паступіла ў 1866 г. ад графа Ф.Ф.Бэра. Невядома, куды яе перадалі пры ліквідацыі музея. | —//— |
| 4. | Калекцыя Севасцьянава (мяркуецца, што ў ёй таксама былі і рэчы беларускага паходжання). Яго архіў захоўваецца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы — Рукописные | Прыняў у Румянцаўскі музей Філімонаў. | Отчёты Московского публичного и Румянцевского музеев за 1895–1906 гг. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | собрания ГБЛ: Указатель. М., 1983, № 15 — Собрание Севостьянова. | | |
| 5. | Партрэт Еўфразыны Тышкевіч. 1660 г. Мастак невядомы. Палатно, алей. 89х67 см. | Быў вывезены ў 1910 г. з Віленскага музея старажытнасцей у МПРМ, адкуль трапіў ў ДГМ. | Высоцкая Н.Ф. Жывапіс Беларусі XII–XVIII стст. Мн., 1980. С. 42. |
| 6. | Партрэты Янішэўскіх (паходзяць з Беларускай калекцыі Тышкевічаў). | З Віленскага музея старажытнасцей, пазней перадалі ў ДГМ. | Інфармацыя Ю.Піскуна. |
| 7. | Калекцыя мастацкай зброі генерала Касакоўскага | Паступіла з Віленскага музея старажытнасцей пасля 1865 г. | Вяртанне. Мн., 1992. С.177. |
| 8. | 1093 абразы і карціны. | —//— | Тамсама. |

**Паступленні з сінадальнага архіва**

Шмат экспанатаў атрымаў МПРМ і з Сінадальнага архіва. Пазней яны трапілі ў ДГМ.

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Невялічкая "шафа" (у дакуменце пазначана "шкафчик") — пераносны уніяцкі алтарык з разбяной паліхромнай выявай "Каранаванне Маці Божай" у цэнтры, а на дзверках — жывапісныя выявы апосталаў Пятра і Паўла XVIII ст. | Паступіў з Сінадальнага архіва. Пазначана: "Униатского дела XVIII в." Быў перададзены ў 1929 г. у ДГМ. | Аддзел уліку ДГМ. ГИМ 54722 № ИЗО-743 (нумары старога вопісу). |
| 2. | "Хрыстос у цямніцы". XVIII ст. | Паступіў з Сінадальнага архіва. Пазначана: "Западно-русской работы XVIII в." Быў перададзены ў 1929 г. у ДГМ. | Аддзел уліку ДГМ. ГИМ 54722 № ИЗО-741. |

## *Дзяржаўны гістарычны музей*

Быў заснаваны ў Маскве ў 1872 г., экспазіцыю адчынілі ў 1883 г. Ніжэй даецца пералік часткі беларускіх каштоўнасцей, якія трапілі ў музей на працягу 1872–1950 гг.

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Этнаграфічныя калекцыі з Беларусі, сабраныя Е.Р.Раманавым у XIX ст. | Перададзены Е.Раманавым. | ЭЛІМБел. Мн., 1985. Т. 2. С. 89. |
| 2. | Калекцыя слуцкіх, нясвіжскіх і гродзенскіх паясоў. | Частка з іх паступіла 2.8.1925 г. з Дзяржаўнага музейнага фонду. Афармлена дакументальна 15.2.1933 г. Акт № 20. | Тамсама. |
| 3. | Скарб сярэбраных рэчаў XI–XII стст. з Полацка. | Невядома, калі паступіў. | Тамсама. |
| 4. | Кальчуга са славянскімі надпісамі. Знойдзена ў Оршы пры перабудове ў 1857 г. манастыра, была замуравана ў сцяне. | Спачатку здалі яе ў Віленскі музей старажытнасцей, з яго — у Румянцаўскі Маскоўскі, а затым у ДГМ. | Каханоўскі Г.А., Каханоўскі А.Г. Руплівец нашай старасветчыны. Мн., 1992. С. 37. |
| 5. | Зброя з навагрудскай і ружанскай калекцый. | Былі канфіскаваны царскімі ўладамі. | Вяртанне. Мн., 1992. С. 64. |
| 6. | Шмат кладаў (скарбаў), знойдзеных на тэрыторыі Беларусі да 1917 г. і пасля ўтварэння СССР. | | Тамсама. |
| 7. | Археалагічныя калекцыі з Беларусі, сабраныя А.Кіркорам, Е.Раманавым, С.Чалоўскім, братамі К.і Я.Тышкевічамі, У.Завітневічам, Ю.Кухарэнкам і інш. | Перадалі самі даследчыкі. | ЭЛІМБел. Мн., 1985. Т. 2. С. 89. |
| 8. | Археалагічныя знаходкі з беларускіх курганоў Быхаўскага павета і Заслаўя, сабраныя М.Турбіным. | М.Турбін сам перадаў у ДГМ. | Каханоўскі Г. Прадвесне навукі. Мн., 1990. С. 61. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 9. | Археалагічныя знаходкі з Лепельшчыны, сабраныя М.Кусцінскім, які трымаў іх у хатнім музеі. | У 1872–1882 гг. перасылаў сам М.Кусцінскі ў толькі што створаны Маскоўскі публічны музей. | Тамсама, с. 54. |
| 10. | Археалагічныя карты Віленскай і Гродзенскай губерній, выкананыя Ф.Пакроўскім. | Падараваў ДГМ сам аўтар. | Тамсама, с. 84, 85. |
| 11. | Археалагічныя помнікі з курганоў басейна ракі Вілія, здабытыя Ф.Пакроўскім пры раскопках. | Перададзены Ф. Пакроўскім. | Тамсама. |
| 12. | Слуцкі летапіс (рукапіс І чвэрці XVI ст.). | Да 1917 года знаходзіўся ў бібліятэцы графа А.Уварава, таму часам яго называюць "Увараўскім летапісам". | ЭЛІМБел. Мн., 1987. Т. 5. С. 72. |
| 13. | Баркулабаўскі летапіс (рук. пач. XVII ст.). Напісаны ў в.Баркулабава Быхаўскага пав. | Шляхі паступлення не даследаваны. У Сінадальным фондзе № 790 (архіў). | ЭЛІМБел. Мн., 1984. Т. 1. С. 294; Вайтовіч Н. Баркулабаўскі летапіс. Мн., 1977. |
| 14. | Рукапісы Сімяона Полацкага. | Патрабуе даследавання. | ЭЛІМБел. Мн., 1985. Т. 2. С. 89. |
| 15. | Беларускія старадрукі, у тым ліку Ф.Скарыны (84 экз.), С.Буднага і інш. | Патрабуе даследавання. | Тамсама. |
| 16. | Рукапісныя крыніцы па гісторыі нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863–1864 гг., а таксама матэрыялы аб гэтых падзеях, якія паступілі з калекцыяй П.Бяссонава. | Перадаваліся па загаду ўрадавых устаноў царскай Расіі. | Вяртанне. Мн., 1992. С. 64. |
| 17. | Графічныя матэрыялы з калекцыі барысаўскага памеш- | І.Каладзееў перадаў у 1912 г. у Маскву | Інфармацыя Т.Рошчынай. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | чыка І.Каладзеева, прысвечанай вайне 1812 г. | сваю бібліятэку з мэтай стварэння там музея, прысвечанага падзеям 1812 г. Збор разышоўся па бібліятэках Масквы. У 20-я гады частку перадалі ў БССР. | |
| 18. | Партрэт Еўфразыны Тышкевіч (1660). Мастак невядомы. Палатно, алей. 89х67. Быў да рамонту музея ў яго экспазіцыі. | Вывезены ў 1910 г. з Віленскага музея старажытнасцей у Румянцаўскі музей Масквы. Потым перадалі ў ДГМ. | Высоцкая Н.Ф. Жывапіс Беларусі XII–XVIII стст. Мн., 1980. С. 42. |

**Паступленні 1905–1906 гг. з калекцыі П.Шчукіна**

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Слуцкі пояс 1760–1778 гг. Аднабаковы, двухколерны. 359х30,8 см. Меткі: słuck słuck. | Паступіў у ДГМ з калекцыі П.Шчукіна ў 1905-1906 гг. | Якуніна Л.І. Слуцкія паясы. Мн., 1960. С. 228. |
| 2. | Слуцкі пояс. Другая палавіна XVIII ст. Двухбаковы, чатырохколерны. 436х36 см. Меткі: укладзеныя гарызантальна літары FS. | Тое ж. | Тамсама. |
| 3. | Слуцкі пояс. 1778–1807 гг. Двухбаковы, чатырохколерны. 408х35 см. Меткі: СЛУЦК ЖАРСКІЙ ВЪ ГРДЪ ЛЕО МА. | Тое ж. | Якуніна Л.І. Слуцкія паясы. Мн., 1960. С. 228. Іл. XVIII. |
| 4. | Келіх 1760–1770 гг. Шкло, шліфоўка, гравіроўка. Вышыня 26 см. Выраб беларускіх мануфактур Радзівілаў. | Тое ж. № ГИМ 76755 / 2853 СТ. | Яніцкая М.М. Беларускае мастацкае шкло: (XVI–XVIII ст.). Мн., 1977. Фота 37. |
| 5. | Келіх. Каля 1770 г. Шкло, шліфоўка, гравіроўка. Налібоцкая мануфактура Радзівілаў. | Тое ж. № ГИМ 76752 / 12855 СТ. Перададзены ў 1966 г. у Дзяржаўны | Тамсама. Фота 38. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | гісторыка-этнаграфічны музей Літвы. | |
| 6. | Келіх. Каля 1770 г. Шкло, шліфоўка, гравіроўка. Урэцкая мануфактура Радзівілаў. | Тое ж. № ГИМ 76757 / 2860 СТ. Перададзены ў 1966 г. у Дзяржаўны гісторыка-этнаграфічны музей Літвы. | Тамсама. Фота 39. |
| 7. | Флет. Каля 1770 г. Шкло, шліфоўка, гравіроўка. Вышыня 30 см. Выраб беларускіх мануфактур Радзівілаў. | Тое ж. № ГИМ 2168-щ / 3189 СТ. | Тамсама. Фота 77. |
| 7. | Кілішак. Канец XVIII ст. Шкло, шліфоўка, гравіроўка. Выраб беларускіх мануфактур Радзівілаў. | Шлях паступлення невядомы. | Тамсама, Фота 86. |

**Паступленні 1919-1925 гг. з Гомельскай калекцыі Паскевічаў і Дзяржфонда СССР**

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | "...около ста пудов золота и серебра в монетах, драгоценностях, изделиях прикладного искусства, в фамильных сервизах, в неповторимых художественных произведениях..." | 31.03.1919 г. Камісія ДГМ заслухала справаздачу эмісара В.Пашуканіса аб перадачы Гістарычнаму музею Масквы каштоўнасцей з Гомельскага палаца князя В.Паскевіча. Частка каштоўнасцей Гомельскага палаца была накіравана ў Петраград. Некаторыя каштоўнасці былі расцягнуты ў Маскве і Петраградзе па ўстановах і прыватных кватэрах. Пры | Бакуменко М. По следам сокровищ Беларуси // Рэспубліка. 1993. 26 чэрв. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | гэтым эксперты адзначылі, што па гістарычных і мастацкіх вартасцях збор каштоўнасцей з Гомельскага палаца Паскевічаў “знаходзіцца ў шасцёрцы найбольш значных з эвакуіраваных у Маскву”. | |
| 2. | “Часть костюмов мужских и женских, кушаков слуцких, лоскутов ткани, всего 63 №№”. На палях ёсць памета: “57 128 гкани — 49 экз. (22 не хватает)”. | Паступілі ў ДГМ 2.08.1925 г. з Дзяржаўнага музейнага фонда, занесены ў калекцыйны вопіс ГИМ 57128. Акт 20 от 15.2.1933 г. (2–8 сентября 1925 г.). Так пазначана ў дакуменце. | Справаздача Ю. Піскуна аб рабоце ў аддзеле ўліку ДГМ. |

**Паступленні з былога Румянцаўскага музея па акту 1929 г.**

У аддзеле ўліку экспанатаў ДГМ пад № 54722 “Румянцевский музей” (ГИМ, дело 9 “Каталог древностей”, 250 листов, по перечню 113). У гэтай справе згадваюцца рэчы, перададзеныя ДГМ па акту ад 4.2.1929 г. (праз 6 гадоў пасля ліквідацыі Румянцаўскага музея). З гэтай калекцыі рабіліся выдачы ў Дзяржфонд (Акт № 167 ад 12.6.1931 г.) і ў Таргсін (Акт № 133 ад 28.9.1932 г.).

З Дзяржфонда папаўняліся абласныя музеі Расіі (беларускія экспанаты там яшчэ можна адшукаць), а Таргсін распрадаваў творы, і яны назаўсёды страчаны для гісторыі Беларусі. У выніку даследавання дакументацыі аддзела ўліку ДГМ устаноўлена, што румянцаўскія паступленні там пазначаны так: “ГИМ 54722 ИЗО–339. Коллекция предметов религиозного і бытового характера, подробно наименованых в особой описи, в которой 397 номеров: архитектурная графика — 697 предметов, оружие, рукописи”. Усяго — 852 экспанаты, большасць з якіх захоўвалася ў ДГМ , мяркуючы па запісах на палях лістоў уліку. За кароткі час работы ў аддзеле ўліку ДГМ удалося высветліць, што сюды паступілі ўказаныя ніжэй фатаграфіі беларускіх храмаў і беларускія абразы, якія згадваюцца ў старым вопісе №10 Румянцаўскага музея.

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| **Фота па Супрасльскаму манастыру №№ 204–214** | | | |
| 1. | Выгляд манастыра. | З Румянцаўскага музея. | Вопіс №10 Румянцаўскага музея, знаходзіцца ў аддзеле ўліку ДГМ. |
| 2. | Выгляд манастыра. | Тое ж. | Вопіс № 10 Румянцаўскага музея. |
| 3. | Выгляд будынкаў. | Тое ж. | Тамсама. |
| 4. | Выгляд царквы Дабравешчання. | Тое ж. | Тамсама. |
| 5. | Тое ж. | Тое ж. | Тамсама. |
| 6. | Выгляд іканастаса царквы Дабравешчання. | У вопісе ёсць памылковы запіс: "Иконостас резной итальянской работы в стиле Возрождения с иконами итальянской живописи". | Тамсама. |
| 7. | Выгляд інтэр'ера | | Тамсама. |
| 8. | Тое ж. | | Тамсама. |
| 9. | Тое ж. | | Тамсама. |
| 10. | Выгляд акна ў нішы. | | Тамсама. |
| 11. | Выява Іосіфа Солтана з кцітарскага партрэта, змешчанага ў Супрасльскім манастыры. Фота № 699. | Усе 11 фатаграфій былі набыты Румянцаўскім музеем у 1870 г. праз Акадэмію мастацтваў. | Тамсама. |
| 12. | Выява Аляксандра Хадкевіча з кцітарскага жывапіснага партрэта, змешчанага ў Супрасльскім манастыры. Фота № 700. | Тое ж. | Тамсама. |
| **Абразы** | | | |
| 1. | "Мікола" (па баках на аблоках — "Спас" і "Маці Божая"). XVIII ст. 28x42 см. | № 365. Пазначана: "западнорусского письма XVIII в.; по полям обложен медью 4x6 вершков". | Тамсама. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 2. | “Змякчэнне злых сэрцаў”. 23x21 см. | № 372. Запіс: “Небольшая икона западно-русского письма. Письмо хорошее, натуральное”. І паметка алоўкам “В” (“Выбыла? Куды?”). | Вопіс № 10 пры передачы Румянцаўскага музея Масквы. |
| 3. | “Укрыжаванне з прадстаячымі і пад ззяннем” XVIII ст. На адвароце — “Богамаці”, па баках — дзве паясныя выявы святых. | № 748. Паметка захавальніка: “ДV-13” і “униатской работы XVIII в.”. | Тамсама. |
| 4. | Невялікая “шафа”(“шкафчик”). Гэта — пераносны уніяцкі алтарык з разьбяной паліхромнай выявай “Каранаванне Маці Божай” у цэнтры “шафы”, а на расчыненых дзверцах — жывапісныя выявы апосталаў Пятра і Паўла. XVIII ст. | № 743. Паступіла ў Румянцаўскі музей з Сінадальнага архіва. | Тамсама. |
| 5. | “Хрыстос у цямніцы”. XVIII ст. | № 741. Паметка ў тэксце: “западнорусской работы XVIII в. Поступил из Синодального архива”. | Тамсама. |
| 6. | “Георгій”. Дата не ўказана. | № 517. Паметка: “может быть южнорусской работы”. | Тамсама. |
| 7. | “Нараджэнне Хрыстова”. 154x106 см. | № 499. Паметка: “Рождество в белорусской редакции. Вверху Господь. 22 1/4 x 18 вершков”. | Тамсама. |

Акрамя таго ў гэтым вопісе могуць быць беларускага паходжання экспанаты, запісаныя пад нумарамі 256, 481, 482, 734(Дv 876), 735(54722 ф), 736(Дv 316), 541, 548(58610 фонд), 658, 659(И VIII/3144). Зрабіць візуаль-

нае даследаванне ўказаных твораў, каб больш дакладна вызначыць месца іх узнікнення, немагчыма: у музеі ўжо больш дзесяці год ідзе капітальны рамонт.

**Паступленні 1939–1940 гг. з Мінска, Магілёва, Пінска, Нясвіжа.**

Мяркуючы па дакументах аддзела ўліку ДГМ, у час экспедыцыі музея па БССР у 1939 і 1940 гг. фактычна адбывалася выбіранне самых каштоўных экспанатаў з музеяў Мінска і Магілёва, а таксама з маёнткаў, цэркваў і касцёлаў далучанай да БССР Заходняй Беларусі.

Так, з вопісу ДГМ № 80400 вынікае, што супрацоўнікі забралі у Мінскім гістарычным музеі 27 экспанатаў, якія паступілі ў Маскву ў верасні 1939 г. ("Акт от 23 сентября 1939 г. о передаче из Минского исторического музея 27 предметов живописи, графики и др."). Назвы экспанатаў прыведзены на мове арыгінала.

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | "Рама с резьбой ... века". | "Из Минского Государственного исторического музея". | Акт ДГМ ад 23.9.1939 г. Вопіс № 80400. |
| 2. | "Царские врата". | Тое ж. | Тамсама. |
| 3. | "Гравюры". | Тое ж. | Тамсама. |
| 4. | "Живописные портреты и др. произведения живописи..." Больш дакладны пералік пакуль не выяўлены. Частку з гэтых экспанатаў ДГМ вярнуў Дзяржмузею БССР у 1989 г. (11 партрэтаў і 3 абразы). Яшчэ раней, у 1979 г. перадалі на часовае захаванне чатыры абразы Музею старажытнабеларускай культуры ІМЭФ Акадэміі навук Беларусі. | Тое ж. | Тамсама. (Увогуле не вернута пакуль па гэтаму акту 9 экспанатаў. — *М.Яніцкая*). |

**Да 1994 г. яшчэ не вернуты Беларусі наступныя творы, узятыя з Белдзяржмузея г.Мінска на часовае захаванне у 1939 г.:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | "Рама с резьбой". | Нумар не ўдалося ўстанавіць. | Калекцыйны вопіс № 80400. |
| 2. | "Гравюры". | Тое ж. | Тамсама. |
| 3. | Абраз "Нараджэнне Хрыстова" XVII ст. Пісьмо слуцкай жы- | Паступіў на часовае захаванне у 1939 г. | Акт ДГМ ад 23.9.1939 г. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | вапіснай школы. Да рамонту музея быў у экспазіцыі ДГМ. Да 1917 г. знаходзіўся ў Целядаўскай царкве на Случчыне. Памер 138х97х8 см. | з Белдзяржмузея як вынік экспедыцыі з Масквы ў Мінскія музеі. Інв. № $\frac{80400}{И\ VIII\ 3356}$. | Калекцыйны вопіс № 80400. |
| 4. | Абраз "Тройца старазапаветная". XVIII ст. | Тое ж. № $\frac{80400}{И\ VIII\ 5223}$. | Тамсама. |
| 5. | Абраз "Хрыстос у аблоках". Напісаны на блясе алеем. | Тое ж. | Тамсама. |
| 6. | Царская брама, паступіла па іншаму вопісу. | № $\frac{80400}{И\ VIII\ 4085}$ яе № 60 715. | Справаздача Ю.Піскуна. |
| **Акрамя таго, у ДГМ захоўваюцца наступныя творы з Беларусі, якія паступілі ад розных рэлігійных устаноў і калекцыянераў:** | | | |
| 7. | Абраз "Вялікапакутніца Варвара". XVIII ст.(?) Дрэва, палатно; па ляўкаснаму фону разьбяны нізкарэльефны арнамент у выглядзе сланечніка. | Паступіў у ДГМ з Цэнтральнага антырэлігійнага музея. Інв. № ГИМ И VIII 5006. | Справаздача Ю.Піскуна аб рабоце ў аддзеле ўліку ДГМ. |

У выніку экспедыцыі ДГМ на Беларусі у 1940 г. вывезены ў Маскву экспанаты з **Магілёўскага музея**, якія часткова зафіксаваны ў калекцыйным вопісе ДГМ (ГИМ 80753). Пакуль удалося даследаваць толькі фрагменты гэтага вопісу (прыводзяцца на мове арыгінала).

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Потир медный посеребряный небольшого размера. На ножке несложный орнамент и надпись. XVIII в. Из Могилёвского музея. | Паступіў з Магілёўскага музея ў ДГМ у 1940 г. Калекцыйны вопіс № 80753, п / №2 у вопісе. | Справаздача Ю.Піскуна. |
| 2. | Кусок крашанины синей с рисунком в виде больших и малых квадратиков. А–36240 (из Могилёвского музея). | Тое ж. П / № 3 у вопісе. | Тамсама. |
| 3. | Набожник С — 344. | П / № 5 у вопісе. | Тамсама. |
| 4. | Набожник С — 345 | П / № 6 у вопісе. | Тамсама. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 5. | Антиминс холщёвый с отпечатками гравюры Василия Вощанки. XVIII в. P5 – 4003, из Могилёвского музея. | П / № 7 у вопісе. | Тамсама. |
| 6. | Полотенце польской работы, С 946. | П / № 13 у вопісе. | Тамсама. |
| 7. | Рисунок цветным карандашом "Украинка", из Белой церкви. И III 40265. | П / № 36 у вопісе. | Тамсама. |
| 8. | Рисунок карандашом (три) Врублевского, (дар художника), г. Несвиж. | П / №37 у вопісе. | Тамсама. |
| 9. | Крэсла з косці рагоў аленя. | Вывезена з Нясвіжскага замка ў 1940 г. экспедыцыяй ДГМ. | "Известия". 1940. 2 нояб. |
| 10. | Мэбля з маёнтка Завішы (каля Пінска). | Тое ж. | "Известия". 1940. 7 сент. |
| 11. | Два арыгінальныя разныя крэслы з епіскапскага палаца (Пінск). | Тое ж. | Тамсама. |

## *Філіял Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Нова-Дзявочым манастыры (Масква)*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Кнігі ў пазалочаных абкладах, аблачэнні з каштоўных тканін, культавыя сярэбраныя рэчы (паціры, кубкі, і інш.). | Вывезлі беларускія манахіні з Куцеінскага Успенскага манастыра ў час перасялення ў Маскву ў XVII ст. | З выставы, якая адбылася ў музеі ў 1993 г. |

## *Міграцыя беларускіх каштоўнасцей па розных музеях і ўстановах Масквы*

### *У музеях Маскоўскага крамля*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Слуцкі пояс. 1778-1807 гг. Двухбаковы, чатырохколерны. 384x36 см. Махры залотныя 10x36 см. Меткі: ВЪ ГРДЪ ЛЕО МАЖ СЛУЦК АРСКИИ. | Паступіў з дзяржаўнага музейнага фонду ў 1926 г. Атрыбуцыя І.Вішнеўскай. | Высоцкая Н.Ф. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII–XVIII стст. Мн., 1984. № 150. |
| 2. | Слуцкі пояс. Канец XVIII ст. Аднабаковы, двухколерны. 328x39 см. Махры залотныя 6x39 см. Меткі: SLUCKE VO GRADE. | Тое ж. | Тамсама. № 162. |

### *У Маскоўскім музеі народнага мастацтва*
(раней — Музей саматужныхпромыслаў, потым — Навукова-даследчы Інстытут мастацкай прамысловасці)

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Узоры беларускай народнай вышыўкі і ткацтва, а таксама шмат фота з экспанатаў, якія былі ў Беларусі ў 30-я гады XX ст. | Паступілі ў 30-я гады, як экспанаты, прывезеныя з экспедыцый. | Изобразительные мотивы в русской народной вышивке: Музей народного искусства. М., 1990. С. 186. |

### *Цэнтральны антырэлігійны музей (ЦАМ)*

Сюды ў розныя часы паступалі беларускія каштоўнасці, якія пазней перадаваліся іншым установам.

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Абраз “Вялікапакутніца Варвара”. XVIII ст. Дошка, | Як паступіў у ЦАМ, не высветлена. | Справаздача Ю.Піскуна аб |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | ляўкас. Па ляўкаснаму фону нанесены нізкарэльефны арнамент у выглядзе сланечніка. Тэхніка, характэрная для беларускіх абразоў XVI–XVIII стст. | Перададзены у ДГМ (№ И VIII 5506). | рабоце ў аддзеле ўліку ДГМ. |
| 2. | "Багамаці Смаленская". У ДГМ згадваецца ў картках уліку як "Чанстахоўская", № И VIII 5005. Гэта значыць, што абраз паступіў разам з вышэйзгаданым. Быў запісаны ў кнігу часовых паступленняў. | Тое ж. Меў № ЦАМ КИ-22710. Быў перададзены ў ДГМ. Цяпер — на часовым захаванні ў МСБК ІМЭФ АНБ. | Тамсама. |
| 3. | 30 тысяч тамоў старадрукаў і рукапісаў. | Паступілі ў 1940 г. з бібліятэкі Пінскай каталіцкай семінарыі (вывезены ў двух вагонах). Куды паступілі кнігі і рукапісы пазней, пакуль невядома. | Известия. 1940. 7 сент. |

## *Дзяржаўная Траццякоўская галерэя*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Фотаздымкі беларускай культавай архітэктуры, у тым ліку іканастасаў, асобных абразоў, сфатаграфаваных А.Някрасавым у 1930-х гг. у час экспедыцый у Полацк, Віцебск і інш. гарады Беларусі. | У 1930-1940 гады іх перадаў аўтар, А.Някрасаў. Значная частка з іх была перададзена Музею архітэктуры імя Шчусева. | Справаздача Ю.Піскуна аб паездцы ў Маскву ў маі 1994 г. |

## *Музей архітэктуры імя Шчусева*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Фотаздымкі беларускай культавай архітэктуры, зробленыя | Паступілі з Дзяржаўнай | Справаздача Ю.Піскуна 1994 г. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | А.Някрасавым на тэрыторыі БССР у 1930–1940-я гады. | Траццякоўскай галерэі пасля пера-размеркавання фота-матэрыялаў А.Някрасава. | |
| 2. | Вялікая калекцыя беларускіх паштовак дасавецкага часу з выявамі гарадоў Беларусі. | Шляхі іх паступлення не даследаваны. | Вяртанне. Мн.,1992. С. 22. |
| 3. | Фотаздымкі іканастасаў Усходняй Беларусі, зробленыя В.Воранавым. | Тое ж. | Інфармацыя Ю.Піскуна. |
| 4. | Матэрыялы пра слуцкія каштоўнасці. | Знаходзяцца ў двух фондах музея. | Тамсама. |

### *Дзяржаўны музейны фонд СССР*

У гэтай установе назапашваліся каштоўнасці розных рэспублік, якія пазней пераразмеркаваліся па музеях Расіі, а часам і па музеях асобных рэспублік.

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Слуцкі пояс. 1778-1807 гг. Двухбаковы, чатырохколерны 334х36 см. Махры залотныя. Меткі: ВЪ ГРДЪ ЛЕО МАЖ СЛУЦКЪ АРСКІЙ. | Як паступіў — невядома. У 1926 г. пояс перадалі ў музеі Маскоўскага Крамля. | Высоцкая Н.Ф. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII–XVIII стст. Мн., 1984. № 150. |
| 2. | Слуцкі пояс. 1778–1807 гг. Двухбаковы, двухколерны 328х39 см. Махры залотныя 6х39 см. Меткі: SLUCKE VO GRADE. | Тое ж. № 162. | Тамсама. |
| 3. | “Часть костюмов мужских и женских, кушаков слуцких, лоскутов ткани, всего 63 №№”. На палях вопісу ёсць паметка: “57128 ткани — 49 экз. (22 не хватает)”. | Як паступілі, не даследавана. Прадметы перадалі ў ДГМ 2–8 верасня 1925 г. Але акт быў завершаны 15.2.1933 г. | Справаздача Ю.Піскуна аб рабоце ў аддзеле ўліку. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | ДГМ. (№ 20). Вопіс ГИМ 57128. | |

*Дашкаўскі музей (Масква)*

Асобна не існаваў; адразу ж быў вылучаны ў самастойны аддзел пад назвай "Дашкаўскі музей" у складзе Маскоўскага публічнага Румянцаўскага музея. Быў створаны на базе экспанатаў Усерасійскай этнаграфічнай выстаўкі 1867 г. у Маскве, куды трапілі і беларускія этнаграфічныя помнікі. Усе экспанаты выстаўкі перадалі ў гэты ж год Маскоўскаму публічнаму Румянцаўскаму музею. У 1924 г. у Маскве быў заснаваны Цэнтральны музей народазнаўства на базе калекцый этнаграфічных помнікаў Маскоўскага Румянцаўскага музея (у тым ліку аддзела "Дашкаўскі музей"), значную большасць якіх складалі помнікі беларускай этнаграфіі (пазней — Музей народаў СССР). У 1948 г. яго фонды, у тым ліку і беларускія этнаграфічныя экспанаты, перадалі ў Музей этнаграфіі народаў СССР (Ленінград).

***Крыніцы:*** *Этнаграфія Беларусі. Мн., 1989. С. 545; История государственной ордена В.И.Ленина библиотеки СССР им. В.И.Ленина. М., 1953. Т. 1. История библиотеки Московского публичного Румянцевского музея. 1862–1917. С. 38.*

*Маскоўскі універсітэт імя М.В.Ламаносава*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Збор мінералаў — 13 7000 адз. 1 гербарый ў 28 папках з Румянцаўскай калекцыі. | У 1866 г. перадалі мінералагічны і заалагічны кабінеты з Маскоўскага публічнага Румянцаўскага музея. Кабінеты былі ўтвораны з калекцыі Румянцава і Віленскага музея старажытнасцей. | История государственной ордена В.И.Ленина библиотеки СССР им. В.И.Ленина. М., 1953. Т. 1; История библиотеки Московского публичного Румянцевского музея. 1862–1917. М.М.Клевенский. С. 43. |
| 2. | Чучал птушак — 11 014, гербарый (відаў) — 605, энтамалагічных помнікаў — 408 з Віленскага музея старажытнасцей. | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Скульптурная кампазіцыя Сасноўскага з выявай Ядзвігі і Ягайлы. | Перадалі па загаду Камісіі, створанай Мураўёвым пры перадачы экспанатаў Віленскага музея старажытнасцей у Маскоўскі публічны Румянцаўскі музей. Тады ж перадалі яшчэ частку экспанатаў Віленскага музея старажытнасцей. Спіс іх удакладняецца. | Иконников В.С. О польском отделении вещей. памятников и портретов, перевезенных в Румянцевский музей в 39 тюках и опись их // Вестник Зап. России. 1868. № 2; Kurjer Litewski. 1909. № 14. |

## Расійскі дзяржаўны музей выяўленчых мастацтваў імя А.С.Пушкіна (далей РДМВМ). Заснаваны ў 1912 г.

Ніжэй падаецца няпоўны спіс беларускіх або звязаных з Беларуссю каштоўнасцей, якія знаходзяцца ў гэтым музеі.

У выніку даследавання вопісаў паступлення ў Маскоўскі Румянцаўскі музей экспанатаў з Віленскага музея старажытнасцей па акту ад 1.7.1868 г высветлілася, што ўсе "изъятые" па загаду Мураўёва графічныя матэрыялы былі пазней перададзены з МПРМ у РДМВМ. Перадалі больш 1000 гравюр розных часоў і тыражных літаграфій першай паловы XIX ст., якія захоўваюцца ў асобным фондзе пад назвай "Польская школа". Частку гэтага фонду перадалі на пастаяннае захоўванне па акту ад 21.4.1966 г. у Вільнюс па хадайніцтву Міністэрства культуры ЛітССР.

Ніжэй указваецца толькі частка з графічных матэрыялаў, што яшчэ засталіся ў названым фондзе і маюць цікавасць для Беларусі як іканаграфічны матэрыял па яе гісторыі.

| № п/п | Назва кампазіцыі | Шыфры фонда | Месца знаходжання ў музеі | Кароткія тлумачэнні даследчыка Ю.Піскуна |
|---|---|---|---|---|
| **1** | **2** | **3** | **4** | **5** |
| 1. | Партрэты польскіх каралёў (літаграфіі). | 77783–85 | Шафа 64, верх папка № 14. | Тры аднолькавыя экземпляры літаграфій з альбома Album de Vilno. Paris. |
| 2. | Партрэт Станіслава Ляшчынскага. | 77516 | Тамсама. | Тое ж. |
| 3. | П-ты: Дамброўскага, | 32342 | Тамсама. | Тое ж. |
| 4. | Касцюшкі, | 32342 | Ліст № 4. | Тое ж. |
| 5. | Панятоўскага, | 32342 | Стары № 15. | Тое ж. |
| 6. | Марціна Дуніна. | 32343 | Тамсама. | Тое ж. |
| | **Партрэты (літаграфіі і эстампы вялікага фармату) вядомых дзеячаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, у тым ліку:** | | Шафа 64, верх, папка № 15. | Усяго 47 лістоў. |
| 7. | П-т Валенція Ваньковіча. | 32283 | Тамсама. | Літаграфія з Album de Vilno. Paris. |
| 8. | —//— Яўстахія Тышкевіча. | 68481 | Тамсама. | |
| 9. | —//— Андрэя Снядэцкага. | 68459 | Тамсама. | Ст. інв. № 72. |
| 10. | —//— Дамініка Радзівіла. | 67857 | Тамсама. | Літаграфія. |
| 11. | —//— Адама Міцкевіча. | 77160 | Тамсама. | Тое ж. |
| 12. | —//— Тадэвуша Касцюшкі. | 102425 | Тамсама. | Літаграфія ў авале з малюнка, зробленага ў Швейцарыі ў 1813 г. |
| 13. | План панарамы Вільні | 105736 | Шафа 9, верх, папка № 29. | |
| 14. | П-т Юзафа Панятоўскага. 30 ліпеня 1813 г. | 77787 | Тамсама. | Малюнак. Унізе пячатка і подпіс “Дозволено цензурою для музеума исклю- |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | | | чительно". Вильно. 1863 г. |
| 15. | П-т Барбары Радзівіл. | 77513 | Тамсама. | Літаграфія з арыгінала, які захоўваўся ў Нясвіжы. Album de Vilno. Paris. |
| 16. | Жанравая кампазіцыя без назвы. З этнаграфічнай дакладнасцю пададзена беларуская ідылічная сцэнка: сяляне слухаюць казку, якую апавядае бабуля. | 88049 | Тамсама. | Арыгінальны медзярыт сярэдзіны XIX ст. |
| 17. | Альбом рэпрадукцый дрэварытаў з кракаўскіх выданняў XVI–XVIII стст. | 3336? | Тамсама. | На апошнім лісце пячатка "П.Д. Эттингер". |
| 18. | Выява абраза "Св.Варвара Вялікапакутніца". XVIII ст. | 32249 | Тамсама. | Арыгінальны медзярыт. У подпісе згадваецца фундатар царквы Цімафей Шчарбацкі. |
| 19. | Выява абраза "Маці Божая Ружанцовая". | 31813 | Тамсама. | Народны дрэварыт |
| 20. | Выява абраза "Маці Божая Вострабрамская". | 31811 | Тамсама. | Народны дрэварыт. |
| 21. | Надмагілле Льва Сапегі | 31892 | Тамсама. | Хромалітаграфія. |
| 22. | Партрэт Міхала Казіміра Радзівіла | 100398 | Тамсама. | Гравюра Г.Ляйбовіча з Нясвіжа. |
| 23. | Відарысы гарадоў Рэчы Паспалітай (у тым ліку і Беларусі). | Папка №13. | Шафа 9, верх. | Літаграфіі. |
| 24. | Надмагільны помнік Радзвілаў у касцёле бернардынцаў у Вільні. | Тамсама. | Тамсама. | Тое ж. |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 25. | Відарысы Вільні і іншых гарадоў Рэчы Паспалітай. | Папка № 3. | Шафа 9, верх | Літаграфіі і афорты. |
| | **Літаграфіі, дрэварыты і медзярыты рэлігійнага зместу** | | | |
| 26. | Выява абраза "Маці Божая Жыровіцкая". | 31816 | Шафа 9, верх, папка №2. | Народны дрэварыт. |
| 27. | П-т Іпація Пацея. | 77220 | Шафа 9, верх. | Адбітак з кнігі XVIII ст. |
| 28. | —//— Ежы Радзівіла. | 68424 | Тамсама. | Літаграфія. |
| 29. | —//— Крыштафора Радзівіла. | 68422 | Тамсама. | Літаграфія. |
| 30. | —//— Януша Радзівіла. | 68431 | Тамсама. | Тое ж. |
| 31. | —//— Мікалая Крыштафора. | 68423 | Тамсама. | Тое ж. |
| 32. | —//— Магдаліны Ясінскай. | 31742 | Шафа 64, верх, папка № 4. | Літаграфія. У гэтай папцы шмат інш. партрэтаў і відарысаў. |
| 33. | Альбом гравюр роду Радзівілаў "Icones Familiae Ducalis Radivilianae ... Denno Veteribus tabulis aeneis expressae cura I. Iversenii... A.MDCCCLXXV". | | | |

*Беларускія царкоўныя каштоўнасці, эвакуіраваныя ў маскоўскія манастыры ў час Першай сусветнай вайны*
(іх цяперашняе месцазнаходжанне трэба высветліць).

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Царкоўныя каштоўнасці | У 1915 г. з Гродзенскай епархіі эвакуі- | Справаздача архіепіскапа |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
| --- | --- | --- | --- |
| | | равалі царкоўныя каштоўнасці ў маскоўскія манастыры | Гродзенскага і Брэсцкага // Рас. дзярж. гістарычны архіў. С.-Пецярбург., ф. 796, воп. 442, адз. зах. 2696, л. 24 адв. |
| 2. | Цудатворны абраз (не названы) з Супрасльскага Благавешчанскага манастыра. | У 1915 г. эвакуіраваны на часовае захаванне ў храм "Нескучного дворца" г. Масквы. | Тамсама. |
| 3. | Старажытны Краснастоцкі цудатворны абраз Божай Маці і абраз Уладзімірскай Божай Маці, царкоўны посуд і тканіны з рызніцы. | У 1915 г. эвакуіраваны ў Маскву разам з манашкамі Краснастоцкага Багародзіцкага другакласнага манастыра Гродзенскай епархіі. Пазней перададзены ў дамавую царкву палаца ў "Нескучном саду" разам з царкоўным посудам і тканінамі з рызніцы, а частку царкоўных каштоўнасцей размясцілі ў кладоўках палаца. | Тамсама, адз.зах. 2633, лл. 21 адв.–22. Тамсама, адз.зах. 2695, л. 24 адв. Тамсама, воп. 445, адз.зах. 564, арк. 15. У 1918 г. каштоўнасці з Краснага Стоку перамясцілі ў "Екатерининскую пустыню" Маскоўскай епархіі. |

## *Беларускія каштоўнасці з прыватных збораў, эвакуіраваныя ў Маскву ў час Першай сусветнай вайны*
(іх месцазнаходжанне пакуль не выяўлена)

У 1915-1916 гг. вывезены ў Маскву:

1. Прыватны збор князёў Цеханавецкіх з Бачэйкава (2 вагоны).
2. —//— Храптовічаў-Буцянёвых з Беніцы.
3. —//— Гутэн-Чапскіх са Станькава.

4. Прыватны збор А.Браніцкага з Росі.
5. —//— І.Славінскага з Раваніч.

## Беларускія выданні і рукапісы ў бібліятэках Масквы

### Расійская дзяржаўная бібліятэка

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| **У аддзеле рукапісаў:** | | | |
| 1. | Збор звязаных з Беларуссю рукапісаў і старадрукаў графа М.Румянцава (пач. XIX ст.).<br>а) рукапісаў 810 адзінак;<br>б) старадрукаў 772 адзінкі;<br>в) кнігі ўліку паступленняў у Румянцаўскі музей. | М.Румянцаў сабраў у Гомельскім палацы архіў, бібліятэку і калекцыю твораў мастацтва. У 1826 г. яго збор перавезлі ў С.-Пецярбург, у 1828 г. стварылі там Румянцаўскі музей, які адчынілі ў 1831 г.<br>У 1861 г. музей перавезлі ў Маскву — у дом Пашкова (цяпер у ім Дзяржбібліятэка). | Архіў РДМВМ імя Пушкіна, ф. 11, воп.1, адз. зах. 3;<br>Ксеракопіі справаздач Румянцаўскага музея Масквы за 1860–1890 гг. |
| 2. | Асабісты архіў І.Грыгаровіча, беларускага вучонага, які працаваў у Гомелі ў М.Румянцава — збіраў на Магілёўшчыне і Мсціслаўшчыне археаграфічныя матэрыялы, выдаў на сродкі М.Румянцава ў 1824 г. у Маскве невялікую частку сабраных ім беларускіх старажытных актаў XV–XVIII стст. (усяго 57 дакументаў).<br>У архіве Грыгаровіча зафіксаваны 25 адзінак захавання. | Паступіў у Маскву разам з архівам і музеем Румянцава з С.-Пецярбурга. | Вяртанне-2. Мн., 1994. |
| 3. | Фонд Дз.Струкава — замалёўкі беларускіх старажытнасцей, зробленыя мастаком | Перададзены мастаком. | |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | у час экспедыцыі па Беларусі ў 60-я гг. XIX ст. Неабходна факсімільнае выданне гэтай каштоўнай крыніцы па гісторыі мастацтва Беларусі. | | |
| 4. | Рукапісы XV–XVI стст. "Толкование на Златоуст" на беларускай мове. | Шляхі паступлення не высветлены. | ЭЛіМБел. Т. 1. С. 444. |
| 5. | Рукапісы "Павучанне Кірылы Тураўскага" (у рэдакцыях 1523, 1555 гг.). | Тое ж. | Тамсама. |
| 6. | Рукапіс "Румянцаўскі летапіс". XVII ст. | Тое ж. | Тамсама. |
| 7. | Аўтабіяграфія (1938) Я.Купалы і яго анкета (1941). | Тое ж. | Тамсама. |
| **У аддзеле рэдкіх кніг:** | | | |
| 1. | Калекцыя магілёўскіх календароў XVIII ст. | Шляхі паступлення не даследаваны. | Вяртанне. Мн., 1992. С. 65. |
| 2. | Дублікаты беларускіх перыядычных выданняў 20-50 гг. (захоўваюцца ў філіяле бібліятэкі ў Хімках). | Тое ж. | Тамсама, с. 22. |
| 3. | 82 экземпляры (у тым ліку дублетныя) выданняў Ф.Скарыны, а таксама буйнейшы ў свеце збор кніг беларускіх друкарняў XVI–XVIII стст. | Тое ж. | ЭЛІМБел. Т. 1. С. 444. |
| 4. | 11 інкунабулаў з Нясвіжскай бібліятэкі Радзівілаў. | Былі канфіскаваны ў 1772 г. з Нясвіжскай бібліятэкі. У Маскву перададзены ў 1842 г. з С.-Пецярбурга. | Каталог инкунабулов. М.; Л., 1963: Указатели и каталоги инкунабулов. М., 1979. |

*Бібліятэка Маскоўскага універсітэта*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Беларускія, польскія і лацінскія хронікі з Нясвіжскай | У 1772 г. іх перадалі імператарскай | Реусс. Каталог книг Московской |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | бібліятэкі Радзівілаў. | Акадэміі навук у С.-Пецярбургу. У 1842 г. нясвіжскую бібліятэку пераразмеркавалі і частку яе перадалі бібліятэцы Маскоўскага універсітэта. | университетской библиотеки. М., 1831–1846. Т. 1–3. |
| 2. | Частка кніг і рукапісаў з музея і бібліятэкі Полацкай калегіі езуітаў. | Трапіла ў XIX ст. | Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI–XIX стст. Мн., 1984. С. 79. |
| 3. | Універсітэцкае евангелле. Рукапісны помнік першай трэці XIII ст. Мяркуюць, што паходзіць з Полацка-Смаленскіх краёў. | Як сюды паступіла, пакуль не высветлена. | ЭЛІМБел. Мн., 1987. Т. 5. С. 364. |
| 4. | Рукапісныя і друкаваны кнігі XVI–XVII стст., якія знаходзіліся ў БССР да 1980-х гг. Іх збіраў па вёсках і храмах дырэктар Веткаўскага музея Ф.Шкляраў. | Закуплены ў пачатку 80-х гг. XX ст. у дырэктара Веткаўскага музея (Гомельская вобл.). | Інфармацыя ад супрацоўнікаў музея. |

## Беларускія зборы ў архіўных сховішчах Масквы

### Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Летапісны зборнік першай паловы XVI ст., які да XVIII ст.належаў бібліятэцы Супрасльскага манастыра. З'яўляецца другой часткай Суп- | Як апынуўся ў Маскве, пакуль не высветлена. | Бобровский П.О. Судьба Супрасльской рукописи, открытой... М.К.Бобровским. |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | расльскага рукапісу і мае яшчэ назву "Валынскі кароткі летапіс". У ім успяваецца перамога войск ВКЛ на чале з К.Астрожскім над маскоўскімі войскамі пад Оршай у 1514 г. | | СПб, 1887. |
| 2. | Літоўская метрыка — збор дзяржаўных актаў ВКЛ, напісаных на старажытнай беларускай мове. | Была забрана з Нясвіжскага замка ў 1772 г. У Маскву перададзена ў 1842 г. з С.-Пецярбурга. | Вяртанне. Мн., 1992. С. 22. |
| 3. | Дакументы пра крычаўскія ўладанні графа Р.Пацёмкіна, у т.л. інфармацыя аб мастаках, скульптарах, архітэктарах і музыкантах, якія працавалі ў Крычаўскім графстве. | Фонд 17. | З выпісаў М.Яніцкай у час працы ў гэтым архіве. |
| 4. | Аўтограф Адама Міцкевіча. | Фонд 17. | Тамсама. |
| 5. | Акты ВКЛ XVI-XVIII стст. з Віленскага архіва Радзівілаў | Фонд 17, у справе М.Румянцава. | Тамсама. |
| 6. | Перапіска гомельскага мастака В.Сазонава (1823–1825 гг.) з М. Румянцавым. | Фонд 17, у справе М.Румянцава. | Тамсама. |
| 7. | Дакументы аб канфіскацыі ў Расійскую казну ў 1662 г. маёмасці князя Ф.Мсціслаўскага. | Фонд 220. | Тамсама. |
| 8. | "Опись трофеев Северной войны 1709 г." Ёсць звесткі аб трафеях, узятых на тэрыторыях Беларусі. | Фонд 396. | Тамсама. |

### *Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны музей*

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 1. | Атлас Магілёўскай губерні (рукапісны). У ім 30 карт 1777 г. | Шляхі паступлення не даследаваны. | Фонд ВУА, спр. 18850. |
| 2. | Атлас Полацкай губерні. | Тое ж. | Фонд ВУА, спр. 20707. |
| 3. | Карта мяжы Смаленскай губерні з польскімі ўладаннямі. XVIII ст. Рукапісная. М: 5 вёрст. | Тое ж. | Фонд ВУА, спр. 25641. |
| 4. | Памежная карта Пскоўскай губерні з ВКЛ. XVIII ст. Рукапісная. Маштаб: 6 вёрст. | Тое ж. | Фонд ВУА, спр. 25644. |
| 5. | Памежная карта Пскоўскай губерні з ВКЛ. Рукапісная. Маштаб: 1 вярста. | Тое ж. | Фонд ВУА, спр. 25768. |

### *Расійскі дзяржфільмафонд*

10 дакументальных кінастужак, якія адлюстроўваюць гістарычна-культурнае жыццё Беларусі:

— аб Брэсцкім міры,

— аб гарадскіх святкаваннях 1923 г. у Віцебску і інш.

Частка дублікатаў дакументальных фільмаў, прысвечаных пераважна падзеям 30–60-х гадоў, была выкуплена Беларуссю ў 1994.

# САНКТ-ПЕЦЯРБУРГСКІЯ АРХІЎНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ ПРА АРХЕАЛАГІЧНЫЯ (НУМІЗМАТЫЧНЫЯ) ЗНАХОДКІ І ЦЭРКВЫ БЕЛАРУСІ

У 1994 г. у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" выйшаў даведнік "Дакументы па архітэктуры і картаграфіі Беларусі ў архівах Санкт-Пецярбурга і Вільні". Тады ж быў задуманы і яго працяг — пра звязаныя з Беларуссю архіўныя матэрыялы, якія захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі і матэрыяльнай культуры Расійскай Акадэміі навук (Санкт-Пецярбург). Дзякуючы намаганням Алега Трусава Камісія па адукацыі і культуры тагачаснага Вярхоўнага Савета РБ знайшла сродкі на гэтае выданне. Але іх хапіла толькі на падрыхтоўку рукапісу. І таму, паколькі матэрыялы сабраны каштоўныя, а сродкаў на іх выданне асобным зборнікам няма, рэдкалегія рашыла ўключыць іх у "Вяртанне–3". Мы спадзяемся, што яны акажуцца карыснымі для беларускіх вучоных і краязнаўцаў, якія без камандзіроўкі ў Санкт-Пецярбург змогуць даведацца, што там захоўваецца па іх тэматыцы, заказаць патрэбныя ім копіі.

У "Вяртанні–3" у скарочаным апісанні прадстаўлены матэрыялы двух фондаў Інстытута гісторыі і матэрыяльнай культуры — фонда №1 (Імператарскай археалагічнай камісіі) і № 4 ("Метрыкі для атрымання дакладных звестак пра старажытна-праваслаўныя храмы Божыя, будынкі і мастацкія прадметы", якія запаўняліся для Імператарскага Маскоўскага археалагічнага таварыства). У першым з іх захоўваюцца "Кнігі запісу скарбаў" (справы 51, 156, 201 і інш.), "Кнігі прадметаў старажытнасці, знойдзеных пры раскопках" (спр. 35 і інш.), справаздачы асобных вучоных, археалагічнай камісіі. Звесткі пра некаторыя скарбы выдзелены ў асобныя справы. Фонд № 4 утрымлівае каштоўныя матэрыялы па гісторыі праваслаўя ў Беларусі, пра царкоўную архітэктуру і жывапіс.

Для зручнасці матэрыялы згрупаваны па губернях, размешчаны ў тым парадку, у якім ідуць справы і лісты (аркушы) спраў у фондах. Складанасць пры падрыхтоўцы зборніка заключалася ў тым, што сённяшнія межы Беларусі не супадаюць з межамі "беларускіх" губерній. Так, у Віцебскую губерню ўваходзілі Дынабургскі, Невельскі, Рэжыцкі і Себежскі паветы, тэрыторыя якіх адыйшла да Латвіі і Расіі, у Гродзенскую — Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі паветы (цяпер Польшча), у Магілёўскую — частка

сённяшняй Смаленскай вобл., у Пінскі павет Мінскай губ. — невялікая частка сённяшняй Украіны. А тэрыторыя Лідскага і Свянцянскага паветаў Віленскай губ. цяпер падзелена паміж Беларуссю і Літвой. Таму ў дадзеным даведніку па магчымасці ўлічваецца ўся тэрыторыя названых губерній, у тым ліку іх памежныя (як правіла, этнічна беларускія) тэрыторыі. Паколькі ідэнтыфікаваць назвы за межамі сённяшняй Беларусі (ды і ў межах яе) часам было цяжка, у дужках у такіх выпадках указваюцца ранейшыя (рускія) назвы.

Трэба яшчэ ўлічыць, што вопісы ў Пецярбургу, якія сталі асноўнай крыніцай даведніка, рабіліся людзьмі, недасведчанымі ў беларускай тапаніміцы (мове). Таму некаторыя назвы там перайначаны, ідэнтыфікуюцца прыблізна. У такіх выпадках ставіцца ў дужках пытальнік. Часам сённяшняя назва разыходзіцца з ранейшай, гістарычнай. У такіх выпадках прыводзяцца абедзьве — тым больш, што гэта важна і для моваведаўцаў, і для краязнаўцаў.

Тэкст рыхтавалі супрацоўнікі Беларускага рэстаўрацыйна-праектнага інстытута і Наталля Пятровіч (Цэнтр імя Ф.Скарыны). Геаграфічны паказальнік склаў Баляслаў Харкевіч (Цэнтр імя Ф.Скарыны).

## *Віленская губерня*
## *Фонд 1*

1. Спр. 5, 1884 г., лл. 50–55.

   В. Маламажэйкава (цяпер Каменка) Лідскага пав. Царква.

2. Спр. 13, 1882 г., лл. 11–14.

   Аб старажытных прадметах з калекцыі В.А.Шукевіча, знойдзеных ім і іншымі асобамі ў маёнтку Нача Каняўскай воласці Лідскага пав. і іншых месцах Лідскага і Трокскага пав. і сфатаграфаваных у 1889 г. Э.А.Вальтэрам.

3. Спр. 13а, 1888 г.

   В. Малыя Даўнедні (Малые Довнедни) Дзісненскага пав.

   Аб знаходках ва ўрочышчы Узарвы каля в. Падбаранне (Подбаранье) Каняўскай воласці Лідскага пав. чалавечых костак і іржавых жалезных рэчаў.

   Пра насыпы ў засц. Чорная Лужа Свянцянскага пав., у якіх, па паданню, пахаваны салдаты, забітыя ў час вайны 1812 г.; пра знаходкі ў іх стальных сякерак, шабель, коп'яў і інш. прадметаў, а таксама чалавечых костак.

4. Спр. 13а, 1888 г., лл. 15–19 адв., 37 адв.–38, 261 адв.–274.

   Аб даследаваннях і раскопках Э.А.Вальтэрам могілак ва ўрочышчы Церамец (Теремец) Лідскага пав.

5. Спр. 13а, 1888 г., лл. 21, 69, 60, 401 адв.

   Аб даследаванні могілак паблізу мяст. Аліта (Олита) Лідскага (?) пав. на р. Нёман. Прыкладзены малюнак пячаткі Аліты 1792 г., знойдзенай у 1887 г. у будынку былога магістрата.

6. Спр. 13а, 1888 г., л. 22.

   Аб знаходцы ў студні маёнтка Стафанішкі (Стефанишки, Стефан) Дзісненскага пав. 150 манет часоў Пятра І, Кацярыны ІІ, Аляксандра І.

7. Спр. 13а, 1888 г., л. 35.

   Аб 3 кавалках каменных сякераў, знойдзеных у в. Папішкі Каняўскай воласці Лідскага пав.

8. Спр. 13а, 1888 г., л. 38 адв.

   Аб знаходцы рэштак гаршка ў час раскопак Э.А.Вальтэра ў в. Сабалюнцы Лідскага пав.

9. Спр. 13а, 1888 г., л. 51 адв.

   Звесткі В.А.Шукевіча пра раскопкі на могілках в. Шылойці (Шилойцы) Лідскага пав.

10. Спр. 13а, 1888 г., лл. 68, 79–82 адв.

    Брашура Э.А.Вальтэра "Жмудские городища и древние урочища Тельшевского уезда".

11. Спр. 13а, 1888 г., лл. 70, 77–78 адв.

Звесткі Э.А.Вальтэра пра Пеліканскі "пільтэк" каля месца ўпадзення ў р. Нёман з аднаго боку р. Собавай, а з другога боку р. Лаўдзеі, што ў Язненскай вол. Лідскага пав.

12. Спр. 13а, 1888 г., лл. 74, 90.

Звесткі Э.А.Вальтэра аб двух курганах паблізу маёнтка Стафанішкі (Стефанишки) і Вількійскага возера.

13. Спр. 13а, 1888 г., л. 156.

Знаходкі чалавечых костак у в. Перавознікі Віленскай губ.

14. Спр. 13а, 1888 г., л. 157.

Падземны ход на заставе Неваўляны (Невовляны) Віленскай губ.

15. Спр. 13а, 1888 г., лл. 157, 157 адв.

Мяст. Меднікі Шумскай вол. Віленскага пав. Звесткі аб мурах старажытнага літоўскага гарадка або крэпасці, пабудаванай, як сцвярджае паданне, Гедымінам.

16. Спр. 13а, 1888 г., лл. 168 адв.–169.

Паведамленне аб знаходцы металічнай шпоры разам з чалавечымі косткамі ў ваколіцы Харунжыцы Нядзінгаўскай вол. Трокскага пав.

17. Спр. 13а, 1888 г., л. 169 адв.

Знаходка каменных малаткоў і крэмневых стрэл ля в. Мелыдучна (?) Віленскай губ.

18. Спр. 13а, 1888 г., л. 170 адв.

Аб знаходцы чалавечых костак ля в. Прэла Віленскай губ.

19. Спр. 13а, 1888 г., лл. 176, 178.

Аб знаходцы ў 1856 г. на раллі шкілета і стальнога кап'я са згнілым дрэўкам, а таксама старажытнай зброі на могілках.

20. Спр. 13а, 1888 г., л. 177.

Пра зарослы лесам вал, што размешчаны на адлегласці 7 вёрст ад мяст. Астрына і 100 вёрст ад Гродна, насупраць в. Сіняцоўка (Синецовка) на левым беразе р. Кашары. Па паданню, там пахаваны салдаты, забітыя ў час вайны са шведамі.

21. Спр. 13а, 1888 г., л. 178 адв.

Аб знойдзеным каля в. Паддубнае (?) (Поддубли) Каняўскай вол. Лідскага пав. чалавечым чэрапе.

Аб каменных малатках ("грамавых стрэлах"), знойдзеных у в. Рымнікі (Римники) Каняўскай вол. Лідскага пав.

Пра каменныя малаткі ("грамавыя стрэлы"), знойдзеныя на землях в. Стражуны і ў іншых мясцовасцях Каняўскай вол. Лідскага пав.

22. Спр. 13а, 1888 г., л. 179.

Аб склепе каля в. Дубічы (Дубичи) Лідскага пав. (левы бераг р. Котра) на беразе возера Пеляса, дзе, па паданню, быў замак каралевы Боны.

Акоп ва ўрочышчы Памулушкі маёнтка Чапялуны (Чапелуны) Каняўскай вол. Лідскага пав. на левым беразе р. Павасункі.

Склеп з рэшткамі цаглянай сцяны ў в. Рубічы Лідскага пав.

23. Спр. 13а, 1888 г., лл. 179, 183.

Пра акоп ("пілікальніс"), што ва ўрочышчы Памулушкі маёнтка Чапялуны (Чапелуны) Каняўскай вол. Лідскага пав. на левым беразе р. Павасункі; аб круглым гарадзішчы сярод палёў маёнтка Чапялуны на правым беразе р. Васупа ў Лідскім пав.

24. Спр. 13а, 1888 г., л. 181.

Аб каменных плітах з высечанымі на іх крыжамі ва ўрочышчы Падаронаўшчына каля в. Парцы Васілішкаўскай вол. Лідскага пав.

25. Спр. 13а, 1888 г., л. 182 адв.

Аб знаходцы старажытнай зброі ў в. Раманова Каняўскай вол. Лідскага пав. каля возера Матора.

Аб знаходцы старажытнай зброі ў в. Рубічы Лідскага пав.

26. Спр. 13а, 1888 г., л. 184.

Аб камянях з выразанымі на іх знакамі ў выглядзе крыжоў на могілках в. Пузелі Каняўскай вол. Лідскага пав.

27. Спр. 13а, 1888 г., л. 188.

Аб камяні з высечаным на ім знакам у в. Папоўка Тверачскай вол. Свянцянскага пав.

Малюнкі на камянях каля в. Чальнікі Свянцянскага пав.

Пра камень з выявай на ім чалавечай ступні, што знаходзіцца на адлегласці двух вёрст ад вёсак Чальнікі і Пашуны Тверачскай вол. Свянцянскага пав.

28. Спр. 13а, 1888 г., л. 189.

Знаходкі каменных вырабаў і старажытнай зброі ў 1887 г. каля в. Мінтавішкі Свянцянскага пав.

29. Спр. 13а, 1888 г., л. 190.

Аб знаходцы старажытнай зброі ў засц. Рэксня (Рексня) Віленскай губ.

30. Спр. 13а, 1888 г., л. 193 адв.

Аб знаходцы на пачатку 40-х гадоў XIX ст. на палях урочышча Лапінкі (Лапинки) Свянцянскага пав. паблізу мяст. Свір і возера Свір каменнага малатка.

31. Спр. 13а, 1888 г., лл. 193–195.

Аб насыпанай гары ў мяст. Свір Свянцянскага пав. і аб знаходцы на ёй, а таксама на палях і агародах мястэчка костак, нажоў, медных гузікаў і іншых рэчаў.

32. Спр. 13а, 1888 г., лл. 194–195 адв.

Знаходкі чалавечых костак у мяст. Свір Свянцянскага пав.; ход ад Засвірскага касцёла да касцёла ў Свіры; насыпныя валы.

33. Спр. 13а, 1888 г., лл. 195–196.

Аб старажытных сярэбраных рэчах, знойдзеных у в. Каралеўцы Войстамскай вол. Свянцянскага пав. на р. Нарач; аб насыпных курганах (каля 20) паблізу в. Любкі Свянцянскага пав. на р. Нарач.

34. Спр. 13а, 1888 г., л. 203.

Знаходка манет у в. Пятровічы Ашмянскага пав.

35. Спр. 13а, 1888 г., л. 205.

Пра рэшткі крэпасці і замкавае возера каля фальв. Чагурка ў Ашмянскім пав.

36. Спр. 13а, 1888 г., л. 213.

Аб знаходцы чалавечых чарапоў і костак пры выкопванні склепаў у в. Паповіцы Свянцянскага пав.

37. Спр. 13а, 1888 г., л. 215.

Пра знаходку ў 1839 г. у час капання ямы пад бульбу на месцы, дзе раней быў паганскі храм, у в. Хоўхлава (Ховхлы) Трыфанскай вол. Вілейскага пав. чалавечай галавы вялікіх памераў.

38. Спр. 13а, 1888 г., л. 216 адв.

Маёнтак Маладзечна Вілейскага пав. Аб знаходцы паблізу замка князёў Агінскіх у балоце і р. Ушы штыкоў, шабляў і іншай зброі, што, па паданню, была згублена французамі.

39. Спр. 13а, 1888 г., л. 217.

Аб узгорку на левым беразе р. Вязынкі каля в. Вязынскай вол. Вілейскага пав., на якім знойдзены чалавечыя косткі, рэшткі адзення цёмна-сіняга колеру і галуна.

Аб узгорку, што называюць французскай магілай, размешчаным на адлегласці 1 вярсты ад в. Новае Ілья (цяпер Ілья) Вязынскай вол. Вілейскага пав., дзе знаходзілі чалавечыя косткі.

40. Спр. 13а, 1888 г., л. 222.

Аб знаходцы чалавечых костак каля в. Томан Дзісненскага пав.

41. Спр. 13а, 1888 г., л. 223.

Аб камянях з малюнкамі на іх у мяст. Падброддзе (Подбродье) Дзісненскага пав.

Пра выбрукаваную бярвеннем дарогу, згодна з паданнем, пабудаваную князем Вітаўтам, што вяла з урочышча Цітаўшчына (у Дзісненскім пав.) у накірунку да вёсак Вялікія і Малыя Давыдкі, і пра насып у канцы гэтай дарогі каля р. Зайніцы.

42. Спр. 13а, 1888 г., лл. 224–224 адв.

Пра знаходку старажытнай зброі ў фальв. Тупічана (Тупичино) Дзісненскага пав.

43. Спр. 13а, 1888 г., л. 224 адв.

Знаходкі чалавечых костак у в. Перавусава (Переусово) Дзісненскага пав.

44. Спр. 13а, 1888 г., лл. 240, 242 адв.

Згадка Э.Вальтэра пра калекцыю літоўскіх старажытнасцей памешчыка В.Кейстут-Гедыміна.

45. Спр. 13а, 1888 г., лл. 240 адв., 242 адв.

Згадка аб калекцыі літоўскіх старажытнасцей, што належала В.Вейтку ў мяст. Аліта (Олита).

46. Спр. 13а, 1888 г., л. 242 адв.

Згадка аб бронзавых і жалезных рэчах, знойдзеных у час земляных работ у вёсках Бакшышкі і Лікішкі Аляксандраўскай вол. Свянцянскага пав., што захоўваліся ў калекцыі В.А.Вейткі. Са справаздачы Э.А.Вальтэра.

47. Спр. 13а, 1888 г., л. 249.

Апісанне прадметаў з раскопак В.А.Шукевіча на Пузельскіх могілках.

48. Спр. 13а, 1888 г., лл. 261 адв., 274.

Аб раскопках Э.А.Вальтэрам курганоў і могільнікаў каля в. Папішкі Каняўскай вол. Лідскага пав.

49. Спр. 27, 1906 г.

Дзённікі і матэрыялы аб археалагічных раскопках В.А.Шукевіча ў 1889 г. у Лідскім і Трокскім пав.

50. Спр. 29, 1908 г.

Аб куплі старажытных прадметаў, знойдзеных у кургане каля в. Цагельня Свянцянскага пав.

51. Спр. 35, 1869 г., л. 65.

Аб перадачы ў музей у Вільні 84 польскіх солідаў, знойдзеных у 1884 г. у Ашмянскім пав.

52. Спр. 43, 1889 г .

Аб старажытных прадметах з калекцыі В.А.Шукевіча, знойдзеных ім і іншымі асобамі ў маёнтку Нача Каняўскай вол. Лідскага пав. і іншых месцах Лідскага і Трокскага пав. і сфатаграфаваных у 1889 г. Э.А.Вальтэрам.

Дзённікі і іншыя матэрыялы аб археалагічных раскопках Э.А.Вальтэра ў 1889 г. у Лідскім і Трокскім пав. Некаторыя матэрыялы аб раскопках у 1888 г.

53. Спр. 43, 1889 г., лл. 11, 17, 27 адв.

Аб купленых Э.А.Вальтэрам у 1889 г. розных старажытных рэчах, зной-

дзых у в. Падбражалле (Подброжалье) Еўеўскай вол. Трокскага пав. і іншых мясцовасцях Лідскага і Трокскага пав.

54. Сп43, 1889 г., лл. 11, 17, 27 адв., 112 адв., 121 адв.

Абаскопках Э.А.Вальтэра ў 1889 г. у маёнтку Пузелі Лідскага пав. і іншых мясцовасцях Лідскага і Трокскага пав. і апісанне рэчаў, знойдзеных у час раскопак.

55. Сп43, 1889 г., л. 21.

Аб знойдзеных у Свянцянскім пав. каменных сякерах і клінах, што захоўліся ў калекцыі А.Шчукінаса.

56. Сп43, 1889 г., лл. 112 адв.–121 адв..

Вопісы старажытных рэчаў, знойдзеных Э.А.Вальтэрам у 1888 г. ва ўрочышчы Церамец (Теремец) Лідскага пав. і іншых мясцовасцях.

Апісанне старажытных прадметаў, знойдзеных Э.А.Вальтэрам у в. Мямо (Мемона) Лідскага пав. і іншых месцах у час раскопак у 1888 г.

57. Сп43, 1889 г., лл. 113, 122.

Аб знойдзеных у в. Сабалюнцы Лідскага пав. рэштках керамічнага посуду.

58. Сп65, 1884 г., лл. 180–182.

Перадача старажытных рэчаў са знаходак Е.Р.Раманава ў 1891 г. на Люцынскім (Люцин) могільніку (з вопісам) музею. Вільня, 15 лютага 18[?] г.

59–60. пр. 103, 1890 г., лл. 21, 34–36, 44.

Аб рэчах, знойдзеных В.А.Шукевічам у час раскопак курганоў каля в. Мантаты (Монтаты) Лідскага пав.

Аб рэчах, знойдзеных на ўзараных курганах каля в. Смільгіні Каняўскай вол. Лідскага пав.

Аб прадметах, знойдзеных на ўзараных курганах каля в. Пазгрында (Пазгрында) Каняўскай вол. Лідскага пав.

Чарцёж гарадзішча Пілікальніс каля фальв. Чапялуны (Чапелуны) Лідскага пав.

61. Сп185, 1890 г., лл. 2, 4.

Аб перадачы ў музей знаходак з раскопа І.І.Іохера ў маёнтку Нарбутаў Грабелы (Грабелы) Віленскай губ. Вільна, 1891.

62. Сп187, 1904 г.

Аб раскопках В.А.Шукевіча ў Трокскім і Лідскім пав.

63–64. пр. 293, 1895 г., лл. 354 адв., 355, 430 адв.–431.

Перапіска аб перасылцы сярэбраных зліткаў (23 цэлых і 6 кавалкаў) для перадачы іх у Гістарычны музей. Вёска Рускі Рог (Русский Рог) Віленскага пав. 1904 г.

Аб куплі старажытных прадметаў, знойдзеных у кургане каля в. Цагельня Свянцянскага пав.

## *Фонд 4*

65. Спр. 1023.

Метрычная кніга парафіяльнага касцёла ў імя Св. Ганны ў маёнтку Мосар Дзісненскага пав.

66. Спр. 1024.

Метрычная кніга парафіяльнага касцёла ў імя Пятра і Паўла ў мяст. Ражанка Лідскага пав.

67. Спр. 1026.

Метрычныя кнігі парафіяльнага касцёла ў імя Св. Юзафа ў мяст. Шашолі Віленскага пав.

68. Спр. 1031.

Метрычная кніга парафіяльнага касцёла ў імя Цнатлівага Зачацця Прасвятой Дзевы Марыі ў мяст. Паставы Дзісненскага пав.

69. Спр. 1035.

Метрычная кніга парафіяльнага касцёла ў імя Св. Архангела Міхаіла ў г. Ашмяны Віленскай губ.

70. Спр. 1036.

Метрычная кніга касцёла Успення Прасвятой Дзевы Марыі ў Адэльску Віленскай губ.

71. Спр. 1037.

Метрычная кніга парафіяльнага касцёла ў мяст. Сурвілішкі Ашмянскага пав.

72. Спр. 1057.

Метрычная кніга парафіяльнага касцёла ў мяст. Стара-Германавічы (цяпер Германавічы) Віленскай губ.

73. Спр. 1073.

Метрычныя кнігі касцёла Св. Апостала Андрэя ў мяст. Лынтупы Свянцянскага пав.

74. Спр. 1077.

Метрычная кніга парафіяльнага касцёла ў імя Успення Прасвятой Багародзіцы Дзевы Марыі ў Мёрах Віленскай губ.

75. Спр. 1079.

Метрычная кніга парафіяльнага касцёла ў імя Св. Міхаіла Архангела ў мяст. Міхалішкі Віленскай губ.

76. Спр. 1080.

Метрычная кніга касцёла ў імя Св. Яна Хрысціцеля ў м. Мсцібава.

77. Спр. 1082.
Метрычная кніга касцёла ў імя Успення Багародзіцы ў Налібаках.

78. Спр. 1083.
Метрычная кніга парафіяльнага касцёла ў імя Прасвятой Багародзіцы ў в. Онькавічы (Оньковичи) Віленскай губ.

79. Спр. 1084.
Метрычная кніга парафіяльнага касцёла ў імя Прасвятой Багародзіцы ў в. Параф'янава Віленскай губ.

## *Віцебская губерня*

### *Фонд 1*

80. Спр. 2, 1861 г.
Пра помнік генералу Кульневу на беразе Дрысы

81. Спр. 2, 1861 г., лл. 1–4.
Гістарычны нарыс пра помнік Барклаю-дэ-Толі.

82. Спр. 4, 1877 г.
Пісьмо Археалагічнай Камісіі палкоўніку батальёна Афрасімаву з просьбай паведаміць пра знаходкі старажытнасцей пры раскопках курганоў і правядзенні земляных работ на беразе Дзвіны.

83. Спр. 5, 1865 г., лл. 2, 8–9, 11.
Блясінскі курган у Люцынскім пав. Віцебскай губ. Пра даручэнне Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта члену камітэта О.В.Дуве сабраць звесткі пра Блясінскі курган.

84. Спр. 5, 1865 г., лл. 2, 8–9, 16.
Аб знойдзеным у маёнтку Рэпішча Полацкага пав., каля "Рагнедзінага кургана" каменным малатку і інш. звесткі пра курган.

85. Спр. 5, 1865 г., л. 9.
Апісанне рэштак цагляных пабудоў на гары Гарадок каля возера Нешчадра Полацкага пав.

86. Спр. 5, 1865 г., лл. 15–16.
Аб знаходцы ў 1865 г. у г. Дынабургу паблізу дамбы ў час пабудовы дома двух бронзавых пярсцёнкаў.

87. Спр. 5, 1876 г.
Аб знаходцы ва Усайскай вол. Лепельскага пав. селянінам в. Зарэчча скарбу сярэбраных талераў, польскіх і літоўскіх солідаў XVII ст. Перададзены на пераплаўку.

88. Спр. 5, 1876 г., лл. 1–4.
Аб прысылцы ў камісію Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта

1 ф. 60 зал. + 11 ф. 74 зал. манет. Адпраўлены на Манетны двор. Вызначэнне: брабанцкія талеры 1631–1694 гг., медныя польскія і літоўскія манеты 1660–1666 гг.

89. Спр. 6, 1868 г.

Аб знаходцы ў 1868 г. пры перабудове свірна скарбу з 255 сярэбраных манет XVII і пач. XVIII ст., у ліку якіх рубель 1730 г., іспанскі талер 1684 г., галандскі талер 1694 г., орта іспанская 1660 г. і інш. аўстрыйскія, шведскія і прускія манеты.

90. Спр. 6, 1869 г., л. 19.

Упамінанне пра розныя сярэбраныя (з выявамі і надпісамі) блюды, чашы і сасуды сасанідскага і сярэднеазіяцкага характару, сярэбраныя і бронзавыя шыйныя колцы, бранзалеты і іншыя ўпрыгожанні X і больш ранніх стагоддзяў, знойдзеныя ў Пермскай, Вяцкай, Віцебскай і Смаленскай губернях.

91. Спр. 6, 1869 г., л. 20 адв.

Упамінанне пра старажытныя бронзавыя ўпрыгожанні, набытыя ў сялян Віцебскай губ.

92. Спр. 6, 1869 г., л. 35 адв.

Пра знаходкі ў час апрацоўкі зямлі ў маёнтку Людвікова Дынабургскага пав. розных старажытных металічных вырабаў, а таксама пра раскопкі А.Крузэ ў гэтай мясцовасці. Прыкладзены малюнкі і выразка з газеты "Виленский вестник" (№ 206, 15.9.1887 г.). 30.9.1891 г. усе гэтыя рэчы былі перададзены ў Гістарычны музей.

93. Спр. 6, 1897 г.

Бібліяграфічны спіс твораў аб старажытнасцях Віцебскай губ.

94. Спр. 6, 1917 г.

Аб стварэнні ў 1917 г. Рэжыцкага гісторыка-этнаграфічнага таварыства. Пра камяні полацкага князя Барыса (каля 1126 г.), што знаходзяцца пасярэдзіне р. Заходняя Дзвіна ў г. Дзісне.

95. Спр. 7, 1893 г.

Аб раскопках Е.Р.Раманава ў Віцебскай губ. Аб раскопках праф. Л.Ю.Шапялевіча ў Віцебскай губ.

96. Спр. 8, л. 27.

Аб перадачы Маскоўскаму Публічнаму музею двух бронзавых пярсцёнкаў, знойдзеных у 1865 г. у г. Дынабургу (Динабург).

97. Спр. 8, 1862 г., л. 27.

Аб знойдзеным у маёнтку Рэпішча (Репище) Полацкага пав., каля "Рагнедзінага кургана" каменным малатку і інш. звесткі пра курган.

98. Спр. 8, 1862 г., л. 27 адв.

Спіс археалагічных знаходак ў г. Дынабург, якія ў 1870 г. былі перададзены ў Маскоўскі музей.

Спіс рэчаў, знойдзеных у Полацкім пав., якія ў 1870 г. меліся быць перададзены Маскоўскаму Публічнаму музею.

99. Спр. 8, 1864 г., лл. 10, 16.

Упамінанне аб пастанове Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта ад 2.08.1864 г. аб зборы звестак пра помнікі даўніны Віцебскай губ. з пераказам вынікаў даследаванняў курганоў і іншых земляных помнікаў.

100. Спр. 9, 1885 г., лл. 1–8.

Пра скарб, знойдзены ў час апрацоўкі агарода ў в. Барадаўкі (Бородавки) Смаляніцкай вол. Лепельскага пав. Ён складаўся з 1860 рыжскіх, прускіх, лівонскіх і інш. сярэбраных і медных манет XVII ст.

101. Спр. 9, 1885 г., лл. 1–27.

Прысылка манет Віцебскім губернскім статыстычным камітэтам (1871–1900).

102. Спр. 9, 1885 г., лл. 9–17.

Аб прысылцы Віцебскім губернскім статыстычным камітэтам ў Археалагічную камісію 148 літоўскіх і польскіх 1509–1560 гг. манет, знойдзеных у в. Цеплюкі Замашанскай вол. Дрысенскага пав. Перададзены на пераплаўку.

103. Спр. 9, 1885 г., лл. 18–27.

Аб прысылцы Віцебскім губернскім статыстычным камітэтам 1000 сярэбраных літоўскіх 1509–1557 гг. манет (1 ф. і 83 залатн.), знойдзеных у в. Бінаконіч(ы) (Биноконич(и)). Пераплаўлены (справаздача Археалагічнай Камісіі за 1882–1888 гг. С. XCVI).

104. Спр. 9, 1887 г., л. 27.

Пра рэчы, здабытыя пры даследаванні магіл у Віцебскай губ. Э.А.Вальтэрам, А.А.Іохерам і Е.Р.Раманавым у 1888–1890 гг. і змешчаныя на выставе Археалагічнай Камісіі ў 1891 г.

105. Спр. 13, 1858 г., лл. 1–25.

Гістарычны нарыс пра помнік Барклаю-дэ-Толі.

106. Спр. 13, 1859 г., лл. 1–2, 26–27.

Аб прысылцы Віцебскім губернскім статыстычным камітэтам у Археалагічную Камісію пяці манет, знойдзеных паблізу руін замка ў г. Люцыне (Люцин) і купленых у 1852 г. (рэвельская XV ст., тры дэрпцкіх XIV–XV стст., рыжская XV ст.). Вернуты ў камітэт, бо такія ёсць у Эрмітажы.

106а. Спр. 13а, 1888 г., лл. 3–9.

"Гістарычны нарыс аб старажытнасці княства Полацкага", складзены І.Ф.Сыцянка.

106б. Спр. 13а, 1888 г., лл. 10–25.

"Гістарычны дзявочы погляд на старажытнасці княства Полацкага" (склад. І.Ф.Сыцянка).

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 49. | —//— XVI–XVII стст. | | Маскоўскай Публіч. бібліятэцы і Румянцаўскім Музеі | Там жа. |
| 50. | —//— XVI ст. | | Маскоўскай Дух. акадэміі, У бібл. Маскоўскага Цудаманастыра | —//— 386, 389, 391, 392, 393. |
| 51. | Беларускія старадаўнія дакументы | | Архіў Міністэрства справядлівасці і С.Пецярбургскай Археаграфічнай Камісіі | —//— 344. |
| 52. | Актавыя кнігі Магілёўскай і Віцебскай губ. | | У Яраслаўлі | З спраў Цэнтрархіва Беларусі. |
| 53. | Полацкага кадэцкага корпуса | | Ульянаўскім Губ. арх. бюро | —//— |
| 54. | Полацкага духоўнага вучылішча | | Уладзімірскім губ. архіве | —//— |
| 55. | Літоўская метрыка | | Маскве і Ленінградзе | —//— |
| 56. | Адчоты фабрычных інспектараў | | Ленінград, Масква, Кіеў | Са спраў Цэнтрархіва |
| 57. | Палітычнай камісіі ў Менску ў 1863 г. | | Ленінград | —//— |
| 58. | Архіў Тупічэўскага манастыра | | Смаленскім Архіўным бюро | —//— |
| 59. | Актавыя кнігі старшага натарыуса | У Маскву | | Са спраў Канцылярыі Цэнтрархіва Бел. |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | Менскага Акруговага суда 1917 г., 1918 г. | | | |
| 60. | Архіў беларускага бежанскага камітэта | | У Ленінградзе | Са спраў Канцылярыі Цэнтрархіва Бел. |
| 61. | Спаса-Юравіцкай епархіі (Полаччына). 1 нарад. | | Ленінград | —//— |
| 62. | Справы па паўстанню 1863 года | Узяты з Магілёўшчыны і перададзены ў Вільню, Музей гр. Мураўёва. | Музей старасвеччычы пры Ростаўскім УІК Яраслаўскай губ. | —//— |
| 63. | Справы Магілёўскага спаўняючага камітэта | Адпраўлены ў Гомель, у Гомельскае архіўнае бюро, адтуль у Маскоўскі Цэнтрархіў. | Масква | —//— |
| 64. | Увесь фонд Магілёўскага губернскага жандарскага ўпраўлення | У Гомель, а адтуль у Маскоўскі Цэнтрархіў | | —//— |
| 65. | План гор. Мсціслаўля 1861 года | Смаленск | | —//— |
| 66. | Справы былой Менскай кантрольнай палаты | | | —//— |
| 67. | Гадавыя справаздачы беларускіх губернатараў аб стане губерняў | Масква | | —//— |

**Перечень архивов, вывезенных из Белоруссии**

I. Б. Архив Министерства юстиции в Москве.

1. Архивный фонд Метрики Литовской.

2. Дела соединенных палат уголовного и гражданского суда до 1800 года, вывезенные из окружных судов Белоруссии.

II. Б. Архив Министерства иностранных дел в Москве.

1. Грамоты вел. кн. Литовских, переданные при перевозке Литовской метрики из Сената в Моск. арх.Минист.юст.

2. Книги посольские и скарбовые вел.кн.Литовск.

III. Б. Архив Главного управления земледелия и землеустройства в Ленинграде.

1. Архив поиезуитских фундушов, грамоты на имения и дневники иезуитских школ.

IV. б. Архив Синода.

1. Архив белорусских греко-униатских митрополитов.

2. Часть архива б.Полоцкой униатской архиепископии.

V. б. Юридический лицей в Ярославле.

1. Актовые книги б.Виленского и Витебского центральных архивов, эвакуированные в 1915 г.

VI. б. Архив Главного штаба в Ленинграде.

Ряд рукописных книг XVI-XVIII вв. и, между прочим, Полоцкая ревизия 1552 г. Ревизия Гродненской экономии конца XVIII века. Карты, планы и проч., что можно установить по изданному каталогу.

VII. Б. Библиотека Главного штаба в Ленинграде.

Здесь хранится часть знаменитых тэк (портфели с рабочими материалами) Нарушевича и некоторые друг. материалы (если не сгорели во время пожара).

VIII. Б. Публичная библиотека в Ленинграде.

1. Копии документов из Несвижского архива Радзивиллов, сделанные Гильдебрантом.

2. Рукописные списки Статута Вел. Кн. Лит.

3. Ряд книг известной библиотеки под титулом “Вариа”.

4. Ряд документов, между проч.книга конституций.

IX. Б. Археографическая комиссия в Ленинграде.

1. По распоряжению Николая I в него переданы грамоты на Магдебургию многих белорусских городов, изъятые из городских ратуш, ибо эти грамоты свидетельствовали о былой вольности городов.

2. Летопись Авраамки (из Полоцка) и друг. док.

X. Б. Синодальная библиотека в Москве.

1. Ряд рукописей.

XI. Музей в Ростове Ярославской губ. УИК.

1. Виленский архив. граф. М.Муравьева, эвакуированный в 1915 г.

Б.Б. Высшие правительственные учреждения, в которых хранятся материалы, относящиеся к истории Белоруссии.

ВСЕ АРХИВЫ БЫВ. МИНИСТЕРСТВ.

Главным образом необходима скорейшая передача документов, имеющих отношение к истории хозяйства Белоруссии и общеисторическое значение, например: а) из быв. Министерства торговли и промышленности дела фабричной инспекции и б) из быв. Министерства внутренних дел годовые отчеты губернаторов и проч.

***Подпіс***

**ПРАТАКОЛ**
**пасяджэння Прэзідыума Гісторыка-Археалагічнае Секцыі, якое адбылося 17 верасня 1925 г.**

ПЫТАННЕ:

Аб звароце беларускіх архіваў.

ПАСТАНОЎЛЕНА:

Прэзідыум згодзен з пастаноўкай пытання аб звароце архіўных матэрыялаў у межы Беларусі, якія маюць адносіны да гісторыі і гаспадаркі Беларусі.

*Старшыня Секцыі (без подпісу)*

*Сакратар* ***В.Дружчыц***

Унізе накладзена рэзалюцыя сакратара Інбелкульта Язэпа Дылы: "Гіст.-арх. камісіі: просьба тэрмінова даць апінію адносна гэтае справы, зрабіўшы (неразб.) дабаўкі да спіса фондаў і рукапісаў. 31/X".

У Прэзідыум Інбелкульта

**ДАКЛАД**
**Гістарычна-Археалагічнай камісіі па пытанню аб узвароце беларускіх архіваў (з далучэннем перапіскі)**

Пры сучасных умовах магчыма вызначыць толькі месцы, у якіх захоўваюцца галоўныя і самыя каштоўныя архіўныя фонды, вывезеныя ў розныя часы з Беларусі, а таксама пералічыць архіўныя матэрыялы, якія без супярэчнасці павінны быць выдзелены з расейскіх архіваў, бо для апошніх не патрабуюцца матэрыялы, датычучыеся да гісторыі Беларусі.

Вызначыць з падрабязговасцю ўсе мейсцы, у якіх захоўваюцца беларускія архіўныя каштоўнасці, у цяперашні час нельга, бо шмат фондаў перадзвінута з адных мейсцаў сховы ў другія.

З боку Гіст.Арх.камісіі ІБК будуць прыняты ўсе меры к таму, што б па магчымасці ў працягу працы ўзвароту архіваў сцісла высветліць, гдзе знаходзяцца вывезеныя раней дакументы, а таксама даць і вычарпаючы спіс устаноў, з якіх належыць атрымаць архіўныя матэрыялы.

Камісія пераглядзела прысланы на яе ўвагу спіс, зрабіла яго больш дасканальным, дапоўніла, адкінуўшы няпэўнае і не заслугуючае на ўвагу.

У цяперашні час камісія прапануе трэбаваць перадачы наступных архіваў, якія вызначаны у далучаным спісу.

Камісія адзначае папярэднія мейсцы, дзе да рэвалюцыі знаходзіліся архівы, маючы на ўвазе, што ў Цэнтральных Архіўных схароніцах Масквы і Ленінграда магчыма знайсці спраўку аб тым, гдзе ў цяперашні час знаходзяцца належныя дакументы.

*Старшыня (подпіс неразборлівы)*
***Сакратар Дзм. Даўгяла***

Унізе дакумента пазначана : 8 кастрычніка 1925 г., № 4

Уверсе дакумента напісана: "Даложана ў Сходзе Прэзідыума 3.XI.1925".

*Віктар Акуленка (Кіеў), доктар юрыдычных навук*

## Рэліквіі Украіны: праблемы рэстытуцыі

У Чарнігаве пад эгідай ЮНЕСКО ў 1994 г. адбыўся нацыянальны семінар “Праблемы вяртання нацыянальна-культурных помнікаў, згубленых або перамешчаных у час Другой сусветнай вайны”, арганізаваны Нацыянальнай камісіяй па пытаннях вяртання культурных каштоўнасцей на Украіну пры Кабінеце міністраў Украіны, Міністэрствам культуры, Галоўным архіўным упраўленнем пры Кабінеце міністраў, Нацыянальнай Акадэміяй навук Украіны і іншымі ўстановамі. У яго рабоце, апрача ўкраінскіх навукоўцаў і практыкаў, прынялі ўдзел іх калегі з Беларусі, Расіі, Эстоніі, Германіі, Польшчы, Венгрыі, ЗША, Славакіі, Румыніі. Удзельнікам семінара прыслалі прывітанні прэзідэнт Украіны Л.Кучма і Генеральны дырэктар ЮНЕСКО Ф.Майор. Важна, каб вынікі форуму, яго рэкамендацыі і звароты знайшлі належную падтрымку на нацыянальным і міжнародным узроўнях.

### *Перадгісторыя пытання*

Дзве тысячы гадоў таму грэчаскі летапісец Палібій выказаў надзею, што ў будучым наступіць час, калі народы не стануць узбагачаць і ўпрыгожваць свае краіны коштам рабавання гарадоў і няшчасця іншых народаў. Але Другая сусветная вайна па варварству пераўзыйшла ўсе папярэднія войны. Здавалася б, што помнікі культуры ў яе крывавай прасторы павінны мець пэўны імунітэт, бо напярэдадні ўжо была выпрацавана і прызнана міжнародна-прававая база аховы культурных каштоўнасцей у выпадку ўзброеннага канфлікту. Як фашысцкая Італія і нацысцкая Германія, так і Савецкі Саюз процідзейнічалі ў Лізе Нацый прыняццю універсальнага міжнароднага пагаднення па ахове культурных каштоўнасцей у час ваенных дзеянняў.

“Ніякія гістарычныя і культурныя каштоўнасці на Усходзе не маюць значэння для еўрапейскай культуры,” — так санкцыянаваў фюрэр свае дырэктывы войскам. Гінулі помнікі архітэктуры, рабаваліся і вывозіліся на захад фонды музеяў, бібліятэк, архіваў. Пасля такога варварскага спусташэння айчынных культурных каштоўнасцей савецкія войскі, увайшоўшы

на тэрыторыю Трэцяга рэйха, паводле наказу І.Сталіна, пачалі ўжываць кампенсацыйныя акцыі. Тут яшчэ шмат белых плямаў, паколькі архівы Міністэрства абароны колішняга СССР нам недаступныя і пра маштабы нямецкіх рэпарацый можна меркаваць толькі гіпатэтычна. Як вынік — вялізны мацярык культурных каштоўнасцей абодвух варожых бакоў зведаў непаўторныя страты, быў перамешчаны і расцярушаны па свеце. Пасля заканчэння вайны мірны дагавор з Германіяй не быў падпісаны, а асобныя такія дагаворы з яе сатэлітамі — Італіяй, Венгрыяй, Фінляндыяй і інш. глабальна не вырашылі праблему рэстытуцыі культурных каштоўнасцей. Халодная вайна, якая распачалася між СССР і ЗША, наогул перавяла яе ў стан стагнацыі на дзесяцігоддзі. Па сутнасці Другая сусветная вайна ў культурнай сферы не закончылася, паколькі нарабаваныя помнікі, не вернутыя законным уладальнікам, сталі прадметам палітычнай кан'юнктуры, інтрыгаў, спекуляцыйных махінацый. Нават на высокім дзяржаўным узроўні даводзіцца, напрыклад, чуць: "Вы нам Бурштынавы пакой, а мы вам золата Шлімана".

Культурныя скарбы Украіны, якая апынулася ў эпіцэнтры ваенных дзеянняў, бадай што найбольш пацярпелі, але мы толькі прыступаем да той сістэматызаванай працы па падліку культурных страт, якую еўрапейскія краіны ўжо зрабілі за апошнія пяць дзесяцігоддзяў.

### *З новай старонкі*

Незалежнасць Украіны адкрывае новыя магчымасці ўваходжання яе ў міжнародны культурны працэс. У складзе СССР яна не магла рэалізаваць суверэннае права на вяртанне сваіх шэдэўраў, хаця фармальна была суб'ектам міжнароднага права і членам ААН. Цяпер Украіна — удзельніца НБСЕ (Хельсінкскага працэсу), ратыфікавала канвенцыі ЮНЕСКО, падтрымлівае адпаведныя рэзалюцыі ААН, прызнае прыярытэт міжнароднага права над унутрыдзяржаўным.

Сёння неабходна прыспешыць нарматворчы працэс і, у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі, прыняць закон пра забарону незаконнага вывазу і перадачы права ўласнасці на культурныя каштоўнасці, пра ахову нерухомай культурнай спадчыны, пра музейныя і бібліятэчныя фонды. Важна, каб у іх знайшлі ўвасабленне палажэнні Дэкларацыі пра дзяржаўны суверэнітэт, у якой абвешчана, што Украіна мае права на вяртанне народу нацыянальных культурных і гістарычных каштоўнасцей, якія знаходзяцца па-за яе межамі. Гэтая трывалая стратэгічная дзейнасць мае немалое значэнне для адроджанай дзяржавы і павінна знайсці адлюстраванне ў Канстытуцыі Украіны.

Адпаведна з агульнапрызнанай нормай міжнароднага права рабаванне культурных каштоўнасцей у час вайны з'яўляецца злачынствам, якое не

можа быць апраўдана ніякімі прычынамі. Культурныя каштоўнасці, якія былі прымусова вывезены з адной краіны ў другую, падлягаюць вяртанню. Гэтая вострая праблема ў цывілізаваным свеце была сустрэта не аднагалосна. Супярэчнасці ўзніклі пры тлумачэнні паняццяў "рэстытуцыя" і "вяртанне". Ухваленая спецыяльная працэдура з мэтай садзейнічання двухбаковым перагаворам пра вяртанне культурных каштоўнасцей у практычнай рэалізацыі аказалася недасканалай. Як з пункту гледжання двухбаковых перагавораў разглядаць перамяшчэнне культурных каштоўнасцей з абрабаваных фашысцкімі акупантамі музеяў Украіны, што апынуліся на тэрыторыі трэціх краін?

Напрыклад, унікальная калекцыя малюнкаў А.Дзюрэра з бібліятэкі НАН Украіны ў Львове цяпер знаходзіцца ў Метрапалітэн-музеі ў Нью-Йорку і ў музеі Інстытута мастацтва ў Чыкага...

Рэстытуцыя культурных каштоўнасцей (вяртання дзяржавай маёмасці, нарабаванай і незаконна вывезенай з акупаванай яе войскамі тэрыторыі іншай дзяржавы) з'яўляецца прадметам рэгулявання міжнароднага грамадскага права, міждзяржаўных адносін. Тут ёсць істотныя прагалы. На жаль Гаагская канвенцыя пра захаванне культурных каштоўнасцей у выпадках узброенага канфлікту не прадугледжвае правілаў рэстытуцыі, якія ўзнікаюць пры яе практычнай рэалізацыі. Міжнародныя прававыя нормы патрабуюць удасканалення, каб дасягнуць поўнай і абсалютнай рэстытуцыі.

Вырашыць такія прававыя калізіі не ў кампетэнцыі Нацыянальнага семінара, гэта прэрагатыва ЮНЕСКО, яе Міжурадавага камітэта па пытаннях рэстытуцыі ў выпадках незаконнага валодання, спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

Пераважная большасць культурных скарбаў, якія былі вывезены пасля вайны з Германіі і іншых краін у форме рэпарацый (сярод іх, без сумнення, ёсць экспанаты, нарабаваныя з музеяў Украіны), знаходзяцца ў былых саюзных сховішчах Масквы, Санкт-Пецярбурга, Ніжняга Ноўгарада. Украіна не атрымала сваёй кампенсацыйнай часткі, а гэта пазбаўляе яе магчымасці вяртання з тэрыторый заходніх краін сваіх культурных каштоўнасцей шляхам абмену.

### *Перашкоды*

У праекце Пагаднення паміж урадамі Украіны і Расіі пра супрацоўніцтва ў галіне культуры, навукі і асветы, у яго арт.5, прадугледжваецца, што "бакі будуць вырашаць пытанні, звязаныя са страчанымі або незаконна вывезенымі культурнымі каштоўнасцямі і з *магчымым іх вяртаннем* (падкрэслена мной. — *В.А.*) шляхам перамоў бакоў на падставе заканадаўства і норм міжнароднага права". Фармальна можна было б з гэтым пагадзіцца, калі не звяртаць увагу на прэамбулу пагаднення, на падставе якога па-

вінны дзейнічаць бакі, — там наогул не згадваецца пра падпісанае кіраўнікамі дзяржаў СНД 14 лютага 1992 г. у Мінску Пагадненне пра вяртанне культурных і гістарычных каштоўнасцей тым дзяржавам, адкуль яны паходзяць. Парламент Расіі ўказанае пагадненне не ратыфікаваў, спасылаючыся нібыта на яго неадпаведнасць нормам міжнароднага права.

У той жа час дыпламатычная імітацыя рэальнага працэсу вяртання культурных каштоўнасцей працягвае ўвасабляцца ў абцякальныя фармулёўкі. Так, артыкул 3 падпісанага 25 сакавіка 1994 г. Пагаднення пра культурнае супрацоўніцтва між Міністэрствам культуры Украіны і Міністэрствам культуры Расійскай Федэрацыі абвяшчае: "Улічваючы тое, што ў час Другой сусветнай вайны вялікая колькасць кніг, архіўных дакументаў і іншых культурных каштоўнасцей была вывезена з Украіны, бакі, якія дамаўляюцца, *лічаць мэтазгодным* (падкрэслена мной. — *В.А.*) кантакты з ФРГ па пытаннях абмену вывезеных каштоўнасцей выконваць з улікам узаемных рэгулярных кансультацый".

Украіна панесла ці не найбольш цяжкія страты на культурным фронце і мае права быць раўнапраўным дагаворным бокам у дыпламатычных акцыях па вяртанню культурных каштоўнасцей, іх абмену, а таксама па кампенсацыі за іх страты між Расіяй і Германіяй, бо гэтыя акцыі непасрэдна датычацца нацыянальных інтарэсаў Украіны.

Пакуль што Нацыянальная камісія па пытаннях вяртання на Украіну культурных каштоўнасцей пры Кабінеце міністраў Украіны намагаецца прыступіць да рэальных акцый з Дзяржаўнай камісіяй рэстытуцыі культурных каштоўнасцей Расійскай Федэрацыі — напрыклад, падпісаць пратакол аб супрацоўніцтве.

### *Як брат з братам*

Расія выступае ініцыятарам утварэння розных міждзяржаўных, наддзяржаўных і каардынацыйных структур у СНД, якія спрыялі б інтэграцыі і супрацоўніцтву ў розных сферах — палітычнай, эканамічнай, вайсковай, але толькі не ў сферы вяртання культурных скарбаў. Як можна расцаніць адмову ўдзельнічаць у мінскай нарадзе экспертаў дзяржаў СНД у маі 1993 г., якая выпрацавала Палажэнне пра міждзяржаўную камісію па праблемах уласнасці на культурныя каштоўнасці?!

Міністр замежных спраў Расіі А.Козыраў неяк заявіў, што цяпер няма старэйшага брата, а ёсць браты-блізняты. Калі такія ўжо кроўныя адносіны, то вялікая краіна Расія магла б зрабіць напярэдадні 50-годдзя вызвалення Украіны ад фашысцкіх акупантаў высакародны жэст — вярнуць украінскія музейныя экспанаты, якія былі эвакуіраваны ў 1941 г. у глыб Расіі і засталіся там. Не гаворачы ўжо пра сімвалы казацка-гетманскай дзяржавы — атрыбуты ўлады, сілай забраныя царызмам у час страты незалежнасці

Украінай пры Пятры I і Кацярыне II. Рашэнні пра іх вяртанне былі прыняты Саўнаркомам і УЦВК яшчэ ў 1917 г. Гэта патрэбна не толькі Украіне. гэта патрэбна і Расіі, калі хочам мець сапраўдныя сяброўскія і раўнапраўныя адносіны. Такі крок для сапраўднага прызнання суверэнітэту Украіны быў бы не меней важны, чым дэ-юрэ ў дыпламатычнай практыцы.

Не апошняя роля ў выкананні норм міжнароднага права належыць маральна-этычным прынцыпам. Неяк пры вырашэнні гэтай праблемы забываецца Кодэкс прафесійнай этыкі, зацверджаны Міжнароднай радай музеяў у лістападзе 1986 г. у Буэнас-Айрэсе. У прыватнасці, у артыкуле 44 пра вяртанне культурных каштоўнасцей сказана, што "у выпадку патрабавання вярнуць іх у краіну паходжання музеі павінны быць гатовымі распачаць дыялог без усялякай перадузятасці, абапіраючыся на навуковыя і прафесійныя прынцыпы: гэтаму надаецца перавага, а не дзеянням на ўрадавым ці палітычным узроўнях".

Такі высакародны прэцэдэнт першымі далі супрацоўнікі Пермскай карціннай галерэі, якія вярнулі Кіеўскаму музею заходняга і ўсходняга мастацтва дзве карціны фламандскага і галандскага майстроў, якія былі эвакуіраваны з Украіны ў 1941 г.

Услед, спадзяемся, будуць новыя крокі.

1994 г.

*Пераклала з украінскай мовы* ***Улляна Шаставец***

*Іна Кацай, супрацоўніца Харкаўскага мастацкага музея, г. Харкаў, Украіна*

## *Лёс калекцыі Украінскай карціннай галерэі, згубленай у гады Вялікай Айчыннай вайны.*

Вялікая Айчынная вайна пакінула як на беларускай, так і на ўкраінскай зямлі глыбокую, незагойную рану. Краінам, уцягнутым у гэтую самую жорсткую ў гісторыі чалавецтва бойню, была нанесена вялізная матэрыяльная, маральная і культурная шкода. Бясследна зніклі сотні унікальных калекцый з музеяў акупаваных краін.

Панесла шмат страт і найбольш багатая на Украіне калекцыя твораў выяўленчага мастацтва — Украінская карцінная галерэя (г. Харкаў), якая налічвала каля 75 тысяч экспанатаў. Супрацоўнікі музея змаглі эвакуіраваць толькі невялікую (каля 4 тысяч экспанатаў), але лепшую частку калекцыі.

Да сённяшняга дня невядомы лёс вялікага збору карцін (142 скрынкі) з абрабаваных музеяў Кіева і Харкава, якія прызначаліся для музея "трафейнага" мастацтва ў Лінцы. У сакрэтным данясенні 4-й палітычнай групы міністэрства па справах акупаваных вабласцей рэйхсміністру А.Розэнбергу ад 14 верасня 1944 г. значылася: "...усе гэтыя фонды складаюцца з выдатных, надзвычай каштоўных твораў мастацтва з вывезеных грамадскіх украінскіх збораў, якія нават пры павярхоўным падліку ацэньваюцца ў некалькі мільёнаў. Акрамя таго, гэта адзіная на нямецкай тэрыторыі калекцыя міжнароднага значэння, важная ў этнічным і культурна-палітычным сэнсе"[1].

Такім чынам, увосень 1943 г. асноўны транспарт з музейнымі экспанатамі Кіева і Харкава быў накіраваны ў раён Кёнігсберга. "Адпраўка наяўнага матэрыялу сустрэлася з непамерна вялікімі цяжкасцямі з-за недахопу вагонаў. Але ўсё ж змаглі адправіць наступныя грузы: 24 верасня 1943 г. — матэрыялы Мастацкага музея ў Харкаве — "96 карцін украінскіх на медзі і дрэве, 25 дываноў і габеленаў", — пісаў у дакладной запісцы начальнік аператыўнага штаба Рэйхскамісарыята Украіна Уцкаль пра вываз культурных каштоўнасцей з Кіева і Харкава[2].

Так ці іначай, гэтыя "грузы" былі дастаўлены ў Кёнігсберг, дзе з лістапада 1941 г. знаходзіўся і знакаміты Бурштынавы пакой. У канцы жніўня 1944 г. тут пачаліся жорсткія паветраныя налёты. Дзве англа-амерыканскія бамбардзіроўкі, адна за другой, разбурылі Каралеўскі замак, у якім захоўваліся нарабаваныя скарбы, амаль дашчэнту. Пасля пажару ў замку калекцыі з музеяў Кіева і Харкава (разам з Бурштынавым пакоем) перамясцілі ў паўднёвае крыло будынка і апусцілі ў падвальныя памяшканні. Такім чынам, з 1944 г. лёс харкаўскай музейнай калекцыі цесна пераплёўся з лёсам Бурштынавага пакоя. За захаванасць пакінутых у Каралеўскім замку каштоўнасцей нёс адказнасць дырэктар дзяржаўных збораў твораў мастацтва ў Кёнігсбергу Альфрэд Родэ.

У верасні 1944 г. Розэнберг дакладваў начальніку штаба па палітычных пытаннях: "Вярхоўны камісар Украіны размясціў вывезеныя з Кіева і Харкава карціны і іншыя творы мастацтва ў наступных месцах Усходняй Прусіі:

1. Сядзіба Рыехау пад Белац (Вехлау).

2. Маёнтак Вільдэнгоф (уласнасць графа Шверын)[3].

---

[1] Історія застерігає. Київ, 1986. С. 219.

[2] Советская Украина в годы Великой Отечественной войны. 1941–1945. Киев. 1954. Т. 2. С. 4.

[3] Архіў Харкаўскага мастацкага музея.

За 40 кіламетраў на поўдзень ад Кёнігсберга размяшчаўся замак Вільдэнгоф, так званы "аб'ект БШ" — родавы маёнтак Берты фон Шверын. Захаваўся ліст доктара Родэ да ўладальніка замка: "Паважаны п. граф! У бліжэйшую нядзелю я мяркую прыехаць у Вільдэнгоф, каб агледзець памяшканні, прызначаныя для размяшчэння нашых карцін..."[4]

Цікава, што фронт у гэты час ужо ўшчыльную наблізіўся да Вільдэнгофа і рашэнне доктара Родэ прывезці сюды мастацкія калекцыі сведчыць пра яго імкненне захаваць іх для законных уладальнікаў. У снежні 1944 г. у Вільдэнгофскай аранжарэі былі размешчаны каля ста скрынак з музейнымі каштоўнасцямі — карцінамі і абразамі (у тым ліку выкрадзенымі ў Харкаве і Кіеве), вывезенымі з Кёнігсберга.

На пачатку студзеня 1945 г. граф Шверын разам з сям'ёй пакінуў замак, а ў другой палове студзеня замак згарэў. Ёсць звесткі, што яго падпалілі эсэсаўцы, якія папярэдне перахавалі частку скарбаў: закапалі ў наваколлі ці ўтапілі ў бліжэйшых азёрах. Альфрэд Родэ апавядаў, што "... ў замку Вільдэнгоф загінулі выдатныя карціны"[5].

У жніўні 1960 г. у замку адбыліся раскопкі. У іх удзельнічалі польскія археолагі, эксперты-крыміналісты і іншыя спецыялісты. Было знойдзена мноства пацярпелых ад часу і агню рэчаў: фарфор, сланавая косць, старадаўнія медалі, металічныя шаты абразоў. Вольфганг Родэ, сын дырэктара кёнігсбергскага музея, у 1955 г. паведаміў, што бацька казаў яму ў канцы вайны, нібы ён не баіцца прыходу рускіх, бо сумленне яго чыстае, і ён пакажа ім, дзе шукаць выкрадзеныя каштоўнасці.

І сапраўды, калі 9 красавіка 1945 г. у Кёнігсберг уварваліся чырвонаармейцы, доктар Родэ застаўся ў горадзе. Тут яго бачыў савецкі гісторык, прафесар Віктар Брусаў, які прыехаў летам 1945 г. для пошуку нацыянальных скарбаў, вывезеных гітлераўцамі з Украіны. Праз нейкі час Родэ перадаў савецкаму прадстаўніку, што хоча паведаміць яму нешта важнае. Аднак 16 снежня нейкі Эрдман даў знаць Брусаву пра раптоўную смерць Родэ і яго жонкі ад ... дызентэрыі. Аднак высветлілася, што рэчы ў кватэры Родэ перавернуты ўверх дном, труп Родэ кудысьці знік, а Эрдман — асоба выдуманая.

Як бачым, доктар Родэ прыкладаў усе намаганні, імкнучыся дапамагчы савецкім калегам. Але быў і другі чалавек, які зусім не жадаў "успомніць", дзе была захавана "яго калекцыя", — Эрых Кох. Як ужо гаварылася, частка калекцый карцін і іншых твораў мастацтва, вывезеных з Кіева і Харкава, былі змешчаны ў сядзібе Рыехау пад Вехлау.

---

[4] Энке Пауль. Янтарный кабинет // Вокруг света. 1990. № 6. С. 49.

[5] Тамсама.

22 студзеня 1945 г. савецкія войскі занялі Вехлау. 31 студзеня іх танкі выйшлі паўночна-заходней Кёнігсберга да мора і перакрылі сувязь з Пілау па сушы. Такім чынам, рэальная магчымасць выбрацца з Кёнігсберга па сушы на захад існавала: да 22 студзеня — па чыгунцы або аўтатранспартам; да 31 студзеня — тым жа шляхам праз Пілау. Калекцыя твораў мастацтва, нарабаваных Кохам на Украіне (ён называў яе: "Мая прыватная калекцыя"), была вывезена з Кёнігсберга пасля студзеньскага наступлення. Савецкай камісіі па пошуку ўкрадзеных скарбаў было вядома, што "калекцыю Коха" вывезлі на грузавіках у апошнюю стаўку Гітлера, якая знаходзілася ў Цюрынгіі. Паводле дакументаў, "калекцыя Коха" паспяхова прыбыла туды 9 лютага 1945 г.

Дык куды ж канкрэтна скіравалі "калекцыю Коха" у лютым 1945 г.? Э.Кох, які адбываў у Польшчы пажыццёвае зняволенне, ніяк "не мог успомніць", куды ж вывезлі гэтую калецыю. Але і без яго дапамогі было выяўлена месца прызначэння: Веймар!

Абставіны дастаўкі калекцыі ў Веймар, па сведчанню відавочцаў, былі некалькі незвычайныя. Транспарт са скарбамі прыбыў пад кіраўніцтвам чалавека, які не быў ні мастацтвазнаўцам, ні музейным работнікам і клапаціўся толькі пра тое, каб як мага хутчэй збыць груз. Ён адмовіўся перадаваць рэчы папрадметна, а задаволіўся толькі распіскай Вальтэра Шайдыга, дырэктара Веймарскага збору твораў мастацтва, у атрыманні ўказанай колькасці і віду пасылак — без вопісу наяўнасці. Груз абазначылі як "музейныя прадметы з Кёнігсберга", і веймарскія музейныя супрацоўнікі не мелі аніякага ўяўлення пра тое, што яны прынялі на захаванне. "Прадметы з Кёнігсберга" аднеслі ў Веймарскі зямельны музей. Дырэктар Шайдыг даручыў паклапаціцца пра прыбыўшыя рэчы двум супрацоўнікам музея, мужу і жонцы Гітчэр. У будынку не было склепаў, і таму скрынкі, чамаданы і іншае "з Кёнігсберга" паставілі ў праходзе між дзвюма заламі на ніжнім паверсе.

Наколькі легкадумна было пакідаць каштоўнасці ў цэнтры горада, засведчыў ужо наступны дзень, дакладней наступная ноч, калі пачаліся паветраныя налёты. У Веймары былі пашкоджаны многія помнікі архітэктуры і культурныя каштоўнасці. А 31 сакавіка 1945 г. паветраная міна трапіла у будынак музея.

Як жа магло здарыцца так, што да каштоўнейшай калецыі праявілі такую абыякавасць, калі меней значныя экспанаты музея былі эвакуіраваны і клапатліва схаваны ў штольныя шахты? Гэта можна вытлумачыць толькі адным: па ўсёй верагоднасці, груз з Кёнігсберга планавалася пераправіць далей, каб схаваць у надзейным месцы, магчыма — у новай стаўцы Коха ў Зальферльдзе, якая ў той час была яшчэ не гатовая. Каштоўнас-

ці, прывезеныя ў замак Рэйнхардсбрун, верагодна, павінны былі адправіць у падзямеллі або бункеры галоўнай стаўкі пры пераездзе "Вольфеструм". Але паколькі Гітлер (як і Кох) у гэтыя мясціны не з'явіўся, то скарбы затрымаліся на перавалачных пунктах.

У дачыненні да "прыватнай калецыі Коха" існуюць дакументы, якія сцвярджаюць, што 9 лютага 1945 г. Георг Рынгель разам з Альбертам Попам перадаручылі яе дырэктару збору мастацтва ў Веймары Шайдыгу. Гэта пацвярджаюць даволі дакладныя сведчанні відавочцаў. Затым — настолькі ж відавочны факт: вываз "калецыі Коха" з Веймара 9 і 10 красавіка. Але куды жа павезлі каштоўнасці?

З выяўленых дакументаў вынікае, што "калецыю Коха" меркавалася вывезці ў тры этапы, прычым на кожны этап адводзілася адна ноч. Такім чынам, Рынгель і Поп вывезлі трэцюю частку "калекцыі Коха" 9 красавіка. Другую трэць паспелі вывезці на наступны дзень — 10 красавіка, за некалькі гадзін да таго, як у горад уварваліся амерыканскія танкі. А апошняя трэць так і засталася ў Веймары. Менавіта гэтую рэшту апісваў у першыя дні мая 1945 г. дырэктар Шайдыг, менавіта гэты спіс знайшоўся пасля ў Веймарскім архіве. Самі ж каштоўнасці — рэшткі ад апошняй трэці прысвоеных Кохам рэчаў — былі знойдзены савецкім ваенным камандаваннем і вернуты ў СССР.

Але асноўная частка — дзве трэці "калецыі Коха", куды ўваходзілі і харкаўскія музейныя скарбы — не знойдзена да сённяшняга дня.

Праблема пошуку згубленых у гады вайны культурных каштоўнасцей застаецца актуальнай і сёння. Шчыра скажам, такімі пошукамі доўгі час практычна ніхто не займаўся. Тут — і "жалезная заслона", і хранічная адсутнасць сродкаў, і недастатковае вывучэнне архіўных матэрыялаў. Пошукі вяліся бессістэмна, непланамерна, без належнай навуковай і тэхнічнай базы, павярхоўна, саматужна, разрознена.

Заняцца належным чынам пошукамі згубленага стала магчымым у 1991 г. Дырэктар Харкаўскага мастацкага музея тады накіравала на радыёстанцыю "Нямецкая хваля" ліст, у якім выклала легендарную гісторыю аб тым, як адзін з палонных немцаў здаў у камендатуру знойдзеную ім карціну. Пазней карціна была перададзена дырэкцыі мастацкіх выстаў, а адтуль вернута ў музей. Пасля гэтага дырэктар музея выказала невядомаму даравальніку ўдзячнасць і звярнулася да жыхароў Германіі з просьбай расказаць аб усім, што ім вядома пра месца знаходжання экспанатаў Украінскай карціннай галерэі. У адказ 23 мая 1991 г. быў атрыманы ліст ад генеральнага дырэктара кампаніі "Нямецкая хваля" і копіі з нямецкіх газет, дзе былі апублікаваны заклікі Харкава аб дапамозе.

Праблема вяртання культурных рэліквій прадугледжвае садзейнічанне аднаўленню і папаўненню мастацкіх здабыткаў нацыі, развіццю яе духоўнага патэнцыялу. За межамі Украіны цяпер знаходзіцца значная частка помнікаў нашай матэрыяльнай і духоўнай культуры, нацыянальных рэліквій украінскага народа, якія ў розныя час і па розных прычынах апынуліся ў іншых краінах. Таму сёння трэба рыхтавацца да перамоў з краінамі-суб'ектамі міжнароднага права пра складанне новых спісаў помнікаў культуры Украіны, якія знаходзяцца за яе межамі, у першую чаргу, на тэрыторыі Расіі; пра бесперашкодны доступ нашых экспертаў і даследчыкаў да фондаў устаноў, дзе захоўваюцца нашы рэліквіі; пра вывучэнне магчымасцей рэстытуцыі, а ў асобных выпадках — мікрафільмавання, экспанавання, увядзення ў навуковы ўжытак.

Пытанне аб тым, калі будуць вернуты нацыянальныя святыні ўкраінскага народа, уключае комплекс праблем, скіраваных на адраджэнне нашай духоўнай культуры. Аднак праблема вяртання датычыцца не толькі Украіны, знаходзіцца ў цэнтры ўвагі міжнароднага грамадства.

Ужо атрыманы пэўныя вынікі ад супрацоўніцтва з урадамі Беларусі, Малдовы, Вялікабрытаніі, Германіі, Венгрыі. Перспектыўным з'яўляецца супрацоўніцтва з Польшчай, на тэрыторыі якой знаходзіцца вялікая колькасць помнікаў украінскага народа, у тым ліку унікальныя нацыянальныя рэліквіі.

Каб змяніць да лепшага стан у галіне аховы, выкарыстання, рэстаўрацыі помнікаў культуры ў нашым грамадстве, неабходны новыя метадалагічныя падыходы, адмаўленне ад ідэалагічнага дыктату, што павінна знайсці адлюстраванне ў абноўленым заканадаўстве.

*Пераклала* ***Улляна Шаставец***

*Аркадзь Тоўсцік, сакратар камісіі "Вяртанне"*

## Куды быў вывезены крыж святой Ефрасінні? (Агляд друку)

Крыж святой Ефрасінні Полацкай, шэдэўр, зроблены рукамі полацкага майстра Лазара Богшы, вялікая духоўная і матэрыяльная каштоўнасць... Вось ужо колькі дзесяцігоддзяў лёс гэтай нацыянальнай рэліквіі нумар адзін хвалюе вучоных і пісьменнікаў, вернікаў і патрыётаў Бацькаўшчыны. У пошукі ўключаюцца ўсё новыя людзі.

Як вядома, у канцы 20-х гадоў крыж быў праз Мінск перавезены з Полацка ў Магілёў, дзе яго змясцілі ў краязнаўчым музеі, што знаходзіўся тады ў былым земскім зямельным банку. У 1930 г. музей перавялі ў іншы будынак, а вызваленыя пакоі заняў абкам партыі. Праўда, крыж і іншыя каштоўнасці засталіся там, дзе былі і раней, — у браніраваных пакоях — сейфах, куды доступ мелі лічаныя людзі, у тым ліку дырэктар музея І.Мігулін. Гэта ён 22 снежня 1944 г. падпісаў акт пра шкоды, нанесеныя фашысцкімі акупантамі Магілёўскаму абласному гістарычнаму музею. Пад нумарам дзесятым у тым акце згадваўся крыж Ефрасінні Полацкай... З таго часу гэтая, "нямецкая" версія стала пашырацца, навязвацца ў друку. Аднак скептыкі слушна ставілі яе пад сумненне: Магілёў — не Брэст, адсюль можна было своечасова эвакуіраваць усе каштоўнасці.

Пачынаючы з 1990 г. многа зрабіў для высвятлення лёсу крыжа былы намеснік старшыні Магілёўскага абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры Віктар Юшкевіч. У газетах "Веснік Магілёва" і "Советская Белоруссия" ён надрукаваў тады артыкулы, дзе побач з "заходнім" следам з'явіўся і "ўсходні". Пасля публікацый прыйшло некалькі лістоў, у якіх прапаноўваліся новыя версіі. Жыхар Магілёва Кавалёў пісаў, што ён ведаў аднаго чалавека, які ў 1941 г. эвакуіраваў маёмасць пакояў-сейфаў з абкама партыі. "Карціны, абразы, золата, серабро пагрузілі ў аўтамабілі, адвезлі ў Маскву і здалі ў банк. Калі іх там прымалі па вопісу, нечакана з'явіўся Берыя. Ён ўважліва разглядаў прадметы і захоплена цокаў языком. Больш дзвюх тысяч прадметаў прывезлі".

Нядаўна ў "Весніку Магілёва" былі надрукаваны тры новыя артыкулы, якія праліваюць дадатковае святло на лёс крыжа і іншых каштоўнасцей, што захоўваліся ў пакоях-сейфах былога банка. У першым з іх ("Я не

ведаў, што дакранаўся да нямога сведкі хвалюючай таямніцы велізарнага скарбу", 29 лютага 1996 г.) В.Юшкевіч слушна ставіць пытанне, што пошукі трэба весці комплексна, улічваючы ўсю сукупнасць музейных экспанатаў (а іх былі тысячы і тысячы). Ён пераказвае яшчэ адну сваю размову з І.Мігуліным, які меў ключы ад пакояў-сейфаў, але ў 1941 г. не паклапаціўся пра лёс каштоўнасцей, звяртае ўвагу на алагічнасці ў яго тагачасных паводзінах і пазнейшых расказах і паказаннях. Але, прыходзіць аўтар да вываду, не дырэктар музея з'яўляўся тады гаспадаром сітуацыі. Таму вельмі пераканаўчай здаецца версія чытачоў "Весніка Магілёва", што эвакуацыя каштоўнасцей адбылася "пад аховай салдат НКУС".

Своеасаблівым адказам на працытаваны заклік стаў артыкул "Таямніца крыжа. Пакуль", надрукаваны ў "Весніку Магілёва" 7 і 14 сакавіка. Яго аўтар, С.Багдановіч, з'яўляецца работнікам магілёўскай службы дзяржбяспекі. Ён дзень за днём прасочвае ход магілёўскай эвакуацыі 1941 г. Паўторым найбольш істотныя моманты: 30 чэрвеня Сталін пазваніў у Магілёў Панамарэнку і санкцыянаваў эвакуацыю, 1 ліпеня пачалася арганізаваная эвакуацыя насельніцтва і каштоўнасцей у бок Касцюковіч, 2 ліпеня ў бок Чавусаў скіравалася апошняя аўтакалона, 15–16 ліпеня немцы замкнулі акружэнне горада. Такім чынам, для вывазу каштоўнасцей заставалася каля паўмесяца часу. Але І.Мігулін наўрад ці мог гэта зрабіць. Хутчэй за ўсё, вываз праходзіў пад наглядам органаў дзяржбяспекі.

С.Багдановіч грунтоўна расказвае пра сваю працяглую вандроўку "па следу НКДБ", цытуе словы былога начальніка ўпраўлення НКДБ па Магілёўскай вобласці П.Чарнышова, які згадваў вываз "каштоўнасцей з дзяржаўнага банка" (пакоі-сейфы маглі ўспрымацца як яго аддзяленне). У пачатку ліпеня 1941 г., піша аўтар, у Магілёў прыбыла з Масквы група работнікаў Наркамата дзяржбяспекі на чале з капітанам В.Пудзіным. Яна выконвала спецыяльнае даручэнне. Якое? "Можа, ім трэба было вывезці з магілёўскага сейфа скарбы, якія лічыліся прадметамі антыкварнага фонда СССР", "золатам партыі". Спецгрупа з Масквы магла абыйсціся без дапамогі мясцовых службаў. "Не выключана і такое, што супрацоўнікі групы Пудзіна, суправаджаючы каштоўны груз у аўтакалоне, не змаглі выйсці з акружэння і схавалі рэліквіі па шляху ў Расію".

Не менш грунтоўна разглядаюцца ў артыкуле і "партыйная версія", роля, якую мог пры эвакуацыі скарбаў адыграць тагачасны першы сакратар абкама партыі І.Макараў, які бываў у пакоях-сейфах і ведаў сапраўдную каштоўнасць таго, што там хавалася. Таму лагічна напрошваецца вывад, што "гістарычныя рэліквіі былі бесперашкодна вывезены работнікамі абкама". Магло гэта адбыцца 3 ліпеня, калі ў бок Лёзна адправілася аўтакалона з партыйнымі архівамі (па дарозе яе некалькі разоў бамбілі).

С.Багдановіч абвяргае версію, што беларускія каштоўнасці маглі быць выкарыстаны для расплаты па лендлізу, паколькі такой расплаты ў час вайны фактычна не было. Ды і на Захадзе яны не выявіліся. Таму нельга выключаць, што магілёўскія скарбы трапілі ў Эрмітаж або ў музейныя запаснікі "Уфы і Самары, дзе знайшлі свой прытулак у час вайны архівы абкама партыі".

"Як бы там ні было, — гаворыцца ў канцы артыкула, — шматлікія версіі, што ўзнікаюць у ходзе росшуку, дакладна правяраюцца і аналізуюцца. Дзеля актывізацыі пошуку пададзена заяўка ў Інтэрпол, з разуменнем аднеслася Генеральная пракуратура да нашай прапановы аб узбуджэнні крымінальнай справы па факту знікнення каштоўнасцей з музея. Будзем спадзявацца, што і нашы дэпутаты ў Вярхоўным Савеце зробяць канкрэтныя дзеянні па вяртанню на радзіму нашага нацыянальнага багацця".

Урэшце 25 красавіка "Веснік Магілёва" надрукаваў інтэрв'ю В.Юшкевіча з ветэранам Вялікай Айчыннай вайны жыхаром Магілёва Пятром Харытонавічам Паддубскім. Разам з двума іншымі шафёрамі ён удзельнічаў у вывазе каштоўнасцей з абкамаўскага будынка па вуліцы Ленінскай і добра памятае, што гэта было 13 ліпеня. Іх папярэдзілі, што везці давядзецца "каштоўны груз", "залатыя рэчы". Пагрузілі на машыны "скрынкі, цюкі, нешта загорнутае ў тканіну", цяжкія мяхі. У кузавах машын размясціліся ўзброеныя аўтаматамі салдаты, а ў кабіну да Паддубскага сеў сам Панамарэнка. На Маскву ехалі лявей Оршы, правей Смаленска, праз Вязьму. У Маскве ж машыны загналі ў двор (Паддубскаму здаецца, што гэта было ўпраўленне Чырвонай Арміі) і разгрузілі. На гэтым сляды скарбаў губляюцца. Разам з аўтарамі публікацый будзем спадзявацца, што далейшыя пошукі ў Маскве і іншых гарадах Расіі дадуць нарэшце рэальны плён, дапамогуць вярнуць крыж Ефрасінні Полацкай туды, дзе яму належыць быць паводле завяшчання святой.

***("Кантакты і дыялогі". 1996. № 6)***

*Сяргей Рыбчонак*

## *Дванаццаць апосталаў**

Тэма гэтага артыкула — славутыя скарбы Радзівілаў, іх ахутаны таямніцамі лёс, а таксама разрабаваньне Нясьвіскага замка ў 1812 годзе.

* Рэдкалегія пакідае правапіс паводле першакрыніцы

### *Крыху гістарыяграфіі*

Спэцыяльнага дасьледаваньня гэтай праблемы не было наогул: у друкаваных крыніцах маюцца толькі згадкі, пра якія трэба сказаць больш падрабязна.

Спачатку пра апосталаў. Толькі нямногія сьведкі пакінулі іх апісаньне. А.Чартарыйскі, які на пачатку XIX ст. быў міністрам замежных спраў Расейскай імпэрыі, згадваў "багаты замак у Нясьвіжы. У 18 залях адных толькі ўпрыгожваньняў сабралася на 5 альбо 10 мільёнаў дукатаў. Каштоўныя калекцыі зброі, кніг, брыльянтаў. Але няма нічога больш дарагога за калекцыю "12 апосталаў", 5 зь іх чыстага золата і ўсыпаныя каштоўнымі камянямі". Падобнае апісаньне даў і расейскі пасол у Польшчы Рапнін, які разам з каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім гасьцяваў у Нясьвіжы ў 1784 г. Пазьнейшыя дасьледнікі скульптураў ня бачылі, таму іх сьведчаньні розьняцца ў велічыні, матэрыяле й іншых дэталях.

Шмат хто з гісторыкаў спрабаваў адказаць на другое пытанне: куды й калі апосталы разам зь іншымі скарбамі зьніклі? Арыенцірам тут павінны былі стаць словы Мірковіча пра тое, што "яны (гарматы. — *С.Р.*) і цяпер ляжаць у склепе, дзе ў таямніцы хаваліся скарбы, разрабаваныя атрадам Тучкова"[1].

Першым сур'ёзным дасьледнікам стаў Ул.Сыракомля. Спачатку ён напісаў разьдзел пра гісторыю Нясьвіжа ў "Старажытнай Польшчы", дзе згадаў калекцыю апосталаў, а пазьней, папрацаваўшы ў нясьвіжскім архіве Радзівілаў, выдаў "Вандроўкі па маіх былых аколіцах", дзе, на жаль, не адзначыў, хто і як разрабаваў замак.

У 1855 г. П.Шпілеўскі таксама запісаў нясьвіскія паданьні, але зрабіў гэта некрытычна: скульптуры ў яго набылі натуральную велічыню, а зьвесткі пра разрабаваньне замка наогул зьніклі.

Адам Кіркор, аўтар артыкула ў "Живописной России", якую выдаў П.М.Сямёнаў-Цяньшаньскі, нагадаў пра ўдзел расейскіх войскаў у разрабаваньні Нясьвіжа. Але В.П.Сямёнаў-малодшы, адмовіўшыся ад крытычнасьці Кіркора і амаль дакладна перапісаўшы Шпілеўскага, стаў наступным міфатворцам.

Пасьля рэвалюцыі гэты міф працягваў разьвівацца. Пакуль В.Чантурыя нарэшце не паведаміў цывілізаванаму сьвету, што Нясьвіж разрабавалі фашысты. Польскія навукоўцы (Б.Таўрагінскі) тымчасам, не ўдакладняючы дэталяў, пісалі аб разрабаваньні скарбаў у 1812 г. расейскімі войскамі.

---

[1] Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980. С. 257.

Сёньняшнюю інтэрпрэтацыю старога міфу ў сваёй папулярнай, хоць і ня вельмі дакладнай рабоце "Скарбы Нясвіжа" дае К.Шышыгіна. Напэўна, ёсць сэнс нагадаць яго зьмест.

Апошні нясьвіскі ардынат князь Дамінік Радзівіл прыняў удзел у паходзе Напалеона на Маскву. На зваротным шляху ён заехаў у замак і дамовіўся з дазорцам, дзе схаваць скарбніцу. Усё астатняе багацьце Дамінік загадаў пагрузіць на фурманкі й адправіць за ім усьлед. Але тут у Нясьвіж уступілі расейскія войскі пад кіраўніцтвам адмірала Чычагава, і... фурманкі адправілі на Маскву. Дазорца Бургельскі паслаў да князя ганца, якога злавілі каля Міра й расстралялі. Зь ліста быццам бы даведаліся, што скарбніца схаваная, як дамоўлена. Дазорца не адкрыў схову й быў павешаны на браме. Сам Дамінік, сьмяротна паранены, у хуткім часе памёр. Але скарб да сёньня так і не знайшлі.

### *Навошта Радзівіл прадаў аднаго Апостала?*

Склад радавой скарбніцы Радзівілаў на працягу часу мяняўся, таму найбольш поўны рэестар мог быць створаны толькі ў самым пачатку XIX ст. І такія дакумэнты знайшліся ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь.

На загад князя Дамініка 1 снежня 1808 г. была распачатая рэвізія скарбніцы, якую скончылі ў красавіку 1809 г. Гэтая праца праводзілася для перазахаваньня калекцыі, а таксама для праверкі наяўнасьці й азнаямленьня ўладальніка з каштоўнасьцямі. Рэвізоры перагледзелі кожную рэч з дванаццаці пакаў і старанна занатавалі ўсё, што лічылі патрэбным: зброя, напрыклад, патрабавала чысткі ад іржы, мінэралы й іншыя прыродазнаўчыя прадметы перадаваліся ў бібліятэку і г.д.

Найбольшую цікавасць для нас мае частка калекцыі пад назвай "Цы(м)борыюм Сьвятога Міхала". Цыборыюм (у праваслаўнай традыцыі ківор) — асобнае збудаваньне ў храме для ахвяраваньняў, у нашым выпадку, напэўна, надбудова над алтаром ці сам алтар. Як сьведчыць дакумэнт, у калекцыі меліся срэбныя дзьверцы да гэтага цыборыюму, а таксама "фігуры для дэкарацый тых жа дзьвярэй належныя срэбныя пазалочаныя, а менавіта Хрыстос з Сьв.Янам, на плячы яго заснулым, у палову фігуры. Частка шаты таго ж сьвятога Яна, два апосталы, што сядзяць у поўных фігурах у шатах пазалочаных, два апосталы па грудзі з шатамі пазалочанымі, тры галавы апосталаў з часткай шаты пазалочанай і галоўка срэбная Юды — усіх адзінаццаць штук".

Выходзіць, так званыя апосталы не былі асобнымі скульптурамі, як меркавалі дасьледнікі, а складаліся ў кампазыцыю на дзьвярах, якія, у сваю чаргу, упрыгожвалі цыборыюм. Таксама адназначна вырашаецца пытанне

выкарыстанага матэрыялу — срэбра й пазалота для адзеньня. Праблема велічыні апосталаў застаецца пакуль адкрытай, але можна дапусьціць, што найбольшыя зь іх былі даўжынёй у адзін-два локці. Дарэчы, У.Сыракомля таксама згадваў такія памеры.

Найбольш спрэчная праблема часу й месца паходжаньня апосталаў. Невядома, адкуль К.Шышыгіна ўзяла фантастычныя зьвесткі пра іх зьяўленьне ў пачатку XVII ст. з Канстанцінопаля. Сам разьдзел калекцыі, у які запісаныя фігуры, сьведчыць, што раней іх гаспадаром мог быць толькі касьцёл Сьв.Міхала ў Нясьвіжы, або навіцыят езуітаў пры ім. Трапіць да Радзівілаў яны маглі не раней, чым пасьля скасаваньня езуіцкага ордэну ў Рэчы Паспалітай, г.зн. у 1773 г., або наогул у 1786 г., калі, як сьведчыць Б.Таўрагінскі, касьцёл і кляштар былі зачыненыя й пératвораныя ў шпіталь. Сам касьцёл Сьв.Міхала быў збудаваны ў 1584–93 гг., навіцыят езуітаў пры ім адкрыўся ў пач. 17 ст., а ў 1736–38 гг. Міхал-Казімер Радзівіл (Рыбанька) нанова збудаваў і ўпрыгожыў храм. Менавіта тады, на нашу думку, і быў зроблены ўвесь цыборыюм, у тым ліку скульптуры апосталаў.

Гэтую версію, як і мясцовае паходжаньне скульптураў, падмацоўвае аналіз калекцыі, бо ня толькі цыборыюм трапіў да Радзівіла, але й іншыя касьцельныя рэчы. Напрыклад, “Абраз (у арыгінале Votum) чвартковы з выявай Сьв.Міхала ад Калегіюма Нясьвіскага Калегіюму Сьв.Міхала даны ў 1706 г.”Сустракаюцца яшчэ падарункі ад Радзівілаў, Сакалінскага, Абуховіча, Гансеўскага і іншых у 1596–1761 гг. Таму лягічна дапусьціць, што цыборыюм, які складаўся больш чым з 40 асобных прадметаў, пераважна з срэбра, ня можа ўваходзіць у іх лік. А гэта пацьвярджае, што калекцыя славутых апосталаў была зробленая ў 1720–30-я гг. у Нясьвіжы.

Прабачце, — скажа ўважлівы чытач, — усе дасьледнікі пішуць пра 12 фігур, а ў сьпісе іх пазначана толькі 11. У сувязі з гэтым можна выказаць два меркаваньні. У крыніцах ёсьць згадкі, што Пане Каханку вазіў калекцыю з сабой і пры патрэбе грошаў раз-пораз закладваў Сьв.Мацея ці Луку. Але цяжка паверыць. што ён забыўся кагосьці выкупіць. Хутчэй за ўсё, адна фігура (пашкоджаная) была пераплаўленая на срэбра: у дакумэнтах, напрыклад, ёсьць падобны загад князя Дамініка ад 17 лютага 1809 г. Невядома таксама, куды падзеліся і 4 евангелісты, пра якіх пісаў У.Сыракомля, бо знайсьці іх у рэестры нам не пашанцавала.

### *Як Бургельскі стаў нягоднікам, а генэрал Тучкоў – злодзеем?*

Цяжка паверыць, што амаль усе дасьледнікі XIX ст., якія працавалі з архівам Радзівілаў, не глядзелі дакумэнтаў пра разрабаваньне замка ў 1812 г. Але вельмі падобна на тое. Апроч хіба У.Сыракомлі, які, напэўна, спадзяваўся вярнуцца да гісторыі Нясьвіжа больш грунтоўна, ды Адама Кір-

кора, які згадаў адным сказам: "...Скарбы разрабаваныя войскамі Чычагава ў 1812 г."

Пачатак XIX ст. стаў для Беларусі чарговым выпрабаваньнем. Паверыўшы генію Напалеона й ідэям францускай рэвалюцыі, шляхцюкі кінуліся аднаўляць незалежнасьць Бацькаўшчыны. Малады й гарачы ўладальнік Нясьвіжа князь Дамінік таксама пайшоў на Маскву, нават сфармаваў на ўласныя грошы асобны уланскі полк. На зваротным шляху ён, напэўна, заехаў у Нясьвіж, але наўрад ці збіраўся ўзяць радавыя багацьці з сабой. А ужо 30 кастрычніка ў горад увайшоў корпус Тучкова з малдаўскай арміі Чычагава. Далейшыя падзеі лепш за ўсё пераказаць паводле рапарту тагачаснага дазорцы замку Альбэрта Бургельскага, якога расейцы, на жаль, не павесілі на браме.

Пачуўшы ад мясцовых жыдоў, што Радзівілы хаваюць вялікія скарбы, уланскі палкоўнік Кнорынг заявіўся ў замак, адабраў у дазорцы ключы й пасадзіў Бургельскага за краты. Праз некалькі дзён прыехаў Тучкоў і ўчыніў дазорцу допыт. Спачатку ўгаворвалі словамі, а пасьля зьбілі на яго вачох бізунамі й палкамі некалькіх служкаў, пагражаючы зрабіць тое самае з Бургельскім. Той спалохаўся (але не забыўся выпатрабаваць у Тучкова паперу аб прымусе адкрыць схованкі) і паказаў, дзе знаходзіцца лёх. Тучкоў загадаў разламаць мураваную сьцяну, убачыў велізарнае багацьце й хацеў прысвоіць. Тым часам навіна дайшла да Чычагава. Адмірал адабраў у Тучкова ключы, стварыў з вышэйшых афіцэраў камісію й загадаў забіраць скарбы. Забіралі ўсё, у тым ліку, як піша Бургельскі, "серебро и золото в разных особенных штуках..." Каштоўнасьці былі складзены на некалькі дзясяткаў брычак, якія Чычагаў забраў з сабою. Тое, што пакінулі, яшчэ тры дні разьбіралі войска й мясцовыя жыды.

З снежня сквапны Тучкоў са сваім корпусам зноў завярнуў да Нясьвіжа, зноў пасадзіў Бургельскага за краты й загадаў не даваць яму есьці, пакуль апошні не пакажа яшчэ схованкі. Дзякуй Богу, што ў генэрала хапіла розуму не замарыць голадам адзінага сьведку! Затое ён забраў апошняе, што заставалася. У цэлым, паводле падлікаў дазорцы, шкоды ў адным замку было нанесена мінімум на 10 мільёнаў польскіх злотых[2].

Вось як скончылася наша скарбашукальніцтва. Адзіны, напэўна, станоўчы вынік — гэта спадзяваньне, што нясьвіжцы больш ня будуць перакопваць свой горад, зьнішчаючы рэшткі культурных пластоў.

### *Пасьляслоўе*

Бургельскі пражыў яшчэ 13 гадоў. Паводле яго рапарту ад 5 студзеня 1813 г., над рабаўнікамі пачалася крымінальная справа. Загадам фэльдмар-

[2] НА РБ, ф.694, воп.4, спр. 5230, арк. 2–6.

шала Кутузава Тучкоў быў вызвалены ад пасады й апынуўся пад сьледзтвам. Разбор зацягнуўся аж да 1826 г., пакуль Аўдытарыяцкі Дэпартамент ня вынес канчатковую канфірмацыю: "...генерал-майор Тучков ни в каких злоупотреблениях или покорыствованиях не доказан..."[3]

Тым часам у 1822 г. улады сканфіскавалі ў Бургельскага куфар срэбра (напэўна, з рэшткаў скарбніцы), які пералічылі на ўплату радзівілаўскіх даўгоў. Спадчыньніца роду княжна Стэфанія Вітгенштэйн таксама выклікала былога дазорцу ў суд, але справа цягнулася больш за 10 гадоў і скончылася безвынікова.

Што да скарбаў, дык іх лёс склаўся, напэўна, так. Адмірал Чычагаў перадаў скарб імпэратару Аляксандру I [4]. Каштоўнасьці захоўваліся ў Расеі да пачатку XX ст., пакуль Марыя дэ Кастэляні, удава князя Антона Радзівіла, не папрасіла ў 1905 г. аб іх звароце імпэратара Мікалая II [5]. У некаторых крыніцах нават адзначаецца, што ёй нешта вярнулі, але сёньня толькі адныя Радзівілы ведаюць, што менавіта. Лягічна таксама дапусьціць, што нешта скраў Чычагаў, які пасьля адстаўкі хуценька зьбег у Францыю і да сваёй сьмерці ў 1849 г. так і не зьявіўся на радзіме.

Нам жа застаецца толькі верыць, што прыйдзе некалі час, і скарбы вернуцца, як вяртаюцца ў нашу гісторыю князі Радзівілы.

***("Наша Ніва". 1994. № 7)***

---

[3] Александров Г.Н. Черты из жизни Сергея Александровича Тучкова // Рус. архив. СПб., 1874. Кн. 1. С. 1143–1145.

[4] Попов А.Н. Отечественная война // Рус. старина. 1877. № 9. С. 70.

[5] НА РБ, ф. 694, воп. 4, спр. 5230, арк. 2–6.

*Мая Яніцкая*

## *Што напаткала "Сапяжанскі збор"*

Мінулы раз мы гаварылі пра драматычны лёс каштоўнасцяў Нясвіжскага замка. Сёння хачу прыгадаць не менш драматычны лёс каштоўнасцяў, вывезеных з Дзярэчынскага палаца князёў роду Сапегаў, што вядомы ў гісторыі як "Сапяжанскі збор". Сапегі збіралі яго з XVI ст., як і Радзівілы.

Сапегі — другі па гістарычнай значнасці (пасля Радзівілаў) магнацкі род Беларусі, які паходзіць з полацкіх баяраў. Княжацкі тытул яны атры-

малі ў XVII ст.[1] Менавіта выхадцы з гэтага роду разумелі, што яны — прадстаўнікі іншага ад палякаў і рускіх этнасу, які павінен мець незалежную ад Польшчы і Масковіі дзяржаву. Таму з 1680 да 1700 года яны спрабавалі нават стварыць самастойную дзяржаву са сваёй дынастыяй, але іншыя шляхецкія роды іх ідэю не падтрымалі. У 1915–1918 гадах яны зноў намагаліся ўзначаліць так званую Літоўска-Беларускую дзяржаву, каб Беларусь не ўвайшла ні ў склад Польшчы, ні ў склад Расіі, але зноў марна. Беларусі наканавана было апынуцца ў складзе новай паводле формы Расійскай імперыі, але ўжо на новай сацыяльна-палітычнай аснове — у складзе СССР. Пасля выезду ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Заходнюю Еўропу, нашчадкі Сапегаў працягвалі падтрымліваць беларускі эміграцкі рух.

Дык вось гэтыя Сапегі, як і Радзівілы, пачынаючы з XVI ст., збіралі ўласныя мастацкія зборы, скарбніцу і збраёўню, бібліятэку і ўласны архіў у сваім Ружанскім палацы, велічныя руіны якога можна агледзець яшчэ і сёння. У час падарожжаў па Заходняй Еўропе яны набывалі шмат твораў жывапісу і скульптуры, а таксама дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Сярод апошніх вялікую каштоўнасць мелі творы пачатку XVI ст. — залаты кубак з гербамі князёў Шуйскіх і два кубкі з горнага крышталю, названыя чыста па-беларуску — "Іван і Іваніха", накшталт таго як называюцца танцоры ў народным беларускім танцы — "Лявон і Лявоніха". Кубкі былі зроблены ў 1519 г. па замове ў памяць памерлага Івана Сапегі, віцебскага ваяводы, і яго жонкі.

Сапегаўская скарбніца змяшчала, апроч згаданых сямейных рэліквіяў, першакласную збрую і зброю, тарчы (шчыты) — амуніцыю сярэдневяковых воінаў, розныя ваенныя трафеі, напрыклад харугвы і бунчукі, здабытыя ў туркаў і шведаў, а таксама выдатныя дываны, шатры і макаткі.

Якраз таму, што многія з Сапегаў былі ваяводамі і гетманамі, яны калекцыянавалі зброю, конскую збрую і розную ваенную амуніцыю значнай мастацкай вартасці. Маюцца на ўвазе харугвы, шатры, багата аздобленыя апоны для пакрыцця коней. Апрача згаданай калекцыі старажытных мастацкіх тканін, у Сапежанскім зборы знаходзілася серыя французскіх габеленаў, прысвечаных Аляксандру Вялікаму, вытканых па кардонах Лебруна, і больш за 20 французскіх габеленаў іншых мастакоў[2]. Гонар збору надавалі 48 экземпляраў вельмі рэдкіх мазаічных карцін, 5 этрускіх вазаў, шмат мармуровых і бронзавых скульптурных фігур, партрэтаў і барэльефаў.

---

[1] Kognowicki M. Życie Sapiehów. Warszawa, 1791. T. III; Morelowski M. Dereczyńskie zbiory Sapiehów // Sprawozdania o działalnosci i posiedzeniach Polskiej Akademii Nauk. 1924. Nr. 29.

[2] Старые годы. 1913. № 11. С. 49.

мастацкія бронза, шкло і мэбля, калекцыя заходнееўрапейскага жывапісу і жывапісныя работы мясцовых мастакоў.

Асабліва павялічыў ружанска-дзярэчынскія зборы Францішак Сапега, які ў выніку шлюбу ў 1793 г. з дачкой Шчаснага-Патоцкага атрымаў шмат твораў мастацтва, у тым ліку і габеленаў. Ды і сам ён набыў галерэю заходнееўрапейскага жывапісу знакамітых мастакоў у час сваіх падарожжаў па Еўропе. На рубяжы XVIII–XIX стст. Сапегі перавезлі ўсе свае лепшыя зборы ў свой новы палац, пабудаваны ў Дзярэчыне ў 1786 г.

Пасля нацыянальна-вызваленчага паўстання 1830 г. усю маёмасць Сапегаў расійскія ўлады канфіскавалі.

Частку мастацкага збору з Дзярэчынскага палаца перавезлі ў Беластоцкі палац, які раней належаў гетману Браніцкаму, але пасля 1795 г., г.зн. трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, палац Браніцкіх быў канфіскаваны і лічыўся царскай рэзідэнцыяй на ўскраіне Расіі. Там дзярэчынскі збор доўга не затрымалі. Пасля прыстасавання Беластоцкага палаца пад расійскі настаўніцкі інстытут (1836–1847 гг.) расійскія ўлады адправілі дзярэчынскія скарбы ў Пецярбург і Царскае Сяло, прыхапіўшы пры гэтым і мастацкія каштоўнасці Я.К.Браніцкага. У гэты ж час яны вывезлі беластоцкія паркавыя статуі і ўстанавілі іх у Летнім садзе Пецярбурга.

Гродзенская скарбавая палата пераслала ўладам Пецярбурга спісы канфіскаваных збораў з Дзярэчынскага палаца на 70 старонках уборыстага тэксту. На 22 з іх быў пералік жывапісных твораў. Гаворка ішла пра 287 карцін (пераважна буйных палотнаў) вядомых заходнееўрапейскіх мастакоў. Сярод іх былі творы Саламона і Якуба Рэйсдаляў, Ф.Франчыю, П.Веранэзе, Д.Кала, К.Ж.Вернэ, Війка, Пінакера, І.Хагерта, Бургіньёна, Рамбоўста, Вэнікса, Г.Мэтсю, Нэтшэра, Ван дэр Нэера, Асэліна, Ван дэр Мэера, А.ван Астадэ, Вуверманса, дэ Вліегера, П.Потэра, Мерыса, Дзітрыха.

Сярод больш вядомых дзярэчынскіх карцін, што трапілі ў Эрмітаж, варта прыгадаць славутую эрмітажную "Мадонну" Ф.Франчыю, "Герчына" Г.Ф.Барб'еры, "Чарадзея і чарадзейку" П'ера дэль Вэкіо і інш.

Акрамя таго былі канфіскаваны партрэты: Яна III, Марысенькі, Аўгуста II, Фрыдрыха II, два каштоўныя партрэты — Ф.Патоцкага і яго жонкі Соф'і. 185 карцін і 48 мазаічных кампазіцый перавезлі ў Эрмітаж, 55 — у Імператарскую акадэмію мастацтваў; 72 карціны ў 1917 г. аказаліся ў Гатчынскім палацы (пад Петраградам). 5 партрэтаў Мікалай I загадаў спаліць — менавіта тых дзеячаў Вялікага княства Літоўскага, якіх лічыў "польскалітоўскімі патрыётамі". Некалькі партрэтаў пазней ужо вярнуў Сапегам Аляксандр II. У Эрмітаж трапілі і 22 дзярэчынскія мармуровыя скульптуры, у тым ліку 10 міфалагічных постацяў вялікіх памераў, такіх, як "Арфей" работы Кановы, "Ганімед" і інш., а таксама некалькі бюстаў знакамі-

тых гістарычных дзеячаў старажытнасці, пераважна мармуровых, частка была бронзавых.

Мастацкія вырабы з серабра трапілі ў музей старажытнасцяў пры Пецярбургскім манетным двары, які ў 1824 г. падначалілі Эрмітажу, прычым спіс гэтых вырабаў размясціўся на 18 старонках. Адначасова былі перададзены вельмі каштоўныя калекцыі мастацкага шкла, мэблі і калекцыя графічных твораў у выглядзе эстампаў з карцін заходнееўрапейскіх мастакоў, альбомы па мастацтву і архітэктуры, выдадзеныя ў Заходняй Еўропе рэдкія кнігі і карты; планы гарадоў, а таксама чарцяжы розных тэхнічных прыстасаванняў; архіў з 287 кодэксаў, якія ўтрымлівалі старажытныя дакументы роду Сапегаў, пераплеценыя як кнігі, у дыхтоўныя вокладкі. Кодэксы падзялілі паміж Міністэрствам замежных спраў і Публічнай бібліятэкай ў Пецярбургу. Між іншым, 87 такіх кодэксаў усё ж засталося ў Гродне, пазней іх перадалі ў Бібліятэку Віленскага універсітэта. Менавіта ў пецярбургскіх сховішчах засталася частка архіва, што мае каштоўную для Беларусі навуковую інфармацыю пра ткацкую, дывановую і карэтную мануфактуры Сапегаў, якія дзейнічалі ў XVIII ст. у Ружанах. Дзейнасць гэтых мануфактур пакуль не вывучана з-за адсутнасці архіваў.

Трэба адзначыць, што былі канфіскаваны і каштоўнасці Сапегаў, якія яны схавалі ў маёнтку Юндзілавічы. Каб дазнацца, дзе яшчэ былі схаваны каштоўнасці, асабліва сапегаўскі скарбец, расійцы нават катавалі ўпраўляючага Дзярэчынскім палацам. Дарэчы, катаванне прымянілі і да ўпраўляючага Нясвіжскім палацам Бургельскага. Гэты факт стаў вядомы пасля суда над упраўляючым.

Увогуле “Сапяжанскі збор” каштоўнасцяў значна ўзбагаціў царскія зборы ў Пецярбургу і Маскве.

Пасля Рыжскага мірнага дагавора 1921 г., да ўдзелу ў якім урад БССР Расія не дапусціла, да палякаў адышла заходняя частка Беларусі, і яны вялі з СССР пастаянныя перамовы аб перадачы Польшчы сапегаўскіх каштоўнасцяў. Частку гэтага збору, які належыць усё ж Беларусі, СССР перадаў Польшчы на працягу 1928–1930 гадоў. Спіс перададзенага Польшчы трэба даследаваць, каб ведаць, што яшчэ засталося ў Расіі.

Прэтэндуюць на гэты збор і літоўцы, якія шмат беларускіх каштоўнасцяў атрымалі ад СССР у пасляваенны час (жывапісныя творы, якія да 1842 г. былі ў лагойскім музеі Тышкевічаў, а таксама ўрэцка-налібоцкае шкло, выробленае ў XVIII ст. на мануфактурах Беларусі, слуцкія паясы і шмат іншых твораў).

Значная частка “Сапяжанскага збору” яшчэ знаходзіцца ва ўстановах Расіі, і яе трэба шукаць, каб вярнуць на месца іх збірання хоць рэшту.

Увогуле ўсе ўрады — капіталістычныя і сацыялістычныя, Польшчы і Літвы XX ст. заўжды надавалі дзяржаўнае значэнне вяртанню каштоўнасцяў, часам нават чужых пад выглядам сваіх.

Шкада, што ні ўрад БССР, ні сучасныя ўрады (ужо незалежнай Рэспублікі Беларусь) не лічаць гэту справу дзяржаўнай, карыснай і патрэбнай.

***(“Мастацтва”. 1996. № 3.)***

*Галина Кнатько, Сергей Крапивин*

## Воры из шайки Розенберга

В Национальном архиве Республики Беларусь исследуется переписка оперативного штаба рейхсминистра оккупированных восточных территорий А.Розенберга, касающаяся “культурных” трофеев гитлеровской Германии

Летом 1943 года оберлейтенант 691-й пропагандистской роты 24-го армейского танкового корпуса вермахта Эрнст Мориц Арндт квартировал в г. Бреслау [...] Под его началом находилась партия произведений искусства, похищенных в СССР [...]

Для того, чтобы современный читатель получил представление об особой военной структуре немецких нацистов, в которой действовали тысячи специалистов по “культурному” грабежу, необходима краткая историческая справка. Вывоз исторических и художественных ценностей из стран Восточной Европы являлся частью оккупационной политики Германии в годы Второй мировой войны. Назначенный летом 1941 года рейхсминистром оккупированных земель, А.Розенберг занимался вопросами использования в интересах Германии огромных пространств. Его ведомство состояло из черырех Главных отделов (здесь и далее система обозначений максимально приближена к немецкому оригиналу): I — политики, II — управления. III — хозяйства и IV — техники. Ответственность за изучение и сохранение изъятых на оккупированной территории ценностей искусства, научных произведений и культурных коллекций особым приказом Гитлера возлагалась на оперативный штаб Розенберга.

Штабу, располагавшемуся в Берлине, подчинялись Главные рабочие группы, которые, в свою очередь, руководили более мелкими рабочими группами, закрепленными за определенной территорией. Их деятельность регламентировалась служебными инструкциями.

Инструкция, датированная 27 ноября 1941 года, предписывала "обработку":

а) всех видов библиотек; б) канцелярий и архивов церковных учреждений и конфессиональных объединений; в) всех организаций коммунистической партии и "ее ответвлений" (например, Союза безбожников): г) всех видов школ; д) институтов научно-культурного характера; е) музеев всех типов; ж) издательств, редакций и организаций книжной торговли: з) киностудий и кинопроката; и) архивов различных коммунальных учреждений; к) прочих архивов; л) учреждений и ведомств различных международных союзов; м) существовавших в Советском Союзе учреждений зарубежных пропагандистских организаций, деятельность которых была направлена против рейха; н) центров подпольных антисоветских организаций, которые с точки зрения нацистов могли представлять интерес.

Коммунальные службы на местах сразу после оккупации обязаны были предоставить рабочим группам ведомства Розенберга перечни интересующих их учреждений. Ревизия культурных ценностей начиналась с того, что входы и выходы в помещениях опечатывались, на дверях вывешивались объявления: "Конфисковано и взято под охрану по заданию рейхскомиссариата". Собранный материал сортировался по трем группам: подлежащих уничтожению, возвращению или отправке в рейх. Затем рабочая группа составляла перечень конфискованных культурных ценностей и после решения рейхскомиссара следила за их отгрузкой в Германию.

Подчиненные Розенберга поддерживали постоянный контакт с другими ведомствами, решавшими аналогичные задачи, — министерством иностранных дел, организацией СС, армейской экономической инспекцией, отделами и звеньями службы пропаганды вермахта.

К последним относилась и рота, в которой служил оберлейтенант Арндт. Его имя сохранилось для истории благодаря переписке между ведомством Розенберга и главным командованием вермахта.

[...] А вот — некая фройляйн Хаупт, именовавшаяся "доктором".

В 1943 году в Берлине на Маргаретенштрассе, 17 размещался отдел научно-культурных ценностей доисторического и раннего периодов, который относился все к тому же Восточному министерству Розенберга. Отсюда 20 марта 1944 года профессор Райнерт послал в Минск радиограмму начальнику штаба Главной рабочей группы "Центр" Лангкопфу:

Прошу вашей помощи в немедленной отправке ценностей государственного музея в г. Минске. Ответственной за отправку назначается д-р Хаупт.

23 марта 1943 года на Маргаретенштрассе получили ответ из Минска. Лангкопф сообщал:

Ценности государственного музея г.Минска 24.3.1944 г. будут отгружены в Инстенбург, так как между генеральным комиссаром и городом Инстенбург велись переговоры и заключен договор о размещении и хранении доставленных музейных ценностей.

Поскольку все мероприятия по отгрузке музейных ценностей идут полным ходом, отгрузка их в г. Хёхштедт из Минска уже невозможна. Рекомендую в случае необходимости повлиять на г-на Гронау.

Месяцем позже Лангкопф сообщал в Берлин возглавлявшему "особый штаб древней истории" доктору Вернеру Хюлле:

Благодарю за ваше письмо от 20.4.1944 г. За это время все материалы из Минска, всего 4 вагона, отправлены в г. Хёхштедт через г. Инстенбург. Я надеюсь, что отправленные музейные ценности прибыли в хорошем состоянии.

Этим самым работа профессора Хаупт закончена, и в ближайшие дни она выедет в Главную рабочую группу "Центр" в г. Слоним для вывоза ценностей местного креведческого музея.

24 апреля доктор Хюлле телеграфировал Лангкопфу из Берлина в Минск:

Дорогой член партии Лангкопф! От руководства штаба Главного отдела-II сегодня я получил копию вашего письма по вопросу отправки музейных ценностей из г.Минска и направляю вам следующее сообщение:

Три вагона музейных ценностей уже прибыли в Хёхштедт. Указание генеральному комиссару отправить туда же и остальные вагоны с музейными ценностями уже направлено Восточным министерством. Я надеюсь, что генеральный комиссар выполнит и это указание министра. Как только этот вопрос будет разрешен, мы дадим второе задание, чтобы дальнейшие работы по отправке осуществлялись под руководством фройляйн д-ра Хаупт, которая благодаря вам проделала плодотворную работу в Минске.

Это был конец апреля 1944 года. Советские войска на протяжении осени 1943 и зимы 1944 годов изгнали немцев из 40 районных центров республики. В марте в Гомель перебрались из эвакуации советские руководящие органы — ЦК КП(б)Б, Совнарком и Верховный Совет. Советская власть была восстановлена в 36 районах. В Генеральном штабе Красной Армии шла интенсивная подготовка к летней наступательной операции.

Германские правящие круги, безусловно, учитывали возможные последствия наступления. В это же время в рядах белорусской коллаборации царила эйфория. В декабре 1943 года генеральный комиссар Курт фон Готберг пошел на создание Белорусской центральной рады и введение должности президента БЦР, в марте 1944-го началось создание Белорусской

краевой обороны. Первого апреля 1944 года Гитлер подписал указ о выделении Генерального округа Белоруссия из Остланда, появилась иллюзия грядущей независимости. Вместе с Готбергом обсуждался вопрос о белорусском гербе, велась работа по подготовке "всебелорусского конгресса", пошла новая волна антибольшевистских митингов.

А в это время оперативный штаб Розенберга через свою рабочую группу в Минске согласовал с Готбергом вопросы вывоза культурных и исторических ценностей из Минска и других городов. Ученая фройляйн Хаупт успешно отправляла эшелоны на запад.

К началу Белорусской наступательной операции Красной Армии музеи, библиотеки, архивы, другие хранилища культурных ценностей республики были ограблены профессионально, со знанием дела. Чрезвычайная государственная комиссия по выявлению и расследованию преступлений немецко-фашистских захватчиков и их соучастников определила, что Беларусь потеряла за годы оккупации более половины национального богатства.

Потребовались долгие годы и труд многих людей, чтобы отыскать и вернуть лишь некоторую часть похищенного.

***("Народая газета". 1995. 8–10 ліп. Друкуецца са скарачэннямі)***

*Адам Мальдзіс*

## Пра лёс архіва Канстанціна Езавітава

Неяк (дату не зафіксаваў — каюся) у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі праходзіла сустрэча з Паўлінай Мядзёлка. Чалавек-легенда, славутая выканаўца ролі Купалавай Паўлінкі, яна доўга распытвала мяне пра архіўныя пошукі невядомых твораў беларускай літаратуры, а потым таямніча шапнула:

— Вось крыху пацяплее — і мы з вамі паедзем разам у Рыгу, на Рыжскае ўзмор'е, шукаць частку бібліятэкі Езавітава. Усяго адзін чамадан. Але там павінны быць рукапісы нашых класікаў. Проста так, аднаму вам не аддадуць. Таму трэба дзейнічаць праз людзей, з якімі я пазнаёмілася, жывучы ў Латвіі.

А потым я высветліў, што прозвішча беларускага грамадскага дзеяча, пісьменніка, выдаўца, бібліяфіла Канстанціна Езавітава можна згадваць ў друку толькі з адмоўнай характарыстыкай, бо ён адступіў з немцамі ў Гер-

манію, фармаваў у Берліне беларускія ўзброеныя сілы, быў арыштаваны контрразведкай, перавезены ў Мінск, дзе і памёр у турэмным шпіталі ад пабояў ці ад "туберкулёзу", як сказана ў афіцыйнай даведцы. Даведаўся пра самае істотнае для мяне: Езавітаў меў аўтографы трох вершаў Максіма Багдановіча, рукапісы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і, магчыма, нават "Скрыпачку беларускую" Францішка Багушэвіча. Рукапісы і рэдкія кнігі маглі быць падабраны рыжскім збіральнікам у час нацысцкай акупацыі ў Мінску, дзе ён часта бываў, — у разгромленай акадэмічнай бібліятэцы.

Аднак Паўліна Мядзёлка неўзабаве памерла, і ў Латвію давялося ехаць мне ў 1980 годзе аднаму. У Рызе далучыліся да пошукаў мастак Вячка Целеш, паэт Пятро Сакол (Масальскі, таксама ўжо нябожчык). Утраіх мы абыйшлі добры кавалак горада, выязджалі на ўзмор'е. Пятро Сакол згадаў, што ў вайну ён аднойчы быў у кватэры Езавітава, дзе ўсе сцены былі застаўлены кнігамі. Па старой карце мы адшукалі тую вулачку і дом у Межапарку, з'ездзілі туды — і ўсё надарэмна.

— Ах, як шкада, што мы спазніліся, — сказаў тады паэт. — Некалькі месяцаў назад памерла ў Маскве другая жонка Езавітава — Ларыса Нікіфароўская. Праўда, у вайну яна знаходзілася па нашым баку фронта, але ў 1944 годзе вярнулася ў Рыгу, жыла на той жа кватэры. Дзесьці тут павінен быць пляменнік Нікіфароўскай. Вось толькі забыў яго прозвішча.

Потым па выпадкова знойдзенаму нумару аўтамашыны мы ўстанавілі прозвішча пляменніка — Эйгімс, яго новы адрас. Урэшце знайшлі і яго самога. Ён сказаў, што пасля вайны сапраўды жыў у доме, дзе раней была бібліятэка. І нават болей: калі ён быў у партызанах, яго двойчы скіроўвалі да Езавітава, каб высветліць, ці нельга яго, як аўтарытэтнага для беларусаў чалавека, перацягнуць на свой бок... Ад Эйгімса мы скіраваліся да іншых дзеячаў беларускай дыяспары ў Рызе. Нам цьмяна сказалі (са слоў А.Крэйц), што Езавітаў, здаецца, у 1944 годзе ўсё ж паспеў вывезці частку свайго архіва ў Германію. На гэтым пошукі тады і абарваліся. Пра іх я расказаў у нарысе, які ў 1987 г. увайшоў у кнігу "З літаратуразнаўчых вандраванняў", грунтоўна пашкуматанай "галоўлітаўцамі": Езавітава там, вядома, давялося назваць толькі адным словам — здраднік.

Паступова ўся гісторыя пачала забывацца. Праўда, на нейкі час яе ажывілі ў памяці рэдактарская работа над артыкулам пра К.Езавітава для біябібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі" ды чытанне яго паказанняў, зробленых у мінскай турме і апублікаваных у кліўлендскім "Полацаку". Там жа ў 1993 годзе я напаткаў успаміны Уладзіміра Брылеўскага, дзе былі такія радкі:

"Крыху пазьней (летам 1944 г. — *А.М.*), незадоўга перад сваім выяздам ў Нямеччыну, Канстантын Езавітаў паказваў мне сваю багатую біблі-

ятэку, у якой было шмат рэдкіх стараддрукаў. Кнігі стаялі ў вялікім пакоі на паліцах, ад падлогі аж да столі. Выязджаючы з Рыгі, Канстантын Езавітаў здолеў даволі шмат зь іх забраць з сабой.

У Нямеччыне, калі ён быў цяжка хворы (я чуў, што ён быў ранены падчас бамбардаваньня), кнігамі заапякаваўся адзін зь беларускіх дзеячоў Аляксей Сянькевіч, які і прывёз іх з сабой ў ЗША. Нажаль, бясцэнныя кнігі Канстантына Езавітава і па сёньняшні дзень захаваныя ад беларускага грамадзтва і не выкарыстоўваюцца" ("Полацак". 1993. № 6. С. 42).

А ў маі месяцы гэтага года на маё імя нечакана прыйшоў ліст з Вільнюса ад настаўніцы Леакадзіі Мілаш. Вось яго тэкст (з невялікімі скарачэннямі):

"Перачытвала Вашы кнігі "Астравеччына, край дарагі", "Восень пасярод вясны". А зараз чытаю "З літаратуразнаўчых вандраванняў". Як жа Вы маглі напісаць такое, што Кастусь Езавітаў здраднік, што ён уцякаў ад нашай арміі і г.д., (стар. 74–75.)?

Кастусь Езавітаў меў добрую бібліятэку. Усе сцены пакоя, які ён займаў, былі занятыя паліцамі з кнігамі. А архіў К.Езавітава вывез за мяжу мой добра знаёмы чалавек, ён жыве ў Літве, недалека ад мяне. Рызыкуючы сваім жыццём, ён прыехаў у Рыгу ў час вайны, каб забраць самае каштоўнае [...]. А пасля вайны савецкія чэкісты, ад якіх уцякаў К.Езавітаў, арыштавалі і таго, хто збярог каштоўнасці для нашчадкаў, правёў у сталінскіх кратах амаль 10 гадоў. Цяпер гэтаму чалавеку за 70 гадоў, не вельмі добра сябе адчувае, гады пражытыя бяруць сваё. Ён мне шмат распавядаў пра К.Езавітава, [...]."

Я тут жа адпісаў на ліст з просьбай расшыфраваць прозвішча "добра знаёмага чалавека", запісаць яго ўспаміны для "Кантактаў і дыялогаў", захаваць іх для гісторыі. Праз два тыдні прыйшоў адказ. Прыводжу яго амаль цалкам:

"Архіў К.Езавітава вывезлі Мікалай Рулінскі і Філіп Давідчык. Ф.Давідчык родам з-пад Любчы, зараз жыве у г.Тбілісі, навуковец, матэматык. У 1959 годзе М.Рулінскі і Ф.Давідчык спатыкаліся ў Любчы. Больш пра Ф.Давідчыка нічога не ведаю. А М.Рулінскі жыве недалека ад мяне, мы даўно знаёмы.

Нарадзіўся М.Рулінскі на Палессі. Бацька быў дыяканам. Пачатковую школу скончыў у вёсцы каля Баранавіч, дзе меў парафію бацька. Пасля паехаў вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію, якую не паспеў скончыць, бо пачалася Вялікая Айчынная вайна. Працягнуў вучобу у Навагрудскай настаўніцкай семінарыі — да 1944 г. Як вучань паехаў у Альбертын, што каля Слоніма, на курсы кіраўнікоў Саюза Беларускай Моладзі. У 1944 годзе эскадрон, якім камандаваў М.Рулінскі адступаў ад Савецкай арміі. І

ў Гродне ў канцы моста праз Нёман стаяў Ус.Родзька, перахопліваў беларусаў і накіроўваў у Варшаву, у беларускі аддзел. Там пабылі тыдзень ці два. Ус.Родзька з Барысам Рагулем дамовіліся з нямецкімі ўладамі аб арганізацыі беларусаў для барацьбы з бальшавікамі, якія былі б перакінуты на тэрыторыю Беларусі. Там М.Рулінскі закончыў афіцэрскія курсы і атрымаў званне лейтэнанта Беларускай краёвай абароны. Служыў у Ўсходняй Прусіі, ля г. Інстэнбург (цяпер Савецк), у мястэчку Дальвіц, дзе яны дыслацыраваліся. Таму і батальён назвалі "Дальвіц".

Калі бальшавікі набліжаліся, то пачалі адступаць і Родзька, і Рагуля. А камандаваў тады маёр немец Геруліс — ён быў начальнікам школы. З Вайвушаў быў падрыхтаваны і высаджаны дэсант у Беларусь. Разам з ім быў і М.Вітушка. Як скінулі дэсант у Беларусь, тут недзе і папаўся бальшавікам М.Вітушка, быў расстраляны. Ён быў камандзірам дэсантнай групы, а Мікалай Рулінскі быў намеснікам камандзіра. Але Рулінскага не скінулі з дэсантам, бо не раскрыўся парашут,.. М.Рулінскі едзе ў Берлін спаткацца з Б.Рагулем у Беларускай Цэнтральнай Радзе (БЦР). Там ён і сустрэўся з К.Езавітавым. А паколькі Рагуля добра ведаў М.Рулінскага, таму і даверылі яму і Ф.Давідчыку гэтую місію — вывезці архіў... Яны едуць з Берліна ў Гданьск. З Гданьска цягніком дабраліся да літоўскага горада Шаўляй. Далей дарога была адрэзана Савецкай Арміяй. Тады яны накіраваліся ў партовы горад Лібава, а затым на караблі дабраліся да Рыгі. Там знайшлі беларускую настаўніцу, з якой быў добра знаёмы К.Езавітаў (ён і даў яе адрас) і разам з ёю паехалі на вілу, дзе жыў К.Езавітаў. Два пакоі, якія займаў Кастусь, былі заняты бібліятэкай. "Калі мы ўвайшлі, дык ахнулі," — успамінае М.Рулінскі. — Усе сцены былі запоўнены кнігамі.

Дзве ночы яны выбіралі самае каштоўнае, затым збілі тры скрыні 1,5 х 1 метр. Туды паклалі яшчэ і некалькі асабістых рэчаў Езавітава, у тым ліку патэфон з дыскам "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Ноччу прывезлі скрыні на вакзал. Ішоў толькі ваенны нямецкі эшалон, а Рулінскі добра ведаў нямецкую мову, таму паставілі скрыні на нямецкія снарады, самі леглі на скрыні і так даехалі да порта. Затым на караблі дабраліся да Гданьска. Карабль абстрэльвалі, таму плылі ноччу. Вось так, перамагаючы перашкоды, рызыкуючы жыццём на кожным кроку, дваццацігадовы Мікалай Рулінскі разам з сябрам Філіпам Давідчыкам вывезлі частку архіва К.Езавітава за мяжу" [...]

Затым у лісце падрабязна гаворыцца пра далейшы драматычны лёс М.Рулінскага, якому за ўдалую аперацыю К.Езавітаў, тады генерал, прысвоіў званне старшага лейтэнанта. Але да галоўнай тэмы гаворкі гэта дачынення не мае.

Значыць, і з публікацыі ў "Полацаку", і з ліста сп. Леакадзіі Мілаш вынікае, што архіў Езавітава (прынамсі, яго асноўная, найбольш каштоў-

ная частка) быў вывезены з Рыгі ў Берлін (цяпер мы ведаем падрабязнасці), а адтуль — у ЗША. Вершы М.Багдановіча, якія захоўваліся ў архіве ў аўтографах, былі потым, у 50-я гады, надрукаваны ў Мюнхенскім зборы твораў нашага класіка. А рэшта? Захоўваецца ў ЗША, у Аляксея Сянкевіча (калі ён жыве), ці яго нашчадкаў? У В.Сянкевіча, які цяпер жыве ў Пасіфіцы, у штаце Каліфорнія? Гэта ўжо пытанні да нашай шаноўнай эміграцыі.

А можа, усё ж, нешта засталося і ў Рызе? Тым больш, што фізічныя магчымасці двух "насільшчыкаў" былі абмежаваныя... Паўліна Мядзёлка нешта ведала. Магла нешта сказаць сваім блізкім знаёмым, пакінуць след у паперах. Пошук трэба працягваць.

***("Кантакты і дыялогі". 1996. № 8–9)***

*Яўген Сулыга*

## *Хто абрабаваў Белую Русь?*

Спадары-таварышы, хто ўзяў ключы ад брамы горада Магілёва, просьба вярнуць за ўзнагароду! А яшчэ крыж Ефрасінні Полацкай — драўляны, абкладзены залатымі і сярэбнымі пласцінамі, упрыгожаны каштоўнымі камянямі і перагародчатай эмаллю. Дарэчы, ледзь не забыў пра шыйныя каралі з чатырох віткоў пустацелай залатой трубкі "вытворчасці made in Пампея"; шэсць залатых пярсцёнкаў з камянямі; сярэбраную булаву Жыгімонта III у выдатным стане; 18 000 штук залатых і сярэбраных манет усіх часоў і народаў; абраз Бялыніцкай Божай Маці, упрыгожаны каштоўнымі камянямі. А яшчэ... Зрэшты, стоп. Каб пералічыць усе каштоўнасці, якія за два апошнія стагоддзі экспрапрыяваны, канфіскаваны, украдзены ў Белай Русі, не хопіць газетнай паласы. На жаль, так ужо гістарычна складваўся лёс Беларусі. Яна заўсёды была прахадным дваром між Захадам і Усходам. Гіпербарэі ішлі з захаду, скіфы-азіяты — з усходу. Чырвоныя змянялі белых, і кожны воін лічыў абавязкам узяць на памяць аб талерантным беларускім народзе хоць каменьчык. Але паколькі сярод "чырвона-белых гіпербарэяазіятаў", у адрозненне ад рэкламнага воінства Тамерлана, дурняў браць звычайныя камяні не было, "на памяць" з Віцебска, Мінска, Магілёва сплывалі: золата, каштоўныя камяні, неацэнныя творы мастацтва.

Сёння залаты запас суверэннай Рэспублікі Беларусь практычна роўны нулю, а часткі беларускіх скарбаў можна знайсці ў музеях і прыватных калекцыях усіх краін свету.

У Англію на пачатку XX ст. вывезены і прададзены з аўкцыёна трон слуцкіх князёў, выраблены з слановай косці. У Аўстрыі апынуліся экспанаты Мінскага гістарычнага музея, звязаныя з яўрэйскай культурай Беларусі (карціны, кніжкі, рукапісы, прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва). Немцы ішлі транзітам праз Беларусь двойчы: у Першую і Другую сусветныя войны. Імі былі захоплены неацэнныя старадаўнія рукапісы, зброя з калекцыі Радзівіла, творы выяўленчага мастацтва. З музея ў горадзе Баранавічы ў 1942 г. нямецкія фашысты вывезлі палотны Рубенса. [...]

Разам з крыжам Ефрасінні Полацкай з Магілёўскага дзяржаўнага музея "сплылі" 89 найменняў вельмі каштоўных экспанатаў. У час Другой сусветнай вайны ў краіны Цэнтральнай і Заходняй Еўропы (Германія, Аўстрыя, Чэхаславакія, Польшча) былі вывезены шматлікія творы беларускага, рускага і заходнееўрапейскага мастацтва з Карціннай галерэі БССР, Дзяржаўнага гістарычнага музея, Баранавіцкага, Віцебскага і Магілёўскага абласных музеяў. Сярод іх — 221 твор беларускага, 223 творы рускага і 32 — заходнееўрапейскага жывапісу, 794 — графікі, 120 малюнкаў, 41 скульптура, 26 музычных інструментаў, 32 слуцкія паясы, 51 мэблевы выраб. Бясследна зніклі з Мінска неўміручыя творы Н.Ге, М.Урубеля, І.Левітана, А.Куінджы, В.Паленава, І. Айвазоўскага.

Нямала беларускіх культурна-гістарычных каштоўнасцей знаходзіцца цяпер у музеях былых брацкіх рэспублік СССР і перш за ўсё ў Расіі. Як правіла, яны траплялі туды мірным шляхам,але ў добраахвотна-прымусовым парадку. Да прыкладу, існаваў сакрэтны ўказ, паводле якога ўсе знойдзеныя на тэрыторыі БССР скарбы павінны былі перадавацца ў Маскву. І наогул, у тыя добра памятныя часы ўсё навокал было савецкае, ўсё нібы наша агульнае. У выніку 84 экземпляры выданняў беларускага асветніка, першадрукара Францыска Скарыны апынуліся ў Расійскім дзяржаўным гістарычным музеі. Тамсама знаходзіцца калекцыя слуцкіх паясоў і многае іншае. Семдзесят сем найменняў прадметаў антыкварнай мэблі, фарфору, шкла, бронзы, дываноў, вырабаў з тканіны і косці, якія паходзяць з Беларусі, захоўваюцца ў Эрмітажы. У Саратаў былі эвакуіраваны карціны Сальваторэ Роза, Шагала, Юдовіна, Пэна, якія належалі Віцебскаму і Мінскаму музеям. Да гэтай пары іх не вярнулі на гістарычную радзіму. Такі ж лёс напаткаў 86 экспанатаў Гомельскага музея, якія апынуліся пасля вайны ў Валгаградзе. У правінцыйным Тарапцы захоўваецца абраз "Адзігітрыя", прывезены святой Ефрасінняй Полацкай з Палесціны.

У гады савецкай улады энергічна гаспадарыла ў Беларусі славутае аб'яднанне па экспарту "Антыкварыят". Непасрэдна падборам і вывазам музейных скарбаў за мяжу займалася экспартна-імпартная ўстанова "Дзяржгандальбел". Маштабы іх дзейнасці перасягаюць нават нямецка-фашысцкі грабёж.

У зборніку ("Вяртанне-2". — *Рэд.*) дакументаў і архіўных матэрыялаў аб праблемах пошуку і вяртання нацыянальных каштоўнасцей, выдадзеным Беларускім фондам культуры, ёсць цікавыя дакументы, якія датычацца дзейнасці "Антыкварыята" і яго эмісара ў Мінску нейкага А.Брука. Да прыкладу: акт ад 4 лістапада 1931 г. на выбраныя прадметы, якія мелі экспартнае значэнне, з Гомельскага дзяржаўнага музея. Усяго было падабрана шэсць прадметаў. Сярод іх: габелен фламандскай работы наборны, прыкладны кошт — 10 000 рублёў; драўлянае бюро з фарфоравымі ўстаўкамі (XVII ст.) — 1 000 рублёў. У кожным такім акце ўказана, што рэчы гэтыя могуць быць перададзены без шкоды для экспазіцыі музея. З Віцебскага дзяржаўнага музея канфіскаваны прадстаўніком "Антыкварыята" Брукам "без страт для экспазіцыі" дзве гравюры Дзюрэра коштам 6 000 рублёў за кожную, персідская гравюра ў фарбах за 100 рублёў. Беларускія каштоўнасці, канфіскаваныя Брукам, перапраўляліся па адрасу: Ленінград, Набярэжная 9 студзеня, дом 18...

Іншы раз бясцэнныя помнікі беларускай даўніны знікалі зусім анекдатычна. У свой час кінематаграфісты здымалі фільм па сцэнарыю У.Караткевіча "Дзікае паляванне караля Стаха". Яны ўзялі ў Гродне тры старадаўнія драўляныя скульптуры і перавезлі на здымачную пляцоўку ў Олескі замак пад Львовам. Там скульптуры знаходзяцца і да сённяшняга дня.

Як вярнуць страчаныя каштоўнасці?

Гэтае салодкае слова "рэстытуцыя" (вяртанне культурных каштоўнасцей) сёння хвалюе беларускую грамадскую думку. Пры Фондзе культуры створана камісія "Вяртанне", якую ўзначаліў вядомы вучоны прафесар Адам Мальдзіс. Але што можа зрабіць грамадская арганізацыя, калі да гэтага часу паміж Расіяй і Беларуссю няма адпаведнага двухбаковага пагаднення пра рэстытуцыю. У выніку даследчыцу Маю Яніцкую, якая паехала ў Саратаў для пошуку экспанатаў Віцебскага музея, у сховішча Саратаўскага музея не пусцілі. І не толькі яе, і не толькі ў Саратаве. Зачынілі дзверы сваіх калекцый Морган, Ракфелер, куды па "наводцы" балгарскай празорцы імкнуліся трапіць беларускія шукальнікі страчаных рэліквій. У мінулым годзе нашы дзеячы культуры імкнуліся ў аднабаковым парадку ініцыяваць абмен каштоўнасцямі паміж суседзямі з бліжняга замежжа. Да прыкладу, падарылі Украіне частку бібліятэкі Сымона Пятлюры. Спадзяваліся на "алаверды", але Кіеў прамаўчаў (часткова, бо быў вернуты абраз "Апостал. — *Рэд.*). Маўчыць і Расія, якой Беларусь не так даўно перадала 15 абразоў, канфіскаваных Брэсцкай мытняй у кантрабандыстаў. Зрэшты, абвінавачваць у гэтым трэба беларускі ўрад, які "саромеецца" ўзнімаць пытанні рэстытуцыі ў час падпісання міжурадавых пагадненняў. У прыватнасці, не ўзнімаў пытанні рэстытуцыі міністр культуры рэспублікі ў час апошняй сустрэчы Ельцына з Лукашэнкам. Пра адсутнасць дзяржаўнай палітыкі ў пытаннях рэстытуцыі сведчыць праведзены не так даўно ў Нью-Йорку міжнародны сімпозіум "Тра-

феі вайны”, прысвечаны рэпатрыяцыі помнікаў культуры. Расію на сімпозіуме прадстаўляў намеснік міністра культуры, ён жа старшыня Дзяржаўнай камісіі па справах рэстытуцыі М.Швідкой. Украіна дэлегавала старшыню Дзяржкамітэта па вяртанню культурных каштоўнасцей пры Савеце Міністраў. Ад імя Беларусі выступаў старшыня камісіі “Вяртанне” — грамадскай арганізацыі, якая не мае, на жаль, дзяржаўных паўнамоцтваў. А без іх, самі разумееце, толькі і застаецца, што расклейваць у прысутных месцах аб'явы тыпу: “Прапала мармуровая скульптура Леанарда да Вінчы! Таго, хто знайшоў, просім вярнуць яе законнаму ўладару — беларускаму народу”.

***(“Советская Белоруссия”. 1995. 5 крас.)***
*Пераклала з рускай мовы* ***Уляна Шаставец***

*Сяргей Сянкевіч*

## *Абраз Ісуса Хрыста вярнуўся на Радзіму*

Цяпер мы больш прывыклі да таго, што каштоўнасці вывозяцца ад нас за мяжу. Ужо нікога не здзіўляе паведамленне, што на мытні затрымалі кантрабанду антыкварыяту, царкоўных абразоў. І тым больш прыемна пачуць, што, наадварот, нешта згубленае і забытае вярнулася ў краіну.

У першыя дні вайны, калі нямецка-фашысцкія войскі імкліва рухаліся па тэрыторыі Беларусі, у адным мястэчку снарад патрапіў у царкву. Нямецкі салдат Карл Гутман забег у палаючы храм і вынес адтуль абраз Ісуса Хрыста.

Ваенныя шляхі прывялі маладога салдата і на бітву пад Масквой, і на абарону правабярэжжа Дняпра, калі яго фарсіравалі савецкія войскі. Але ён жывы і здаровы дачакаўся капітуляцыі Германіі. І ўвесь гэты час насіў пры сабе ікону.

— Гэта не я выратаваў ікону, а яна зберагла мяне ў тыя цяжкія гады, — сказаў спадар Гутман.

Сумленне, сэрца і душа гаварылі яму, што абраз павінен вісець не ў яго кватэры, а ў царкве на Беларусі, адкуль быў вывезены больш за 50 гадоў таму.

Карл Гутман звярнуўся за парадай да езуіта ўсходняга абраду айца Ота. Гэтая гісторыя вельмі кранула законніка, і ён звязаўся са спадаром Дэ Вольфам, прэзідэнтам дабрачыннага міжнароднага місіянерскага таварыства святых Кірылы і Мяфодзія. Спадар Дэ Вольф вядзе актыўную місіянерскую дзейнасць на Заходняй Украіне ў грэка-каталіцкіх парафіях. І вось чарговы раз, калі прыехаў з Кёльна ў Львоў, ён заехаў у Мінск і перадаў ікону ў

грэка-каталіцкую капліцу Іконы Маці Божай Нястомнай Дапамогі, якая знаходзіцца на вуліцы Прытыцкага.

Гэты падарунак вернікам дарагі ўдвая. Па-першае, як знак увагі і чалавечнасці з боку спадара Гутмана. Па-другое — Беларуская грэка-каталіцкая царква, якая знаходзіцца, мабыць, у самым жабрацкім стане сярод цэркваў Беларусі (не можа вярнуць ні храмаў, ні ікон, ні літаратуры) рада набыццю любых царкоўных каштоўнасцяў. А такіх — асабліва.

***("Голас Радзімы". 1993. 30 снеж.)***

*С.М.*

## *Свята і роздум, падораныя Літвой*

13 чэрвеня 1995 года ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь адбылася даволі неардынарная падзея. Літоўскай Рэспублікай было перададзена Беларусі факсіміле (на самай справе каляровая ксеракопія. — *Рэд.*) Тураўскага Евангелля XI стагоддзя.

На ўрачыстасці прысутнічалі пасол Літвы ў Беларусі сп. В.Баўбліс, міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь сп. У.Сянько, намеснік міністра культуры і друку сп. І.Карэнда, пасол Беларусі ў Літве сп. Я.Вайтовіч, старшыня Беларускага фонду культуры сп. І.Чыгрынаў і іншыя адказныя асобы.

— Перадача набывае сімвалічнае значэнне, — адзначыў сп. І.Карэнда, — бо адбываецца ў дні, калі распачынаецца свята беларускага пісьменства і друку, якое ў гэтым годзе пройдзе ў старажытным Тураве.

Сп. Вайтовіч паведаміў пра складаны лёс Тураўскага Евангелля, якое з'яўляецца найкаштоўным помнікам пісьменства і матэрыялам для даследаванняў, на якім нават ёсць уласнаручныя зацемкі гетмана Астрожскага і які зусім выпадкова быў знойдзены ў скрыні для вугалля. Захаваліся ўсяго толькі дзесяць старонак.

І хоць факсіміле само па сабе незвычайнае, бо зроблена [...] і спецыяльна ў знак сяброўства паміж Літвой і Беларуссю нанава па-мастацку пераплецена віленскімі майстрамі, усё ж копія не можа замяніць арыгінал, і ў святочнасць падзеі гэта прыўносіць пэўную гарчынку. Аднак адначасова ўзнікае пытанне, а ці можам мы ўжо захоўваць на нашай зямлі каштоўныя здабыткі беларускай, а таму сусветнай культуры, без небяспекі для іх, дзе яшчэ стаўленне да ўсёй беларускасці, мякка кажучы, другаснае?

***("Культура". 1995. 27 чэрв.)***

## *Змест*

# ВЯРТАННЕ–3

Складальнікі: Аркадзь Тоўсцік
Мая Яніцкая

Арыгінал-макет падрыхтаваны ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны

Набор: Аксана Багдановіч
Анастасія Дзядзенка
Набор, вёрстка, дызайн:
Яраслаў Мальдзіс

Адказная за выпуск:
Таццяна Рошчына

Падпісана да друку 16.10.1996 г.
Фармат 60×84 1/16.
Папера афсетная.
Друк афсетны.
Умоўн. друк арк. 11,28.
Ул.-выд. арк. 14,88
Заказ
Тыраж 1000 экз.
Цана дагаворная.

Беларускі фонд культуры.
220030, Мінск, вул. Я.Купалы, 17/30.
Выдавецкая ліцэнзія № ЛВ 221.

Надрукавана ў друкарні Эксперыментальнага комплекснага прадпрыемства “Светоч”.
200010, Мінск, вул. Жодзінская, 24.